Б С С Р
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ХІМІЧНЫ І БІЯЛАГІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТЫ

Учёные записки



# ВУЧОНЫЯ ЗАПІСКІ

## № 28

МЕНСК • 1936
ВЫДАННЕ БДУ

Б С С Р

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ХІМІЧНЫ І БІЯЛАГІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТЫ



ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ВУЧОНЫЯ ЗАПІСКІ

## УЧЕНЫЕ ЗАПИСКИ






ВЫДАННЕ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА
МЕНСК • 1936

ВУЧОНЫЯ ЗАПІСКІ ХІМІЧНАГА І БІЯЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА № 28. 1936 г.

Н. Ф. ЕРМОЛЕНКО

# ФІЛЬТРАЦЫЙНЫ АНАЛІЗ, ЯК ДЫСПЕРСОІДАНАЛІТЫЧНЫ МЕТАД АЦЭНКІ АДСАРБЕНТАЎ

У сувязі з усё ўзрастаючым унядрэннем фізіка-хімічных метадаў апрацоўкі прадуктаў нафтавай і тлушча-маслянай прамысловасці, выкарыстоўваючай для мэты адсарбцыйнага асвятлення тлушчаў і маслаў натуральныя адсарбенты—гліны і землі, адным з чарговых пытанняў у праблеме вывучэння гэтага роду адсарбентаў з'яўляецца пытанне аб вышуканні метадаў іх характарыстыкі.

Гаворачы аб такіх адсарбентах, як дрэўны, альбо жывёльны вугаль, сілікагель, актывіраваных альбо неактывіраваных, мы маем хаця-б агульнае прадстаўленне аб іх адноснай адсарбцыйнай актыўнасці, хаця і тут актыўнасць адсарбентаў хістаецца ў даволі шырокіх прэдзелах ад цэлага раду ўмоў і фактараў. Значна горш абстаіць справа з прыроднымі адсарбентамі—глінамі і землямі. Амаль усе даследчыкі гэтай галіны сходзяцца на тым пункце погляду, што судзіць аб іх адсарбцыйнай актыўнасці можна толькі пасля спецыяльнага вымярэння велічыні адсорбцыі з данага асяроддзя [1]) і што агульная хімічная і нават фізіка-хімічная характарыстыка не можа цалкам характарызаваць гліну як адсарбент.

Гэта тлумачыцца тым, што як гліны, так і асвятляемыя маслы прадстаўляюць сабой складаныя і нясталыя сістэмы і пры наяўнасці яшчэ ізбірацельнасці ў з'явах адсорбцыі сапраўды цяжка выпрацаваць агульны падыход к вырашэнню праблемы аб характарыстыцы прыродных адсарбентаў, прыемлемы для любой адсарбцыйнай сістэмы.

Не гледзячы, аднак, на значныя хістанні прыродных адсарбентаў па іх хімічнаму складу, рашаючую ролю ў працэсах адсорбцыі адыгрываюць усё-ж іх фізіка-хімічныя ўласцівасці, і чым больш мы знаем іх у гэтых адносінах,

тым бліжэй мы падыйдзем да вырашэння пытання аб іх характарыстыцы [2]).

На аснове вялікага матэрыяла, маючагася ў сучасны момант па прыродных адсарбентах [3]), выкарыстоўваючы ўласныя даныя ў гэтым напрамку [4]) у папярэдняй працы [5]) былі разабраны асноўныя фізіка-хімічныя ўласцівасці, характэрныя для высока-актыўных адсарбентаў. Адначасова з гэтым мной у даным даследванні зроблены спробы выкарыстаць яшчэ адзін фізіка-хімічны метад у мэтах характарыстыкі адсарбентаў—гэта метад фільтрацыйнага аналізу.

Прымяненне данага метада мае пад сабой тэарэтычнае аснаванне хаця-б ужо таму, што і адсорбцыя і хуткасць фільтрацыі цяснейшым чынам звязаны з калаідальнай прыродай адсарбента. Яшчэ работамі Во. Оствальда [6]) і яго школы[7]) на прыкладах даследвання характару глеб метадам фільтрацыйнага аналізу паказана, што пясчаністыя глебы маюць максімальную хуткасць фільтрацыі і па меры абагачэння глеб калаідальнымі прымесямі хуткасць фільтрацыі падае, маючы мінімальнае значэнне для багатых калоідамі гліністых глеб. Пры ўвядзенні ў каалінавыя суспензіі электралітаў Жукаву [8]) ўдалося ўстанавіць сувязь паміж стабільнасцю суспенсоіда, змяняемай з адсорбцыяй электралітаў і хуткасцю фільтрацыі. Фільтрацыйны аналіз быў з поспехам прыменен Matthäus [9]) для азначэння ступені набухання кажэвенных парашкоў. Найбольш шырока гэты метад выкарыстан Анціпавым-Каратаевым [10]) для даследвання характару глеб і ўплываў асяроддзя на стан глебавых калоідаў. А. В. Трыфанавым [11]) былі зроблены спробы матэматычнага выражэння хуткасці фільтрацыі гліністых суспензій, які выражаў даныя фільтрацыі наступнай формулай:

$$S = 2,3 \frac{\alpha}{k} \lg (1+Kt)$$

S—колькасць фільтрата

t—час фільтрацыі

$\alpha$, k—канстанты, з іх „$\alpha$" выражае пачатковую хуткасць, „k"—каэфіцыент затухання фільтрацыі.

Аднак Анціпаў-Каратаеў, абагульняючы свой даволі абшырны даследчы матэрыял, прыходзіць к вываду, што трудна выразіць у матэматычнай залежнасці дысперснасць суспенсоіда і яго хуткасць фільтрацыі. Калі-б мы мелі справу проста з механічнымі частачкамі данай ступені дысперснасці суспенсоіда, то мы ў праве чакаць пры захаванні сталых умоў вопыта поўнай васпраізвадзімасці фільтрацыі і значыць скарыстоўваць даныя для строга матэматычнай апрацоўкі. Паколькі, аднак, у гліністых суспензіях

мы маем справу з калаідальнай сістэмай, падвержанай працэсу старэння і ўладаючай адноснай, лёгкапарушаемай ад цэлага раду фактараў стабільнасцю, то мы тут і назіраем значныя ваганні ў хуткасці фільтрацыі. Але якраз гэтыя ваганні ў фільтрацыі калаідальнай сістэмы тым больш цікавы, што яны, адлюстроўваючы стан сістэмы, могуць у пэўнай ступені характарызаваць адсарбцыйную актыўнасць вешчаства. Незалежна ад фільтрацыйнага метада, выходзячы толькі з палярнасці адсарбента і адсарбіруемага вешчаства, выходзячы з гідрафільнасці і гідрафобнасці адсарбента, мы загадзя абмяжоўваем вобласць прымянення прыродных адсарбентаў галоўным чынам няводнымі сістэмамі. Больш яснае прадстаўленне аб якасці адсарбентаў мы атрымоўваем па даных яго структуры. Крышталічныя пароды, нават крышталічны каалін, уладаючыя адносна невялікай удзельнай паверхняй—слабыя адсарбенты, наадварот—аморфныя—інфузорныя землі, трэпел і г. д. і калаідальныя гліны—адсарбцыйна-актыўны. Аднак гэтыя агульныя прадстаўленні ўскладняюцца, як толькі мы падыходзім к характарыстыцы адсарбентаў сярод асобных узораў з названых груп. У гэтым выпадку побач з другімі фізіка-хімічнымі паказальнікамі вялікае значэнне ў ацэнцы адсарбентаў можа мець іх фільтрацыйная здольнасць.

## ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЯ ЧАСТКА

Аб'ектам даследвання мною ўзяты гліны і землі, названыя альбо па месцу іх атрымання, альбо па характару пароды. Спачатку пароды даводзіліся да паветрана-сухога стану, размалваліся, прасейваліся праз сіта ў 0,5 і 0,25 мм, а сярэдняя проба з кожнай гліны падвяргалася поўнаму памолу для ўтварэння хімічнага аналізу.



Ф льтрацыйны прыбор.

Хуткасць фільтрацыі азначалася па метаду Во. Оствальда [6]), якім карысталіся потым у сваіх даследваннях Жукаў [8]) і Анціпаў-Каратаеў [10]). На варонку Бюхнера з двайным фільтрам хутка выпівалася проба з 2,5 г гліны і 50 куб. см вады, папярэдне ўзбоўтаная на шутэле на працягу 30 мінут. Роўна праз тры мінуты бюрэтка злучалася з манастатам,

рабіўся першы адлік у бюрэтцы і пад пастаянным разражэннем на 35 см воднага стаўба фільтрацыя працягвалася да канца са штомінутным адлікам узроўню ў бюрэтцы. Падобным чынам утвараліся вымярэнні для ўсіх проб даследуемых глін і зямель. Даныя прыведзены ў таблiцы 1.

*Табліца № 1*

**Хуткасць фільтрацыі паветрана-сухіх глін і зямель**

| t | Алювіяльная | Іванаўскі трэпел | Глухаўскі каалін | Апока | Жалезістая | Шэра-зялёная | Агнеўпорная | Глаўканітавая | Лентачная |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | — | 7,0 | 5,9 | 4,4 | 5,9 | 5,2 | 2,3 | 2,7 | 1,3 |
| 4 | 17,9 | 12,2 | 10,0 | 8,1 | 9,2 | 8,0 | 4,3 | 4,4 | 2,4 |
| 5 | 15,6 | 16,4 | 13,2 | 10,7 | 11,7 | 10,4 | 5,7 | 5,7 | 3,4 |
| 6 | 21,7 | 20,4 | 16,1 | 13,3 | 14 | 12,7 | 7,2 | 6,9 | 4,3 |
| 7 | 27,0 | 23,8 | 18,7 | 15,7 | 16,1 | 14,7 | 8,4 | 8,0 | 5,2 |
| 8 | 31,8 | 27,2 | 21,1 | 17,7 | 18,1 | 16,6 | 9,6 | 9,1 | 6,0 |
| 9 | 36,4 | 30,2 | 23,5 | 19,8 | 19,9 | 18,3 | 10,6 | 10,0 | 6,9 |
| 10 | 40,3 | — | 25,7 | 21,8 | 21,6 | 20,1 | 11,6 | 10,9 | 7,7 |
| 11 | | — | 27,9 | 23,7 | 23,3 | 21,7 | 12,6 | 11,8 | 8,5 |
| 12 | | 32,8 | 30,0 | 25,5 | 25,0 | 23,3 | 13,5 | 12,5 | 9,2 |
| 13 | | 35,3 | 32,0 | 27,2 | 26,7 | 24,7 | 14,4 | 13,2 | 9,7 |
| 14 | | | 34,1 | 28,8 | 28,3 | 26,1 | 15,4 | 13,9 | 10,4 |
| 15 | | | 36,2 | 30,2 | 29,9 | 27,5 | 16,3 | 14,5 | 11,0 |
| 16 | | | 38,1 | 31,6 | 31,4 | 28,9 | 17,2 | 15,2 | — |
| 17 | | | | 33,0 | 32,9 | 30,1 | 18,1 | 15.9 | — |

Перанёсшы даныя фільтрацыі на восі каардынат (фіг. 2), атрымаем крывыя, распаложаныя трыма групамі—з максімальнай хуткасцю фільтрацыі (1, 2, 3, 4), сярэдняй (5, 6) і мінімальнай хуткасцю (7, 8, 9).

Каб устанавіць залежнасць паміж хуткасцю фільтрацыі суспенсоідаў і іх адсарбцыйнай здольнасцю, былі ўстаноўлены для іх акрамя хімічнага складу цэлы рад дадатковых канстант—механічны аналіз, удзельная вага, пластычнасць і, нарэшце, праверана адсарбцыйная здольнасць у адносінах да мінеральных маслаў ї карасіна (табл. 2).

Падобнае ўсебаковае даследванне адсарбента асабліва важна ў даным выпадку, калі ўпершыню робяцца спробы прымянення фактара хуткасці фільтрацыі к характарыстыцы

*Табліца № 2*

| | Назва гліны і зямель | Хімічны састаў | | | | | Механічны аналіз | | | d | η′ | S | Г |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | $SiO_2$ | $Al_2O_3$ | $Fe_2O_3$ | CaO | MgO | 0,25–0,05 | 0,05–0,01 | <0,01 мм. | | | | |
| 1 | Алювіяльная гліна. . . | 73,75 | 6,77 | 4,42 | 2,52 | 1,52 | 12,17 | 5,33 | 78,13 | 2,39 | — | 27,0 | 43,18 |
| 2 | Іванаўскі трэпел . . . | 73.37 | 7,40 | 4,10 | 3,84 | 1,01 | — | — | — | 1,91 | — | 24,8 | 62,12 |
| 3 | Глухаўскі каалін . . . | — | — | -- | — | — | — | — | — | — | +— | 18,7 | 54,54 |
| 4 | Апока . . . . . . . | 88,02 | 5,55 | 1,20 | 1,0 | 1,12 | — | — | — | 1,80 | — | 15,7 | 55,35 |
| 5 | Жалезістая гліна . . . | 56,96 | 18,24 | 13,22 | 1,03 | 1,01 | 8,56 | 10,38 | 89,62 | 2,37 | + | 16,1 | 48,97 |
| 6 | Шэра-зялёная гліна . . | 71,54 | 11,77 | 6,19 | 1,46 | 1,69 | 8,86 | 19,44 | 70,24 | 2,37 | — | 14,7 | 37,5 |
| 7 | Агнеўпорная . . . . | 66,01 | 14,98 | 8,69 | 1,14 | 1,40 | 9,56 | 3,03 | 83,28 | 2,43 | + | 8,4 | 60,31 |
| 8 | Глаўканітавая . . . . | 63,35 | 9,20 | 11,24 | 1,90 | 2,16 | 15,20 | 2,0 | 78,34 | 2,69 | — | 8,0 | 50,98 |
| 9 | Лентачная . . . . . | 56,7 | 13,88 | 6,12 | 8,72 | 5,15 | 0,65 | 2,41 | 96,95 | 2,31 | + | 5,2 | 50,95 |

S — хуткасць фільтрацыі ў куб. см; t=7 мін.

Г — % асвятлення карасіна

η — пластычнасць

адсарбентаў, бо пры вывучэнні калоідных сістэм з відавочнасцю ўстаноўлена [12]), што калаідальныя сістэмы ў адрозненне ад груба-дысперсных сістэм і ісціных раствораў могуць быць характарызаваны не адной, двума, а значна большым лікам канстант, адной з якіх у даным выпадку будзе хуткасць фільтрацыі.

Раней было ўказана [5]), што для добрых прыродных адсарбентаў характэрны наступныя фізіка-хімічныя прызнакі і ўласцівасці:

1) Сярэдняя альбо нізкая ступень пластычнасці пры аморфнай структуры адсарбента.

2) Высокая пластычнасць пры высокай ступені дысперснасці ў натуральным стане.

3) Малая ўдзельная вага.

4) Адсутнасць вялікай колькасці карбанатаў.

5) Нізкі % крышталічнай $SiO_2$.

6) Нізкі % арганічных калоідных прымесяў.

7) Высокая гіграскапічнасць у паветрана-сухім стане.

8) Тлустая навошчуп.

9) Кіслая рэакцыя.

10) Па хімічнаму саставу адсарбент павінен прыбліжацца альбо к крэмнекіслаце, альбо каалініту, але мець пры гэтым аморфную структуру. Па хімічнаму саставу часта назіраюцца адхіленні.

11) Афарбоўка не мае рашаючага значэння.

Аналізуючы даныя табл. 2, мы бачым, што *прамой прапарцыянальнай залежнасці паміж хуткасцю фільтрацыі і адсарбцыйнай актыўнасцю глін і зямель не назіраецца.* У ліку хутка фільтруючыхся парод мы маем адсарбцыйна-актыўныя—трэпел, глухаўскі каалін, апоку і інактыўную алювіяльную гліну. Марудна фільтруючыміся аказаліся— з асарбцыйна-актыўных: лентачная і агнеўпорная і менш актыўная—глаўканітавая. Сярэдняе палажэнне па хуткасці фільтрацыі занялі шэра-зялёная і жалезістая гліна. Каб зразумець падобнае размеркаванне глін, неабходна застанавіцца на прычынах змянення хуткасці фільтрацыі суспенсоідаў.

Як паказалі даследванні Во. Оствальда, Жукава і іншых, хуткасць фільтрацыі знаходзіцца ў адваротнай залежнасці ад калоіднасці даследуемага аб‘екта, ад ступені дысперснасці стабільнасці золя. Таму, калі мы маем пясчаністую гліну з вялікім процантам крышталічнай $SiO_2$, маючую значыць нізкі процант калоідных прымесяў, малую сумарную адсарбцыйную паверхню, характарызуемую нізкай гіграскапічнасцю і вялікай шчыльнасцю і нарэшце нізкай пластычнасцю, то такія гліны будуць мець максімальную хуткасць фільтрацыі і мінімальную адсорбцыю. Да іх у прыватнасці адносяцца даследваемая намі алювіяльная гліна і да некаторай ступені

шэра-зялёная. Але максімальную хуткасць фільтрацыі будуць мець таксама не пластычныя, а аморфныя ўтварэнні (інфузорныя землі) з нізкай удзельнай вагой, высокай гіграскапічнасцю, багатыя аморфнай $SiO_2$ і разам з тым уладаючыя высокай адсарбцыйнай актыўнасцю. Сюды ў нашым выпадку адносіцца трэпел, каалін і апока.

Вось чаму ў групе хутка фільтруючыхся глін і зямель мы маем адначасова высока-актыўныя і інактыўныя ўтварэнні, прычым першыя пераважна пластычныя, другія—аморфныя.

К групе марудна фільтруючыхся глін з дысперсоіднага пункту гледжання павінны адносіцца раней за ўсё багатыя калоіднымі ўтварэннямі ўзоры. У глінах мы сустракаем ў асноўным тры тыпы калоідных утварэнняў: 1) высока-дысперсная суспензія „глiністага вешчаства", па падліках Searle [13]) такіх частачак у асобных сортах глін бывае да 3%, 2) гелепадобныя ўтварэнні алюмасіліката. У працэсе паступовага разрушэння асноўных глінаўтвараючых парод (палявых шпатаў і інш.) пры працяглым дзейнічанні вады алюмасілікат можа разрушацца на раду з іншымі працэсамі, таксама і ў сілу гідроліза. У выніку гэтага працэса на паверхні глiністых частачак утвараецца гідратная гелепадобная абалонка алюмасіліката, замаруджваючая працэс фільтрацыі і павышаючая адсарбцыйную актыўнасць глін, і нарэшце 3) гліны ў большасці выпадкаў утрымліваюць большую або меншую колькасць арганічных калоідных прымесяў (гумусавыя і іншыя злучэнні).

Хуткасць фільтрацыі глін, абавязаная тром названым тыпам калоідаў, будзе вар'іраваць як ад іх адноснай колькасці, так і дысперснага стану, стабільнасці, залежачых ад прымесяў электралітаў і іншых умоў. Аднак пры ўсіх гэтых умовах калаідальна-абагачаныя гліны будуць мець меншую хуткасць фільтрацыі, чым першая група глін і зямель.

Замаруджаная фільтрацыя такіх узораў глін, як глаўканітавая, можа быць абавязана таму, што гліна састаіць з двух, рэзка адразняльных па ўдзельнай вазе ўтварэнняў: з зялёных зерняў, багатых глаўканітам, вельмі хутка выпадаючых на дно шчыльным слоем і тым замаруджваючы фільтрацыю і астатняй часткі гліны, больш светлай, утрымліваемай ва ўзважцы і як усякі стабільны суспенсоід марудна фільтруючыйся.

Пераходзячы зараз к сувязі паміж хуткасцю фільтрацыі і адсарбцыйнай актыўнасцю, мы і ў групе марудна фільтруючыхся глін (табл. 2) маем як актыўныя, так і малаактыўныя гліны. К першым адносяцца гліны багатыя высока-дысперснымі частачкамі, маючыя 83—97% частачак $<0{,}01$ мм. Па-другое, гэта будуць гліны багатыя гелепадобнымі, аморфнымі мінеральнымі злучэннямі. У тым і другім выпадку

гліны маюць высока-развітую адсарбцыйную паверхню і высокую адсарбцыйную актыўнасць.

К менш актыўным будуць адносіцца гліны, багатыя арганічнымі калаідальнымі прымесямі. Апошнія, адсарбіруючыся на паверхні частачак глiністага суспенсоіда, зніжаюць энергію іх паверхні, звязваюць ненасычаныя сувязі паверхневых атамаў адсарбента і тым зніжаюць іх далейшую адсарбцыйную здольнасць.

Гліны, займаючыя прамежкавае месца па хуткасці фільтрацыі, у маім выпадку—жалезістая і шэра-зялёная, уладаюць і прамежкавай адсарбцыйнай актыўнасцю, прыбліжаючыся к першай або другой групе.

Асобна ўзятая велічыня хуткасці фільтрацыі гліны, як і ўсякая другая асобна ўзятая фізіка-хімічная канстанта, не магла-б характарызаваць нам поўнасцю прыродных адсарбентаў, але ў радзе іншых фактараў гэта велічыня, як мы бачым, з'яўляецца адным з лепшых паказчыкаў адсарбцыйнай актыўнасці глін.

## УПЛЫЎ ТЭМПЕРАТУРЫ НА ХУТКАСЦЬ ФІЛЬТРАЦЫІ ГЛІН

Калаідальная сістэма глін, як і ўсякая другая калаідальная сістэма, чулліва да ўсякіх знешніх уплываў, у тым ліку і да тэмпературы. З павышэннем тэмпературы наступаюць працэсы дэгідратацыі, якія вядуць суспенсоід часцей за ўсё к неабрацімай каагуляцыі. Арганічныя калаідальныя прымесі, як гэта было ўстаноўлена на гуматах [14]), хаця ў пэўных тэтпературных граніцах каагуліруюць і абрацімa, але ступені гідратацыі іх усякі раз зніжаюцца, прадстаўляючы тыповы выпадак гістэрэзіса. У сувязі з працэсам дэгідратацыі мы натуральна павінны чакаць павелічэння хуткасці фільтрацыі папярэдне высушаных пры 120° (табл. 3, фіг. 1) альбо пракаленых пры больш высокіх тэмпературах глін (табл. 4, фіг. 2).

Адначасова з ростам хуткасці фільтрацыі для такіх глін мы назіраем і рост адсарбцыйнай актыўнасці. Паколькі адсорбцыю глінамі мы вядзем з мінеральна-масляных срэд, то пры ўдаленні гіграскапічнай вады ў працэсе сушкі глін мы робім даступнымі поры іх для пранікнення туды адсарбіруемых арганічных вяшчэстваў, часта няздольных к дыфузіі праз водны слой у капілярах.

Пры яшчэ больш высокіх тэмпературах, калі зусім разрушаюцца арганічныя калаідальныя прымесі глін, хуткасць фільтрацыі і адсорбцыя растуць яшчэ больш. Нарэшце, пры тэмпературах блізкіх к 500—700°, калі могуць наступіць працэсы частковага спякання адсарбента, пры далейшым росце фільтрацыі, адсарбцыйная актыўнасць падае. У табл. 3 і 4 прыводзяцца даныя фільтрацыі тэрмічна-апрацаваных глін.

*Табліца № 3*

**Уплыў тэмпературы высушвання агнеўпорнай гліны 0,5 мм на хуткасць фільтрацыі**

| t | Паветрана-сухая I | 120° II | t | в/с I | 120° II |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | — | — | 13 | 14,4 | 30,2 |
| 2 | — | — | 14 | 15,4 | 32,2 |
| 3 | 2,3 | 4,0 | 15 | 16,3 | 34,1 |
| 4 | 4,3 | 7,8 | 16 | 17,2 | 36,0 |
| 5 | 5,7 | 10,8 | 17 | 18,1 | 37,7 |
| 6 | 9,2 | 13,6 | 18 | 18,8 | 39,5 |
| 7 | 8,4 | 16,2 | 19 | 19,6 | 41,2 |
| 8 | 9,6 | 18,8 | 20 | 20,4 | — |
| 9 | 10,6 | 21,3 | 21 | 21,1 | — |
| 10 | 11,6 | 23,6 | 22 | 21,8 | — |
| 11 | 12,6 | 25,8 | 23 | 22,4 | — |
| 12 | 13,5 | 28,0 | 24 | — | — |




Фіг. 1

*Табліца № 4*

**У табліцы 4 прыводзяцца даныя хуткасці фільтрацыі для глін 0,5 мм, папярэдне высушаных пры 300° і 500° на працягу 2-х гадзін**

| №№ глін | 1 | 2 | | 3 | 5 | | 6 | | 7 | | 8 | | 9 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| t \ t° | 500° | 300° | 500° | 300° | 300° | 500° | 300° | 500° | 300° | 500° | 300° | 500° | 300° | 500° |
| 3 | 21,3 | 13,0 | 21,4 | 7,1 | 6,6 | 15 | 8,4 | усе | 4,4 | 17,7 | 3,1 | 6,4 | 5,1 | 7,6 |
| 4 | усе | 21,9 | усе | 12,0 | 10,6 | усе | 14,5 | — | 7,6 | усе | 5,8 | 10,9 | 8,7 | 12,8 |
| 5 | — | 28,6 | — | 16,5 | 14,0 | — | 19,2 | — | 10,0 | — | 8,2 | 14,3 | 11,5 | 17,3 |
| 6 | — | 34,2 | — | 20,9 | 17,1 | — | 23,6 | — | 13,3 | — | 10,2 | 17,7 | 13,8 | 21,2 |
| 7 | — | — | — | 25,3 | 19,7 | — | 27,5 | — | 14,3 | — | 12,1 | 20,6 | 15,9 | 25,0 |
| 8 | — | — | — | 29,3 | 22,3 | — | 31,2 | — | 16,1 | — | 13,6 | 23,4 | 17,8 | 28,1 |
| 9 | — | — | — | 33,3 | 24,7 | — | 34,6 | — | 17,9 | — | 15,3 | 26,1 | 19,5 | 31,2 |
| 10 | — | — | — | 35,7 | 26,8 | — | 37,8 | — | 19,4 | — | 16,8 | 28,5 | 21,2 | — |
| 11 | — | — | — | — | 28,8 | — | — | — | 20,9 | — | 18,2 | 30,8 | 22,7 | — |
| 12 | — | — | — | — | 30,8 | — | — | — | 22,4 | — | 19,5 | 33,0 | 24,1 | — |
| 13 | — | — | — | — | 32,6 | — | — | — | 23,8 | — | 20,7 | 35,3 | 25,3 | — |
| 14 | — | — | — | — | 34,3 | — | — | — | 25,1 | — | 21,9 | 37,4 | — | — |
| 15 | — | — | — | — | — | — | — | — | 26,4 | — | 23,1 | 39,5 | — | — |
| 16 | — | — | — | — | — | — | — | — | 27,7 | — | 24,3 | 40,8 | — | — |
| 17 | — | — | — | — | — | — | — | — | 28,9 | — | 25,5 | — | — | — |
| 18 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 26,6 | — | — | — |
| 19 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 27,8 | — | — | — |
| 20 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 28,8 | — | — | — |
| 21 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 29,8 | — | — | — |
| 22 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 31,7 | — | — | — |
| 23 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 32,5 | — | — | — |
| 24 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

На фіг. 2 супастаўлены хуткасці фільтрацыі паветрана-сухіх і пракаленых пры 300° глін.

Адначасова са змяненнем хуткасці фільтрацыі высушаных папярэдне пры розных тэмпературах глін была даследвана і іх адсарбцыйная здольнасць па карасіну, аўтолу і верацённаму маслу па метаду, указанаму раней[4]). У табл. 5, фіг. 3 прыводжу даныя адсорбцыі толькі па карасіну.

*Табліца № 5*

| №№ глін | Фракц. 0,5 мм. Тэмпературная апрацоўка глін | | | |
|---|---|---|---|---|
| | в/с | 120° | 300° | 500° |
| | Адсорбцыя ў %% | | | |
| 1 | 43,18 | 48,97 | 44,44 | 28,57 |
| 2 | 62,12 | 66,21 | 66,66 | 57,62 |
| 3 | 54,54 | 60,31 | 53,70 | 45,65 |
| 4 | 55,35 | 61,53 | 58,33 | 48,97 |
| 5 | 48,97 | 53,70 | 64,28 | 45,65 |
| 6 | 37,5 | 35,89 | 35,89 | 24,24 |
| 7 | 60,31 | 61,51 | 68,35 | 47,91 |
| 8 | 50,98 | 52,83 | 41,85 | 40,47 |
| 9 | 50,98 | 54,54 | 62,12 | 48,97 |

Разглядаючы табліцы 2, 3, 4, 5 і фіг. 2 і 3, мы бачым, што фільтрацыйны аналіз побач з іншымі фактарамі дае нам пэўнае прадстаўленне аб адсарбцыйнай актыўнасці па-




Фіг. 2.

ветрана-сухіх адсарбентаў. Па крайняй меры па даных фільтрацыйнага аналізу мы можам выдзеліць сярэднюю па актыўнасці групу адсарбентаў і дзве крайніх. Адна з апошніх груп (мінімальная хуткасць фільтрацыі) адносіцца к глінам

з павышанай і нават высокай адсарбцыйнай актыўнасцю, за выключэннем толькі багатых арганічнымі калаідальнымі прымесямі глін, наадварот, група з максімальнай хуткасцю фільтрацыі ўключае ў сябе альбо нікуды нягодныя адсарбенты (пясчаністыя гліны багатыя крышталічнымі злучэннямі), альбо высока-актыўныя адсарбенты аморфнага характару—тыпу інфузорных зямель.




Фіг. 3.

Што датычыцца глін, актывізаваных шляхам высушвання або пракальвання, то тут фільтрацыйны аналіз не можа даць нам указанні на напрамак змянення адсорбцыі, таму-што з тэмпературай пракальвання глін адсорбцыя на іх і хуткасць фільтрацыі змяняюцца па розных законах і ў розных напрамках: адсорбцыя праходзіць праз максімум (каля 300°), а фільтруемасць увесь час расце з тэмпературай пракальвання глін (фіг. 2, табл. 3 і 4). Падобны рост хуткасці фільтрацыі можна аб'ясніць наяўнасцю неабрацімай дэгідратацыі глін у працэсе іх пракальвання.

Адначасова з ростам хуткасці фільтрацыі ў апошнім выпадку назіраецца некаторая змена ў парадку хуткасці фільтрацыі. Калі ўлічыць, што мінеральныя, калаідальныя частачкі будуць менш чуллівы к пракальванню, чым арганічныя, устойлівасць апошніх пры досыць высокіх тэмпературах падае больш рэзка (дэнатурацыя) і нарэшце пры тэмпературах ∾300° арганічныя калоіды зусім разрушаюцца і нарастанне хуткасці фільтрацыі з пракальваннем будзе назірацца большая для багатых арганічнымі калаідальнымі прымесямі глін, чым для бедных.

## ХУТКАСЦЬ СЕДЗІМЕНТАЦЫІ І АДСОРБЦЫЯ

К пытанню аб высвятленні адсарбцыйнай актыўнасці глін па іх калаідальных уласцівасцях мы можам падыйсці не толькі з боку іх хуткасці фільтрацыі, звязанай у прыватнасці са стабільнасцю суспенсоіда, але і з боку седзіментацыйнага аналізу. Для вымярэння паказаных велічынь я скарыстаў цыліндравы метад азначэння як хуткасці седзіментацыі, так і максімальнага аб'ёма седзіментыруемага суспенсоіда. Колькасці асобных узораў глін браліся ў аднолькавых аб'ёмах, улічваючы іх удзельныя вагі (табл. 6, фіг. 4).

*Табліца № 6*

**Хуткасць седзіментацыі глін і зямель**

| Назва глін | „h" у цыліндрах у см. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 Алювіяльная | 2 Трэпел | 5 Жалезістая | 6 Шэразялёная | 8 Глаўканітавая | 9 Лентачная |
| t \ d | 2,4404 | 2,0 | 2,3890 | 2,6254 | 2,6174 | 2,4710 |
| 1 | 2,5 | 1,8 | 2,8 | 2,2 | 2,3 | 1,4 |
| 2 | 3,0 | 2,3 | 3,4 | 2,5 | 2,4 | 1,6 |
| 3 | — | 2,6 | 4,0 | 2,7 | 2,45 | 1,7 |
| 4 | 5,5 | 2,8 | 4,5 | 2,8 | 2,5 | 1,9 |
| 5 | 4,9 | 2,9 | 4,1 | 2,9 | — | 2,0 |
| 6 | 4,6 | 3,2 | 4,05 | — | — | — |
| 7 | 4,2 | 3,3 | 4,0 | 3,0 | 2,6 | 2,1 |
| 8 | 4,0 | 3,5 | 4,2 | 3,1 | 2,7 | — |
| 9 | 3,9 | 3,8 | 4,3 | 3,1 | 2,7 | — |
| 10 | 3,9 | 3,9 | 4,3 | 3,2 | 2,7 | — |
| 11 | 3,9 | 4,0 | 4,4 | 3,2 | 2,7 | — |
| 12 | — | 4,1 | — | 3,3 | 2,7 | — |
| суткі | 3,9 | 5,0 | 4,4 | 3,3 | 4,5 | 6,6 |

Седзіментацыйны аналіз дае нам мажлівасць характарызаваць стабільнасць суспенсоіда і тым меркаваць аб яго адноснай адсарбцыйнай актыўнасці. Гліны тыпу лентачных, хаця мы і бярэм іх прасеянымі праз аднолькавыя з астатнімі глінамі сіта, усё-ж з прычыны тонкай структуры пры ўстрахванні, яны ўтвараюць высока-дысперсны суспенсоід, устойлівы ў водных растворах і асядаючы занадта марудна. Кожная з частачак дысперсійнай фазы ўтварае вакол сябе гідратную абалонку. Таму канечная вышыня стаўба асеўшай у цыліндрах лентачнай гліны мае максімальнае значэнне. Падобная гліна a priori павінна адносіцца к лепшым адсарбентам, што і пацвярджаецца табл. 5.




Фіг. 4.

Удзельна больш лёгкія інфузорныя пароды тыпу трэпела даюць у выніку седзіментацыі таксама няшчыльны і значыць вялікі па аб'ёму стоўб, характарызуючы пароду як лепшы адсарбент.

Багатыя крышталічнымі ўтварэннямі гліны—алювіяльная і шэра-зялёная—пры хуткім цячэнні седзіментацыі ў выніку даюць усё-ж такі шчыльныя асадкі, утвараючы праз суткі ў цыліндрах нізкія стаўбы гліны—прызнак невысока-актыўных глін. У асобных выпадках гліна (алювіяльная) утварае пры хуткай седзіментацыі спачатку высокі стоўб, які ўшчыльняючыся пераходзіць праз максімум, дасягаючы праз суткі мінімальнага значэння (2,5→5,5→3,9 см).

Прамежкавыя па фізіка-хімічных уласцівасцях і па адсарбцыйнай актыўнасці гліны даюць сярэднія па велічыні адсарбцыйныя стаўбы (4,4→4,5). Узяўшы ў цыліндры гліны прасеяныя праз пэўныя сіта, мы можам значыць па аднаснай вышыні седзіментацыйных узроўняў меркаваць аб адноснай адсарбцыйнай актыўнасці.

## ВЫВАДЫ

Прапрацавана пытанне аб скарыстанні фільтрацыйнага і седзіментацыйнага аналізу для характарыстыкі прыродных адсарбентаў. Устаноўлена:

1. Даныя фільтрацыйнага аналізу з'яўляюцца надзейнымі паказчыкамі структуры (крышталічныя, аморфныя), характара (высокі або нізка-дысперсны від калаідальных прымесяў) і стабільнасці глiністых суспенсоідаў, і тым самым з'яўляюцца паказчыкамі адсарбцыйнай актыўнасці вешчаства.

2. К хутка фільтруючымся адносяцца актыўныя інфузорныя землі, аморфныя па структуры і інактыўныя пясчаністыя гліны, багатыя крышталічнымі ўтварэннямі. К марудна фільтруючымся адносяцца высока-дысперсныя, багатыя мінеральнымі калаідальнымі прымесямі гліны і менш актыўныя, абагачаныя арганічнымі калаідальнымі ўтварэннямі. Узоры прамежкавыя па фізіка-хімічных і калаідальных уласцівасцях займаюць прамежкавае месца па хуткасці фільтрацыі і па адсарбцыйнай актыўнасці.

3. Змяненне адсарбцыйнай актыўнасці глін ад пракальвання іх пры розных тэмпературах не можа быць прасле джана фільтрацыйным аналізам, таму што адсорбцыя і фільтруемасць змяняюцца па розных законамернасцях. Адсорбцыя з ростам тэмпературы пракальвання глін праходзіць праз максімум, фільтруемасць у такім выпадку неперарыўна расце.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Сборник „Отбеливающие земли СССР", 1933.
   С. Г. Мокрушин и А. Морозов, Журн. приклади. химии, *4*, 763, 1931.
   П. Н. Григорьев, Сборник экспериментальных работ по исследованию глин Института силикатов. *21*, 59, 1927.
   А. Е. Ферсман, Русские месторождения сукновальных глин, КЕПС, *1*, 1915.
2. Wo. Ostwald — Kolloid. Zeitschr. *43*, 249, 1927.
   П. А. Ребиндер с сотрудн., Сборник эксперим. работ по физико-химии техническ. суспензий, 1933.
   Н. А. Гельд — ЖРФХО 62, 1553, 1571, 1930.
   К. А. Гедройц — Kalloid. Chemische Beihefte.
3. Кауш. Отбеливающие вещества, 1929.
   М. М. Дубинин, Физико-химические основы сорбцион. техники, 1932.
   F. Krczil — Untersuchung und Bewertung technischer Adsorptionsstoffe.
4. Н. Ф. Ермоленко и Н. А. Абрамчук, Труды Хим. Института БелАН, *1*, 1934.
5. Н. Ф. Ермоленко, Адсорбция, Труды Хим. Инст. БелАН, *1*, 1934.
6. Wo. Ostwald — Koll. Zeitschr. *36*, 46, 1925; *43*, 1927.
7. A. Steiner — Koll. Zeitschr. *31*, 204, 1922.
   W. Roth — Koll. Zeitschr. *33*, 109, 1923.
8. И. И. Жуков и М. Соколова — ЖРФХО, *61*, 1091, 1929.
9. K. Matthuus — Koll. Zeitschr. *36*, 93, 1925.
10. Antipov — Karataev I. N. — Koll. Chem. Beih. *31*, 343, 1930. Труды Инст. Агропочвовед. Акад. С-Хоз. Наук в Ленинграде, вып. *11*, 1930.
11. А. В. Трофимов — Научно-Агрономич. журнал, 2, 1927.
12. Wo. Ostwald — Koll. Zeitschr. *36*, 46, 1125; *41*, 163; *43*, 249; *49*, 188, 1929.
   Wo. Ostwald u. Gamm — Koll. Zeitschr. *62*, 180, 1933.
   A. Buzagh — Koll. Zeitschr. *41*, [illegible], *43*, 215, 1927; 46, 178.
   N. Jermolenko — Koll. Zeitschr. *49*, 424, 1929.
13. A. B. Searle — Brit. Assoc. Rep. on Colloid. Chem. *3*.
14. G. Stadnikoff — Koll. Chem. Beih. *30*, 197, 297, 1930; *31*, 59, 1930.
   Н. Ф. Ермоленко и Д. Гинзбург, Труды Хим. Инст. БелАН, 1, 1934.





ВУЧОНЫЯ ЗАПІСКІ ХІМІЧНАГА І БІЯЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТАЎ
БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА № 28. 1936.

Н. Ф. ЕРМОЛЕНКО

# АБ КАЛОІДНАЙ РАСТВАРЫМАСЦІ II*)

## ПРАВІЛА АПАДКАЎ (BODENKÖRPERREGEL) ПРЫ ПЕПТЫЗАЦЫІ МЕТАЛОКСІДАЎ

*(Калоідная лабараторыя БДУ)*

Працэс пептызацыіі, як вядома, з'яўляецца адным з характэрных працэсаў для высокадысперсных, калоідных сістэм. У асноўным ён заключаецца ў пераводзе каагулята ў калоідны раствор, альбо ва ўтварэнні суспенсоіда з высокадысперснага парашку з дапамогай раду фактараў, у асаблівасці дзейнічання невялікай колькасці электралітаў.

Усю рознастайнасць з'яў пептызацыі Wo. Ostwald [1]) аб'ядпае ў чатыры асноўныя групы:

1. Адсарбцыйная пептызацыя
2. Дысалюцыйная „
3. Спантаная калоідная растварымасць
4. Пептызацыя набухаючага цела.

Ва ўсіх гэтых выпадках агульным з'яўляецца тое, што пептызіруемая матэрыя знаходзіцца ў ападку альбо ў стане высокай ступені дысперснасці, альбо ўладае ўласцівасцю набухаемасці ва ўзятым асяроддзі. У абодвух выпадках сувязь паміж асобнымі частачкамі няпрочная.

Апошнія два віды пептызацыі (3 і 4) адносяцца да вяшчэстваў альбо непасрэдна пераходзячых у раствор, напрыклад, растварэнне гумірабіку, альбо раствараючыхся пры некаторым павышэнні тэмпературы.

Больш цікавым для нас у даным выпадку з'яўляюцца: 1) адсарбцыйная пептызацыя і 2) дысалюцыйная пептызацыя.

Адсарбцыйную пептызацыю мы павінны прадставіць сабе так: высокадысперсны парашок вешчаства, малекулярна не раствараючагася ў даным растварыцелі, напрыклад, графіт, альбо вокісел цяжкага метала ў вадзе, будзе ася-

---

*) Першая работа па гэтаму пытанню апублікавана аўтарам у Kolloid. Zeitschr.—49, 424, 1929.

[1]) Wo. Ostwald—Kolloid. Zeitschr.—43, 253, 1927.

дацъ на дно, утвараючы альбо ілістую масу, альбо хлоп'я дзякуючы сіле цяжару і міжчасцічнаму прыцягненню, якое звычайна праяўляецца пасля збліжэння частачак на адлегласці дзейнічання так званых атракцыйных сіл, азначаемую ў $10^{-8}$ см.

Паколькі аднак тут не ўтвараецца крышталізацыі, а толькі ўзаемнае прыліпанне частачак, то сувязь паміж частачкамі будзе адносна слабая.

Уводзячы ў такую сістэму электраліт, які не растварае ўзятага ападку, але адзін з іёнаў якога будзе ізбірацельна адсарбіравацца на высокадысперсных частачках вокісла метала, мы прыдаем кожнай частачцы пэўны аднаімённы электрычны зарад, тым самым змяняем роўнавагу сістэмы. Адначасова з сіламі часцічнага прыцягнення, цяпер пачынаюць дзейнічаць электрастатычныя сілы адштурхоўвання аднаімённа-заражаных частачак, і мы тут будзем назіраць пасля гэтага дзве мажлівасці. Калі электраліта ўведзена ў сістэму вельмі мала, і ўсе аднаімённыя іёны, адсарбіруючыеся на паверхні кожнай з частачак ападку, прыдалі ім зарад ніжэй крытычнага патэнцыяла, то з'явы пептызацыі пакуль што назірацца не будзе, толькі сілы прыцягнення будуць некалькі аслаблены.

Пры далейшым прыбаўленні электраліта, дзякуючы працэсу адсорбцыі іёнаў, мы паступова павышаем патэнцыял частачак і пры некаторай канцэнтрацыі дасягаем і нават перавышаем крытычны патэнцыял. З гэтага моманту сілы электрастатычнага адштурхоўвання перавышаюць сілы міжчасцічнага прыцягнення, частачкі ападку дзякуючы гэтаму адрываюцца адна ад другой і з прычыны наліччa сіл адштурхоўвання і броўнскага руху яны пераходзяць у раствор, утвараючы ўстойлівую суспензію,—як мы кажам, назіраецца з'ява адсарбцыйнай пептызацыі.

Неабходна таксама адзначыць, што з'ява пептызацыі не абмяжоўваецца выпадкамі ўздзейнічання толькі электралітаў, але часта ў якасці пептызатараў могуць быць і не электраліты, напрыклад, гліцэрын, розныя сахарыстыя вешчаствы і г. д. Дастаткова ўказаць на работы N. G. Chatterji u. N. R. Dhar [1]), K. C. Sen u. N. R. Dhar [2]), A. Kuhn и H. Pirsch [3]), у каторых пептызатарамі для гідраксідаў браліся арганічныя вешчаствы.

Мы можам сустрэць і такія сістэмы, калі ўведзены электраліт сам значна не адсарбіруецца і такім чынам не з'яўляецца пептызатарам, але ён дзейнічае хімічна на асадак, часткова растварае яго і ў выніку растварэння ўтвараецца новы электраліт-пептызатар, адзін з іёнаў каторага

[1]) N. G. Chatterji u. N. R. Dhar—Kolloid. Zeitschr. 28, 235, 1921.
[2]) K. C. Sen u. N. R. Dhatr—Koll. Zeitschr. 33, 193, 1923.
[3]) A. Kuhn u. H. Pirsch—Koll. Beih. 21, 78, 1925.

адсарбіруецца на астаўшыхся нерастворнымі частачках ападку, прыдае ім гэтым самым аднаімённы зарад і пептызіруе.



$$1.\ n.SnO_2 + 2KOH \rightarrow \overset{+}{K}_2SnO''_3 + H_2O + n-1SnO_2$$



$$2.\ n-1SnO_2 + \overset{+}{K}_2SnO_3'' \rightarrow [SnO_2]_{n-1}.SnO_3'' + 2\overset{+}{K}$$

Канцэнтрацыю прыбаўляемага электраліта трэба рэгуляваць так, каб яго толькі хапіла для ўтварэння пептызатара, дастатковага для пептызацыі астаўшагася нерастворным ападку, але не больш, інакш будзе мець месца звычайны працэс малекулярнага растварэння ўсяго В. К. Wo. Ostwald[1]) звярнуў увагу на тое, што ў працэсе пептызацыі мае рашаючае значэнне не толькі колькасць прыбаўляемага пептызатара (электраліта), а таксама і колькасць узятага для пептызацыі ападку.

Пры звычайнай, малекулярнай растварымасці, вядучай да ўтварэння ісціннага раствора, для дадзенага растваремага вешчаства і растварыцеля пры дадзенай тэмпературы,—растварымасць будзе вызначацца да моманту насычэння праізвядзеннем растварымасці, незалежна ад колькасці астаўшагася нерастворaным вешчаства. Канцэнтрацыя вешчаства ў растворы пры дадзеных умовах будзе сталай, калі на дне раствора будзе аставацца хоць толькі адзін крышталік нераствaрыўшагася вешчаства і тое самае, калі на дне будуць заставацца нерастворанымі дзесяткі грамаў гэтага вешчаства. Графічна малекулярная растварымасць будзе выражацца O—O′—S крывой (фіг. 2).

Ізгіб у точкі O′ паказвае, што дасягнута насычэнне раствора і з далейшым прыбаўленнем вешчаства для растварэння канцэнтрацыя яго ў растворы застаецца сталай.

Наадварот, калі мы маем працэс калоіднага растварэння, звязанага з пептызацыяй, як паказалі даследванні Wo. Ostwald'a[1]) і яго школы[2]), тут мы маем асаблівасці, якія аб'яднаны Оствальдам і на падставе гэтага матэрыялу ім выказана тэорыя ападкаў, вядомая ў калоідна-хімічнай літаратуры пад назваю „Bodenkörperregel" (скарочана B.K.R).

Па даручэнню Wo. Ostwald'a мною[3]) было даследвана ў лабараторыі калоіднай хіміі Лейпцыгскага універсітэта прымянімасць B.K.R. да працэсу растварэння карбаната медзі ў амiячна-солевых растворах. У той-жа лабараторыі A. Buzagh[4]) вывучыў пептызацыю ZnO, HgO, $Pb_3O_4$, $BaSO_4$, $CaCO_3$.

Данае даследванне з'яўляецца развіццём паказаных ідэй ў прымяненні да вокіслаў металаў: CuO, $Fe_2O_3$, $Ni_2O_3$, PbO

[1]) Wo. Ostwald—Koll. Zeitschr. 41, 163; 43, 249, 1927; 49, 188, 1929 і інш.
[2]) Поўны спіс літаратуры па гэтаму пытанню прыведзен у рабоце Wo. Ostwald u. W. Gamm-Koll. Zeitschr. 62, 180, 1933.
[3]) N. Jermolenko—Über kolloide Löslichkeit—Koll. Zeitschr. 49, 424, 1929.
[4]) A. Buzagh—Koll. Zeitschr. 43, 220, 1927.

## ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЯ ЧАСТКА

Намі вывучана прымянімасць В. К. R. да сістэм $M_nO_m +$ $+ NH_3$; $M_nO_m + HCl$.

Пептызацыя ў гэтых сістэмах будзе адносіцца да тыпу дысалюцыйнай і часткова змешана з адсарбцыйнай пептызацыяй.

У дадзеным даследванні намі скарыстан прапанованы Wo. Ostwald'am[1]) цыліндравы і вагавы метад азначэння ступені пептызацы і з адначасовай фотафіксацыяй працэсу. Метад работы заключаўся ў тым, што ў рад мерных цыліндраў з прышліфованымі пробкамі, з усё ўзрастаючымі наважкамі добра расцёртага вокісла (В. К.) прыбаўляўся аднолькавы аб'ём электраліта аднолькавай канцэнтрацыі. Сасуды адначасова ўсе ўзбоўтваліся на шутэлі 30 мінут, астаўляліся потым стаяць на ўстойлівай паверхні (для ўнікнення дрыжэння) на пэўны час, пасля чаго піпеткай адбіраліся пробы з кожнага цыліндра, альбо непасрэдна, альбо з фільтрата, і вагавым шляхам азначалася колькасць пераведзенага ў раствор і суспензіраванага вокісла. Адначасова з гэтым для прабірачных вопытаў рабіліся здымкі, на якіх ясна відаць максімум пептызацыі. Для кожнай з узятых сістэм рабіўся рад папярэдніх вопытаў для падшукання суадносін паміж колькасцю В. К., аб'ёмам і канцэнтрацыяй электраліта, даючы найбольш эфектны пептызацыйны працэс.

У табл. 1, здым. 1 прыведзены працэс пептызацыі CuO растворам $NH_3 \frac{n}{1}$

*Табліца № 1*

| №№ | Наважка В. К. CuO у грамах | $\frac{n}{1}$ $NH_3$ см³ | Ступень пептызацыі |
|---|---|---|---|
| 1 | 0,001 | 20 | |
| 2 | 0,005 | " | |
| 3 | 0,01 | " | Вобласць максімальнай пептызацыі, № 7 максімум. (№№ 3–8) |
| 4 | 0,03 | " | |
| 5 | 0,05 | " | |
| 6 | 0,1 | " | |
| 7 | 0,2 | " | |
| 8 | 0,4 | " | |
| 9 | 0,6 | " | |
| 10 | 0,8 | " | |

[1]) Wo. Ostwald—Koll. Zeitschr. 43, 1927.

*Табліца № 1 (працяг)*

| №№ | Наважка В. К. CuO у грамах | $NH_3$ $\frac{n}{1}$ см³. | Ступень пептызацыі |
|---|---|---|---|
| 11 | 1,0 | . | |
| 12 | 2,0 | . | |
| 13 | 4,0 | . | |

Даныя табл. 1 і здымка 1 яскрава паказваюць, што мы тут маем максімум пептызацыі пры некаторай сярэдняй наважцы В. К. роўнай 0,2 гр/20 см³, што з'уляецца характэрным для Bodenkörperregel.



Здымак № 1.

Сутнасць В. К. R. у адносінах адсарбцыйнай і дысалюцыйнай пептызацыі можна каротка прадставіць так.

У адрозненне ад крывой малекулярнай растварымасці адсарбцыйная пептызацыя ў тыпічным выпадку выражаецца крывой (гл. фіг. 1 на стар. 24).

$\frac{x}{m}$ —колькасць пептызіраванага, альбо калоідна-растварымага вешчаства (x) у адносінах колькасці ўзятага для пептызацыі вешчаства (m),

m—колькасць узятага для пептызацыі вешчаства.

Калі ўзяць узрастаючыя колькасці вешчаства, падлягаючага пептызацыі $m—m_n$ пры сталай колькасці ўвадзімага ў сістэму электраліта—пептызатара, хімічна—не ўзаема-

дзейнічаючых, то пры малой колькасці В. Қ., электраліта ў растворы будзе адносна так многа, што наліцо будуць умовы каагуляцыі і суспензіі не ўтворыцца (O—m).




Фіг. 1.

Пачынаючы ад некаторай большай наважкі В. Қ. (m), калі адсарбіраваны электраліт размяркоўваецца паміж большай колькасцю частачак, ствараюцца ўмовы для пептызацыі, якая будзе расці да колькасці В. Қ. — m″, дзе яна дасягае максімума. З далейшым ростам В. Қ. пры сталай колькасці электралітаў у растворы патэнцыял частачак па зразумелых прычынах падае, падае і пептызацыя. Пры $m_3$ узноў патэнцыял частачак становіцца ніжэй сілы міжчасцічнага прыцягнення і пептызацыі ўзноў назірацца не будзе.

Калі параўнаць колькасць адсарбіравання электраліта ў адносінах кожнай частачкі, то яна з ростам В. К. паступова падае, што відаць на крывой „Г", фіг. 1.




Фіг. 2.

У выпадку дысалюцыйнай пептызацыі ўвадзімы ў сістэму электраліт спачатку ўступае ў хімічныя ўзаемадзеянні з ападкам у стэхіяметрычных адносінах, утворыць у растворы новае злучэнне— пептызатар. Апошні пачынае адсарбіравацца на паверхні В. Қ. і пераводзіць частку ападку ў раствор (фіг. 2).

Такім чынам пры малых наважках В. К. пад дзеяннем электраліта спачатку ўвесь ападак будзе раствараецца малекулярна (Lm), утвараючы пры ўзятай сталай колькасці электраліта і колькасці В. К.=M насычаны раствор. Павялічваемая далей колькасць В. К. не можа растварыцца малекулярна, і крывая растварымасці павінна была-б ісці па напрамку O—S. Але тут на паверхні В. К. адсарбіруецца ўтвораны да точкі M пептызатар і пераводзіць звыш насычанай канцэнтрацыі некаторую колькасць ападку ў раствор (пептызацыя). Пептызацыя дасягае максімума пры $M_1$, з далейшым ростам В. К. патэнцыял частачак і разам з ім пептызацыя падае. Практычна назіраецца некаторае адхіленне ад паказанай тыпічнай схемы дысалюцыйнай пептызацыі.

Зварочваючыся зноў к вопыту, прыведзенаму ў табл. 1, трэба адзначыць яшчэ адно цікавае з'явішча. На другі дзень, калі галоўная маса суспензіі ў прыведзенай серыі прабірак асела, праведзена ўтарычнае ўзбаўтванне сістэмы; максімум пептызацыі зноў аказаўся для прабіркі № 7. Падобная з'ява ўтварэння суспенсоіда з максімумам для адной і той-жа наважкі В. К. можа быць васпраізведзена шляхам перыядычнага ўстрахівання адной і той-жа серыі проб сколькі ўгодна раз.

*Такі лёгкі пераход пры прастым узбаўтванні сістэмы ад каагулята к адносна ўстойлівай сістэме для вешчаства, магучага па сутнасці ўтвараць неабрацімыя калоідныя сістэмы, якім звычайна з'яўляецца вокісел метала, можна, па-мойму, аб'ясніць наліччам тут з'явы ціксатрапіі.*

Аналагічная з'ява назіралася мной амаль для ўсіх выпадкаў пептызацыі металаксідаў. У той час, як Fr. Schalek u. Szegvari і інш.[1]) на вывучаных імі прыкладах гідрата жалеза, алюмінія, пяціокіса ванадыя і інш. золяў прышлі к вываду, што ціксатрапія ўласціва калоідным сістэмам, даючым пры каагуляцыі сплашныя, студневідныя гелі. Намі ў даным выпадку ўстаноўлен новы від ціксатрапіі, назіраемай для сістэм, даючых наадварот толькі ападкі і не ўтвараючых студневіднага геля. У адрозненне ад першага тыпу ціксатрапіі, якую можна было-б назваць „каагуляцыйнай", устаноўлены намі від ціксатрапіі мы прапануем называць *„седзіментацыйнай"* ціксатрапіяй.

Гэты працэс мы аб'ясняем наступным чынам: высокадысперсныя частачкі суспензіі падвергнуты дзейнічанню галоўным чынам 3-х сіл: 1) сілы міжчасцічнага прыцягнення $F_1$,

---

[1]) Fr. Schalek, Szegvari—Koll. Zeitschr. 32, 318; 33, 326, 1923.
H. Freundlich u. W. Rawitzer—Koll. Chem. Beih. 25, 231, 1927.
Freundlich—Koll. Zeitschr. 46, 289, 1928.
Svedberg—Koll. Zeitschr. 28, 218, 1921.

2) электрастатычнага адштурхоўвання і броўнаўскага руху ($F_2$) і 3) сілы цяжару ($F_3$).




Тады: Грубадысперсная сістэма ў прысутнасці электралітаў-пептызатараў будзе характарызавацца суадносінамі—$F_2 < F_3$. Калоідная сістэма — $F_1 < F_2 \geq F_3$. Малекулярна-дысперсная сістэма—$F_1 < F_2 > F_3$.

Абсалютнае значэнне $F_2$ малекулярна-дысперснай сістэмы больш, чым $F_2$ калоіднай сістэмы.

Звычайная ціксатрапія аб'ясняецца каагуляцыяй золя пры ўмовах, калі дысперсійная фаза даведзена да крытычнага патэнцыяла і сіла прыцягнення $F_1$ хоць у мінімальнай ступені перавысіла сілу міжчасцічнага адштурхоўвання $F_2$

$$F_1 \geqslant F_2$$

У выпадку вувучаемых намі суспензій найбольш устойлівая форма суспендзіі будзе ў выпадку калі:

$$F_1 < F_2 > F_3$$

Пры $F_1 > F_2 < F_3$ будзе хуткая седзіментацыя і толькі пры нязначным перавышэнні $F_3$ над $F_2$, г. значыць, калі $F_1 < F_2 \leqslant F_3$ не гледзячы на тое, што $F_2 > F_1$, але $F_2 = F_3$ альбо нават $F_2 < F_3$, сістэма будзе не зусім устойліва і будзе марудна седзіменціраваць.

Але седзіменціраваны ападак складаецца з частачак, нясучых аднаіменныя зарады з патэнцыялам вышэй крытычнага, прочнай сувязі паміж частачкамі не маецца; гэта не каагулят у звычайным сэнсе гэтага слова, але маса седзіменціраваных частачак з патэнцыяльнай мажлівасцю перайсці ў адносна ўстойлівую сістэму пры ўмове хоць невялікага процівадзейнічання ізбытачнай над броўнаўскім рухам і сілай электрастатычнага адштурхоўвання—сілай цяжару. Гэта процівадзейнічанне мы праводзім шляхам механічнага ўзбаўтвання, у выніку чаго ў нас зноў восстанаўліваецца суспензія прыблізна папярэдняй ступені ўстойлівасці і з тым-жа максімумам пептызацыі.

Такім чынам устаноўленая намі седзіментацыйная ціксатрапія мае тое агульнае з каагуляцыйнай ціксатрапіяй, што і там і тут мы простым механічным устрахіваннем пераходзім ад каагулята к калоіднай сістэме, або ў нашым выпадку к суспензіі. Але ў ціксатрапіі, вывучанай Freundlich'ам, Schalek і інш. шляхам устрахівання геля пераадаляваюцца ізбытачныя сілы межчасцічнага прыцягнення, у нашым выпадку такім устрахіваннем перадаляваецца ізбытачная сіла цяжару, але ў абодвух выпадках мы прыходзім к аналагічным калоідным або к суспенсоідным сістэмам.

Трэба лічыць, што побач з асноўнымі працэсамі седзіментацыйнай ціксатрапіі, можа мець месца паралельна ў пэўнай ступені працэс і каагуляцыйнай ціксатрапіі і наадварот, пагэтаму практычна мы будзем мець звычайна справу не з „чыстым", а пераважаючым з даным выпадкам відам ціксатрапіі.

Для колькаснага азначэння ступені пептызацыі і растварымасці ўзяты вешчаствы па ўказаных у табл. 2 суадносінах. Пасля 30-ці мінут узбаўтвання і 15 мінут седзіментацыі адабрана з кожнай прабіркі па 10 см$^3$ суспендзіі, высушана на вадзяной бані і потым у сушыльнай шафе пры 120° да сталай вагі. Максімум пептызацыі назіраецца пры В. К. = 0,2 гр, г. зн. пры некаторай сярэдняй колькасці В. К.

*Табліца № 2*

| №№ | В. К. CuO | $NH_3$ 0,05 N см$^3$ | x | Cu/L гр. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 0,05 | 20 | 0,0071 | 0,5672 |
| 2 | 0,1 | „ | 0,0117 | 0,9345 |
| 3 | 0,15 | „ | — | — |
| 4 | 0,20 | „ | *0,0124* | *0,9906* |
| 5 | 0,30 | „ | 0,0077 | 0,6151 |
| 6 | 0,80 | „ | — | — |
| 7 | 1,0 | „ | — | — |
| 8 | 2,0 | „ | 0,0025 | 0,1927 |
| 9 | 3,0 | „ | — | — |

Аналагічным чынам была праведзена пептызацыя $Ni_2O_3$ з дапамогай 0,010 N HCl. Прапробленая пробная фільтрацыя паказала, што суспендзія атрымалася настолькі высока-

дысперснай, што праходзіла праз фільтр. Даныя прыведзены ў табл. 3.

*Табліца № 3*

| №№ | m $Ni_2O_3$ | HCl 0,01N см³ | Характар пептызацыі |
|---|---|---|---|
| 1 | 0,05 | 20 | Яскравая пептызацыя |
| 2 | 0,1 | " | Добра пептызіравана |
| 3 | 0,3 | " | Максімум пептызацыі |
| 4 | 0,8 | " | Падзенне пептызацыі |
| 5 | 1,0 | " | |
| 6 | 1,2 | " | |
| 7 | 1,5 | " | |
| 8 | 1,8 | " | |
| 9 | 2,0 | " | |
| 10 | 2,5 | " | |

Для колькаснага азначэння працэса пептызацыі вопыты праведзены з $Ni_2O_3+0{,}05N$ HCl табл. 4. Пасля 30 мінутнага ўзбаўтывання сумесі прабіркі астаўлены сендзіменціраваць на 1 г. 20 мін., а потым засняты, а праз 2 г. 30 мін. ад пачатку ўзбаўтвання ўзяты пробы па 10 см³ з кожнай прабіркі, у якіх пасля выпарвання пробы на вадзяной бані з канц. HCl вагавым шляхам азначан хлорысты нікель. Дадзеныя прыведзены ў табл. 4. Для ўзважвання ўзяты не ўсе пробы, а па адной з крайніх і максімальна-пептызіраваўшыя.

*Табліца № 4*

| №№ | m $Ni_2O_3$ | HCl 0,05N Cm³ | $x = NiCl_2/10$ | Ni/L | Характар раствору |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 0,03 | 20,0 | 0,0024 | 0,1086 | светлы раствор над ападкам |
| 2 | 0,05 | " | — | — | " " " " |
| 3 | 0,1 | " | — | — | заметны пачатак пептызацыі |
| 4 | 0,3 | " | 0,0174 | 0,7878 | ↓ |
| 5 | 0,8 | " | — | — | |
| 6 | 1,0 | " | 0,0477 | 2,160 | максімум пептызацыі |
| 7 | 1,2 | " | 0,0491 | 2,22 | пептызацыя падае |
| 8 | 1,5 | " | 0,0462 | 2,07 | ↓ |

Былі зроблены спробы пептызіраваць аналагічную таблiцы 4 серыю В. Қ. $Ni_2O_3$ таксама 0,05 N аміяком, але паскольку не накапляўся ў сістэме пептызатар, тут і не назіралася ніякай пептызацыі.

З даных табл. 3 і 4 мы бачым, што з ростам канцэнтрацыі пептызатара, максімум пептызацыі расце ў бок большых „m“, што якраз адпавядае правілу ападкаў. Пры 0,01 N HCl максімум пептызацыі назіраецца для наважкі В. Қ.=0,3 грама, а пры 0,05N=HCl для наважкі ў адзін грам. З ростам канцэнтрацыі HCl колькасць хімічна-растварымага $Ni_2O_3$ павінна быць яскрава больш, чым пры тым-жа аб'ёме 0,01N=HCl, а з ростам пептызатара ў растворы павялічваецца і мажлівасць пептызацыі.

Падобны зрух максімума пептызацыі з ростам канцэнтрацыі электраліта назіраўся і для другіх сістэм, у прыватнасці Buzagh [1]) назіраў яго для сістэмы вугаль-мыла; каалін-гумінавыя кіслоты і г. д.

У табл. 5 прыведзены даныя пептызацыі $Ni_2O_3$ з яшчэ большай канцэнтрацыяй HCl=0,11N

*Табліца № 5.*

| №№ | m | HCl 0,11N см³ | Характар пептызацыі |
|---|---|---|---|
| 1 | 0,1 | 20,0 | Зона пептызацыі. |
| 2 | 0,3 | „ | Зона пептызацыі. |
| 3 | 0,8 | „ | Зона пептызацыі. |
| 4 | 1,0 | „ | Зона пептызацыі. максімум пептызацыі |
| 5 | 1,5 | „ | Зона пептызацыі. |
| 6 | 2,0 | „ | Зона пептызацыі. |
| 7 | 2,5 | „ | |
| 8 | 3,0 | „ | |
| 9 | 4,0 | „ | |

Хаця максімум пептызацыі застаецца каля В. Қ.=1,0 (мажліва пры больш дробных градацыях В. Қ. можна было-б і тут замеціць зрух пептызацыі ў бок большых „m“ з ростам канцэнтрацыі HCl, напрыклад пры В. Қ.=1,3—1,4), як і для HCL 0,05N, але вобласць, ахвачаная пептызацыяй, тут значна большая ~ 0,1—2,0.

Для азначэння ўплыву канцэнтрацыі HCl на пептызацыю прыведзеных вышэй колькасцей В. Қ. намі скарыстаны ападкі з серыі прабірак табл. 5, у якіх растворы з 0,01N HCl

[1]) Buzagh—Kolloid Zeitschr. 43; 220, 1927.

былі дэканціраваны і замест іх прыбаўлена ў кожную прабірку па 20 см$^3$ 2 N, HCl. Пры гэтых суадносінах кіслаты і В. Ķ. не назіраецца максімума пептызацыі, суспензія $Ni_2O_3$ седзіменціруе хутка на дно, але наступовае запозніванне хуткасці седзіментацыі ў прабірках з узрастаючай колькасцю В. Ķ. паказвае, што максімум пептызацыі з 2N, HCl перасунуўся к узору з большай чым 4,0 гр колькасцю В. Ķ. Гэта адпавядае якраз патрабаванням тэорыі Bodenkörperregel. Пры 2N HCl назіраецца энергічная акісліцельна-аднавіцельная рэакцыя паміж $Ni_2O_3$ і HCl з выдзяленнем $Cl_2$ і накапленнем у растворы пептызатара $NiCl_2$, які дае суспензію: $[Ni_2O_3].Ni+2Cl$.

Аналагічным метадам была даследвана пептызацыя $Fe_2O_3$, які папярэдне быў размолат, як і CuO, $Ni_2O_3$ да высокадысперснага становішча. К узрастаючым В. К. — $Fe_2O_3$ (0,05; 0,1; 0,5; 0,8; 1,2; 1,5; 2,0; 3,7) было прыбаўлена па 20 см$^3$ 0,05N $NH_3$. Пасля ўзбаўтвання ніякай суспензіі не назіралася, аналагічны выпадак назіраўся і для $Ni_2O_3$. Такія-ж пробы апрацаваны 20 см$^3$ 0,05 N, HCl. Неабходна адзначыць цікавую з'яву, назіраўшуюся ў адносінах пептызацыі $Fe_2O_3$. Першая апрацоўка В.Ķ. з 0,05 N HCl не прывяла к пептызацыі; гэты раствор быў деканціраван, ападак прамыт вадою і апрацован новымі 20 см$^3$ 0,05 N HCl— паявілася рэзкая пептызацыя, ахапіўшая вобласць В. Ķ. ад 0,05 да 2,0 грам (здымак 2).



Здымак № 2

Такі-ж вопыт праробдлен другі раз. Але тут В. Ķ. апрацован спачатку 20 см$^3$. 0,01 N HCl — ніякай суспензіі. Раствор дэканціраван, В. Ķ. прамыт вадой і апрацован новымі 20 см$^3$ 0,05 N HCl—ясная пептызацыя. Пасля 30-мінутнага ўзбаўтвання і 20-мінутнай седзіментацыі суспензія фільтравалася праз фільтр № 596. У астатнім методыка папярэдняя. Даныя прыведзены ў табл. 6.

Калі нанесці дадзеныя пептызацыі на восі каардынат, то характар крывой пептызацыі паказвае, што тут з'ява пеп-

*Табліца № 6*

| №№ | В. К. $mFe_2O_3$ | HCl 0,05N см$^3$ | $FeCl_3$ 10 см$^3$ | Fe/L | Характар раствору над В. К. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 0,1 | 20 | — | — | празрыст. |
| 2 | 0,5 | „ | 0,0033 | 0,1136 | слабая суспензія |
| 3 | 1,0 | „ | — | — | — |
| 4 | 1,5 | „ | 0,0597 | 2,0552 | ясная суспензія |
| 5 | 2,0 | „ | — | — | „ |
| 6 | 2,3 | „ | 0,1246 | 4,2896 | максімальн. суспензія |
| 7 | 2,8 | „ | 0,0837 | 2,8816 | падзенне пептызацыі |
| 8 | 3,0 | „ | 0,0301 | 2,0362 | „ |
| 9 | 3,5 | „ | — | — | раствор над В. К. празр. |

тызацыі працякае па законамернасцях В. К. R. і максімум пептызацыі назіраецца для сярэдніх велічынь В. К. Сістэма можа быць аднесена па сутнасці к дысалюцыйнай пептызацыі, нараду з гэтым часткова працякае і адсарбцыйная пептызацыя.

Для больш дэталёвага вывучэння ўплыву папярэдняй апрацоўкі ападку (пратраўлівання) для далейшай пептызацыі намі праароблен шэраг вопытаў, прыведзеных у табл. 7.

*Табліца № 7*

| №№ | В. К. $Fe_2O_3$ гр. | 20 см$^3$ | Характар пептызацыі | Застаецца або замяняецца пратравіцель | Ступень пептызацыі пасля ўтарычнай апрацоўкі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1,2 | 0,05N, HCl | не пептызіруе | не мяняецца (кантрольны) | не пептызіруе |
| 2 | 1,2 | „ | | $H_2O$ | добра пептызіруе, суспензія застаецца ўстойлівай больш 24 гадзін |
| 3 | 1,2 | $\frac{n}{1}$ HCl (1 см$^3$) | | +9 см$^3$ $H_2O$ | пептызіруе, суспензія хутка выпадае |
| 4 | 1,2 | $H_2O$ | | застаецца | не пептызіруе |
| 5 | 1,2 | 0,05N, HCl | | замен. нов. порц. 0,05N HCl | пептызіруе |
| 6 | 1,2 | $H_2O$ | | замест дэканціраванага 1 см$^3$ $H_2O$ + +1 см$^3$ 0,05N HCl | не пептызіруе |
| 7 | 3,7 | 0,05N, HCl | | застаецца | „ |
| 8 | 3,7 | „ | | $H_2O$ | „ |
| 9 | 3,7 | „ | | новая порцыя 0,05N HCl | добра пептызіруе |
| 10 | 3,7 | „ | | новая порцыя 0,1N HCl | слаба пептызіруе |

У трэцяй графе прыведзены вешчаствы, якімі вытваралася пратраўленне, у чацвертым адносіны ападку да пратравіцел яў у пятым—замена пратравіцеляў новымі срэдамі і ў шостым—характар пептызацыі.

Дадзеныя табл. 7 з відавочнасцю паказваюць, што для пептызацыі вялікую ролю адыгрывае папярэдняе „пратраўліванне“ вокісла. Вопыты 1, 4, 7 паказваюць, што першая порцыя пептызатара—кіслаты і вада не пептызіруюць. Не назіраецца пептызацыі і пры вельмі нізкіх канцэнтрацыях кіслаты (0,0025 N, воп. 6), калі ў растворы за недахопам кіслаты яшчэ не накапілася досыць пептызатара па рэакцыі.



$$Fe_2O_3 + 6HCl \rightarrow \underset{\text{пептызатар}}{2FeCl_3} + 3H_2O.$$

і адсюль не можа ўтварыцца і калоідная сістэма, якая ў выніку пептызацыі павінна была ўтварыцца па схеме:



$$nFe_2O_3 + mFeCl_3 \rightarrow \underset{\text{міцэла}}{[Fe_2O_3]n \,.\, Fe_m} + 3mCl$$

Пры адносна высокай канцэнтрацыі HCl, напрыклад, 0,1N (вопыт 3 і 10) пептызацыя хаця і назіраецца, але суспензія не ўстойліва.

Добрая пептызацыя назіраецца пры папярэднім „пратраўліванні“ пептызіруемага вешчаства разбаўленай кіслатой і пасля ўдалення гэтага раствору, пептызіраванне новай порцыяй разбаўленай (∾ 0,05N) кіслатой. Трэба лічыць, што пры папярэднім „пратраўліванні“ вокісла кіслатой, удаляецца больш растварымая састаўная частка вокісла і тым самым удаляецца атрыманы ў гэтых умовах ізбытак солей, перашкаджаючых пептызацыі.

Праверана таксама пептызацыя PbO. Ўзяты ўзрастаючыя наважкі В. К.—PbO і апрацованы кожная 20 см³ 0,05N $HNO_3$—слабая суспензія. Кіслата дэканціравана і заменена вадой, пры ўзбаўтванні пептызацыі не назіраецца, PbO хутка выпадае на дно. Але пасля ўзбаўтвання на другі дзень (патрабуецца пэўны час для накаплення ў растворы пептызатара) выяўлена ясна пептызацыя з максімумам каля 3,2 грама, вадкасць заменена новай порцыяй вады і ўзбоўтана яшчэ раз, максімум ізноў слаба вырысоўваецца каля В. К. = 3,2 грама. Сістэма заснята праз 1 г. 25 мінут. Растворы прафільтраваны, растворaныя і суспензіраваная частка азначана з 10 см³ фільтрата пасля выпарвання. Даныя прыведзены ў табл. 8 і фіг. 3.

Агульным для ўсіх гэтых вопытаў з'яўляецца тое, што пры сталай колькасці электралітаў і ўзрастаючых наважках В. К., пептызацыя праходзіць праз максімум, зніжаючыся як у бок меншых, так і ў бок большых В. К., што з'яўляецца тыпічным для Bodenkörperregel.

*Табліца № 8*

| №№ | В. К. PbO | 0,05N $HNO_3 - H_2O$ | x/10 см³ |
|---|---|---|---|
| 1 | 0,2 | 20 | — |
| 2 | 0,4 | „ | — |
| 3 | 0,8 | „ | — |
| 4 | 1,6 | „ | 0,0024 |
| 5 | 3,2 | „ | *0,0038* |
| 6 | 6,4 | „ | — |
| 7 | 12,8 | „ | 0,0028 |

Для кожнай з прыведзеных табліц зроблены фотаздымкі, але па тэхнічных прычынах прыводзяцца толькі некаторыя.




Фіг. 3.

## ВЫВАДЫ

Праведзена даследванне працэса пептызацыі металаксідаў. Установлена:

1. К працэсу пептызацыі CuO аміяком і $Ni_2O_3$, $Fe_2O_3$, PbO кіслотамі прымяніма Bodenkörperregel Bo. Оствальда.

2. Больш інтэнсіўная пептызацыя $Fe_2O_3$ назіраецца пры папярэднім „пратраўліванні“ вокіслаў кіслотамі, вядучым, мажліва, к удаленню з сістэмы больш растварымай часткі вокісла і тым самым к удаленню ізбытку электралітаў, перашкаджаючых пептызацыі.

3. У працэсе суспензіравання металаксідаў намі ўстаноўлена з'ява ціксатрапіі. У адрозненне ад каагуляцыйнай ціксатрапіі ў гэтым выпадку прапанавана назваць яе *седзіментацыйнай ціксатрапіяй.*

У заключэнне аўтар лічыць сваім прыемным доўгам яшчэ раз выразіць падзяку паважанаму прафесару Bo. Оствальду, пабудзіўшаму мяне заняцца пытаннямі Bodenkörperregel і ў лабараторыі якога выканана аўтарам першая работа на даную тэму.

---

ВУЧОНЫЯ ЗАПІСКІ ХІМІЧНАГА І БІЯЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА
БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА № 28. 1936 г.

Н. Ф. ЕРМОЛЕНКО

# ГІДРАТНАЯ ТЭОРЫЯ РАСТВОРАЎ [1])

Па Вальдэну гісторыя развіцця вучэння аб растворах гэта зеркала, у якім адлюстравалася ў паменшаным відзе ў гістарычнай і лагічнай паслядоўнасці ўсё развіццё хіміі. Растворы, будучы сцержнем, вакол якога канцэнтравалася навуковая хімічная думка амаль усіх вякоў, натуральна былі аб'ектам дыскусіі з першых момантаў навуковага развіцця хіміі.

Ужо з часу Лавуаз'е погляды на прыроду раствораў разбіліся на дзве плыні—фізічную і хімічную, і выкрышталізаванне гэтых плыняў дасягнула свайго апагея: адна ў асматычнай тэорыі Вант-Гофа, аснаванай на малекулярна-кінетычных прадстаўленнях, а другая ў гідратнай тэорыі Мендэлеева, прадстаўляючай працэс растварэння як працэс хімічнага ўзаемадзеяння раствараемай матэрыі з растварыцелем.

Першую яскравую фармуліроўку абодвух плыняў мы сустракаем ужо па фізічнай тэорыі ў Лавуаз'е, па хімічнай тэорыі—у Бертолле. Лавуаз'е [2]) пэўна выказаўся ў тым сэнсе, што растворы цукру і іншых вяшчэстваў у вадзе прадстаўляюць сабой толькі сумесі, якія ўтварыліся дзейнічаннем механічных сіл. Тэорыя Бертолле наадварот мае дзве прадпасылкі:

1) Працэс растварэння прадстаўляе сабой хімічны працэс, абумоўліваемы ўзаемным срадством растварыцеля і раствараемага цела.

2) Раствор прадстаўляе сабой сапраўднае хімічнае злучэнне, не гледзячы на тое, што ён не паказвае тых пэўных

[1]) Даложана на сесіі БДУ, прысвечанай стагоддзю са дня нараджэння Д. І. Мендэлеева.

[2]) Лавуаз'е—Traitè èlémentaire de Chymie. 1789.

узаемаадносін, якія існуюць паміж састаўнымі часткамі ў многіх злучэннях.

Па меры разгортвання дыскусіі ў літаратуры накапілася маса эксперыментальнага матэрыялу, які патрабаваў як у тым, так і ў другім выпадку агульна-тэарэтычнага афармлення.

І вось у 1887 г. у першым нумары заснаванага Во. Оствальдам Zeitschrift für Physikaliche Chemie паяўляюцца адначасова тры класічных працы: 1) работа Мендэлеева па гідратна-хімічнай тэорыі раствораў; 2) работа Вант-Гофа па асматычнай, па сутнасці фізічнай тэорыі, і ўрэшце 3) не менш вядомая тэорыя электралітычнай дысацыяцыі Арэніуса, у пэўнай меры дапаўняючая тэорыю Вант-Гофа і паслужыўшая ў далейшым крыніцай для больш глыбокага вывучэння атамнай структуры і прыроды раствораў.

Вант-Гоф, скарыстоўваючы работы па асматычнаму ціску Дэ-Фрыза Пфефера, Траубе і інш. і прымяняючы малекулярна-кінетычную тэорыю к сільна разбаўленым растворам, аблек эксперыментальны матэрыял у прыгожую матэматычную форму і наглядна паказаў, што вешчаствы ў растворы мінімальных канцэнтрацый вядуць сябе так, як калі-б яны знаходзіліся у газападобным, альбо парападобным стане, і ўсе газавыя законы ў аднолькавай ступені прымянімы і да разбаўленых раствораў.

Вант-Гоф па сутнасці мала займаўся пытаннем аб прычынах і механізме асматычнага ціску, як і Арэніус мала цікавіўся прычынамі, выклікаючымі дысацыяцыю, але, ідучы па аналогіі з газавым станам, Вант-Гоф звязвае асматычны ціск у растворы з кінетычнымі ўласцівасцямі растворных частачак, выражаючыйся ў бамбандыроўцы імі прагарады альбо мембраны асмометра, аналагічна таму, як газавы ціск з'яўляецца вынікам удараў газавых частачак аб сценкі сасуда, дзякуючы пэўнаму запасу ў іх кінетычнай энергіі. Значыць у гэтай тэорыі не ўлічваецца ні хімічная прырода раствораных частачак, ні іх хімічнае ўзаемадзеянне з малекуламі растварыцеля.

Мендэлееў цікавіцца растворамі з другога боку. Асобнае месца ў сістэме хімічных ведаў ён удзяляе растворам іменна таму, што ў іх ён бачыць пачатковую форму праяўлення хімізма вяшчэстваў. Ён прадпрынімае крупнае даследванне па водных растворах $H_2SO_4$ і спірта[1]) і іншых сістэм, вылíўшаеся ў манаграфію больш чым у 500 старонак. У гэтай рабоце ён кладзе прочны пачатак хімічнай, гідратнай тэорыі раствораў, падводзячы адначасова прочную базу для

[1]) Д. И. Менделеев, „О соединении спирта с водой“, 1865. „Исследование водных растворов по удельному весу“, 1887. Основы химии.

цэлага шэрагу разрозненых фактаў, вядомых яшчэ і да яго ў хімічнай літаратуры па аналагічнаму пытанню.

Аналізуючы агромны эксперыментальны матэрыял, у асаблівасці ў сістэме канцэнтраваных раствораў, Мендэлееў прыходзіць к вываду, што пры растварэнні неабходна дапусціць утварэнне поўных злучэнняў малекул растварыцеля з малекуламі раствараемага цела ў выглядзе гідратных комплексаў пэўнага саставу.

Вывучаючы залежнасць удзельных вагаў сернай кіслаты ў водным растворы ад канцэнтрацыі, ён устанавіў, што прырашчэнне ўдзельнай вагі (S) пры ўзрастанні %-га ўтрымання $H_2SO_4$ у растворы (p) прадстаўляе з сябе прамалінейную функцыю:

$$\frac{dS}{dp} = A + 2Bp$$

і яму не ўдалося знайсці ніводнага выключэння ад прамалінейнага характара дыферэнцыяльнай праізводнай $\frac{dS}{dp}$.

Пры бліжэйшым вывучэнні раствора аказалася, што праізводная $\frac{dS}{dp}$ для воднага раствора $H_2SO_4$ аказалася прамалінейнай пераменнай са змяненнем процантнага ўтрымання толькі монагідрата (p), але яна не можа быць паказана на ўсім працягу канцэнтрацый у выглядзе толькі адной прамой, але дае некалькі прамых, скачкі альбо перарывы якіх адпавядаюць пэўным новым гідратам. Значыць, пры першым разрыве неперарыўнай прамой мы маем у растворы монагідрат сернай кіслаты, пры другім разрыве прамой дзі-гідрат і г. д.

Падобныя „асобныя точкі“ ў растворах, выяўляемыя альбо па разрыву прамалінейнай прамой, альбо ў выглядзе максімумаў, мінімумаў, точак перагібаў у змяненні розных уласцівасцей раствораў, прадстаўляюць вельмі важны крытэрый для характарыстыкі хімічных роўнаваг у растворах і ў асаблівасці для ўстанаўлення ў іх пэўных хімічных злучэнняў паміж малекуламі растварыцеля і раствараемага цела.

Паўтараючы работу Мендэлеева, Арэніус у 1904 г. атрымаў дадзеныя праізводнай $\frac{dS}{dp}$, якія амаль не адрозніваюцца ад велічынь, атрыманых Мендэлеевым.

У табліцы 1 і фіг. I прыведзены дадзеныя Мендэлеева „M“ і Арэніуса „A“ для 6 абласцей %-х канцэнтрацый.

*Табліца № 1*

| | | | п. % $H_2SO_4$ |
|---|---|---|---|
| I | $\frac{dS}{dp}$ | =76,51—2,65. p. (M)<br>=76,5—2,65. p. (A) | ад 0—3,5% |
| II | | =71,16+0,407. p. (M)<br>=71,20+0,41. p. (A) | 3,5—47,5 |
| III | | =61,90+7,96. p. (M)<br>=61,90+8,0. p. (A) | 47,5—73 |
| IV | | =326,65—2,705. p. (M)<br>=326,7—2,71. p. (A) | 73—84 |
| V | | =728,755—7,492. p. (M) | 82—100 |
| VI | | =—651+7,8. p. (M).<br>=—651+7,8. p. (A) | 100—110 |

Указаныя тут змены праізводнай dS/dp наглядна прадстаўлены на фіг. 1 з шасці прамых ліній, кожная мае асобны вугал нахілу, утвараючы ў пяці пунктах зрухі, альбо разрывы, адпавядаючыя пэўным гідратам $H_2SO_4$; $H_2SO_4 . H_2O$; $H_2SO_4 . 2H_2O$; $H_2SO_4 . 6H_2O$. $H_2SO_4 .150 H_2O$.




Фіг. 1.

Для адных з паказаных гідратаў мы назіраем нязначныя зрухі прамых IV і V, III і IV, а для другіх, напрыклад для нармальнай $H_2SO_4$, гэты разрыў самы рэзкі, роўны каля 150 адзінак названай праізводнай.

Аналагічнае з'явішча назіраў Мендэлееў і для водных раствораў спірта і інш. вяшчэстваў. Значыць і тут ён устанаўлівае гідраты спірта з пэўнай колькасцю малекул звязанай вады.

Далейшыя работы раду даследчыкаў: Кольраўша[1]), (Джонса[2]), Кнітша[3]) і інш. цалкам пацвярджаюць вывады Мендэлеева аб існаванні гідратаў у растворах. Акрамя ўказаных зрухаў прамых налічча гідратаў у растворах можна даказаць па ізгібах, изломах у змяненні другіх уласцівасцей водных раствораў $H_2SO_4$. На фіг. 2 прыведзены крывыя плаўкасці (ніжняя) па работам Пікеерынга (1890 г.) і др., а таксама ізатэрма ўнутранага трэння—па рабоце Н. І. Падкапаева (1912).




Фіг. 2.

Як і ў дыяграме Мендэлеева мы бачым тут (фіг. 2) налічча пяці максімумаў тэмператур плаўлення, адпавядаючым пяці гідратным формам сернай кіслаты: 1) $2\,SO_3.H_2O = H_2S_2O_7$ — пірасерная кіслата; 2) $SO_3 . H_2O = H_2SO_4$ — нармальная серная кіслата; 3) $SO_3 . 2H_2O = H_2\,SO_4 . H_2O$; 4) $SO_3 . 3H_2O = H_2SO_4 . 2H_2O$; 5) $SO_3 . 5H_2O = H_2SO_4 . 4H_2O$.

Пэўна выражаныя максімумы ва ўсякім выпадку для трох гідратных форм $H_2SO_4$ мы назіраем і па дадзеных унутранага трэння раствораў—$\eta$ (верхняя крывая).

Гідрат $H_2SO_4$, устаноўлены Біронам[4]), з упэўненасцю быў прадсказан Мендэлеевым па разрыву III і IV прамых, атрыманых па праізводнай ds/dp, што гаворыць як за точнасць метаду Мендэлеева, так і за вернасць яго вывадаў. Пагэтаму тое недавер'е, з якім была сустрэта спачатку гідратная тэорыя з боку даследчага міра як у яе экспе-

[1]) Кольрауш—Ann. d. Phys. Chem. (3), 26, 161, 1885.
[2]) Джонс (H. Jones)—Zeitschr. für. Phys. Chem. *13*, 419, 1884.
[3]) Кнітш—Ber. *34*, 4069, 1901; *Ж*. *34*, (2), 69, 85, 1902.
[4]) Е. В. Бірон—*Ж*. *31*, 517, 1899.

рыментальнай частцы[1]), так і ў частцы тэарэтычных аснаванняў, пачало паступова рассейвацца, і гэта тэорыя ў далейшым атрымала ўсеагульнае прызнанне.

Пры вывучэнні змянення аб'ёмаў і плотнасцей раствораў Мендэлееў канстатуе, што аб'ём раствораў звычайна менш сумы аб'ёмаў растварыцеля і раствараемага цела, што нельга аб'ясніць толькі эфектам „упакоўкі". Пры плаўленні цвёрдых цел аб'ём іх павялічваецца, плотнасць памяншаецца. Значыць, калі-б растварэнне прадстаўляла з сябе звычайны фізічны працэс размеркавання малекул раствараемага цела паміж малекуламі растварыцеля аналагічна пераходу цвёрдага цела ў вадкае становішча, а раз гэта не так, то агульны аб'ём раствора па аналогіі са сплавам павінен быць больш сумы аб'ёмаў выходных вяшчэстваў, то трэба прызнаць утварэнне ў працэсе растварэння пэўных хімічных злучэнняў. Аналагічнае з'явішча мы назіраем пры ўтварэнні пэўных, лёгка даказуемых хімічных злучэнняў, дзе таксама назіраецца змяншэнне аб'ёмаў атрыманых новых злучэнняў.

Паколькі аднак у працэсе растварэння цвёрдых і вадкіх цел змяншэнне аб'ёма, альбо павелічэнне плотнасці не заўсёды звязана з строгай прапарцыянальнай залежнасцю з колькасцю раствораных вяшчэстваў, то ў гэтым тым больш сказваюцца індывідуальныя асаблівасці у хімічных уласцівасцях узятых выходных вяшчэстваў, як гэта часта назіраецца і пры ўтварэнні пэўных хімічных злучэнняў.

Стан гідратаў у растворы Мендэлееў прадстаўляе сабе ў дынамічнай роўнавазе з растварыцелем. Іх нельга прадстаўляць як нешта нязменнае, ізаліраванае ў сістэме, наадварот, кожнае мгнавенне малекулы вады дадзенага гідрата неперарыўна абменьваюцца месцамі з малекуламі растварыцеля, захоўвае пэўныя колькасныя суадносіны для дадзенай канцэнтрацыі і дадзеных фізічных умоў. Мяняючы канцэнтрацыю раствора, альбо фізічныя ўмовы, мы здвігаем сістэму ў бок новай устойлівай роўнавагі большай альбо меншай гідратацыі і такім чынам ён дапускае ў растворы наліччa многіх пэўных злучэнняў. Калі ў кожным асобным выпадку іх і нельга вылучыць у чыстым відзе, так можа быць толькі таму, што яны могуць быць устойлівы ні ў якім другім агрэгатным становішчы, акрамя як у вадкім. У асобных выпадках такія гідраты ўдалося выдзеліць і непасрэдна ўстанавіць іх састаў.

[1]) S. U. Pickering—Zeitschr. Phys. Chem. 6, 10, 1890.
H. C. Jones. Publication № 210 of the Carnegie Jnstitution of Washington, S. 141, 1913.
Lupton—Phil. Mag. (5), *31*, 418, 1891.
Charpy—Zeitschr. Ph. Ch.12, 394, 1893.
Rücker. Phil. Mag. (5), *32*, 304, 1891; *33*, 204, 1892.

Здольнасць раду солей мець у цвёрдым стане цэлы шэраг гідратных форм са строга пэўным утрыманнем крышталізацыйнай вады, якая пры павышэнні тэмпературы трацiцца не паступова, але пэўнымі скачкамі, дазваляе дапусціць і ў водным іх растворы падобных, можа быць яшчэ больш складаных, злучэнняў, якія пры змяненні тэмпературы альбо канцэнтрацыі будуць мяняць свой гідратны склад не паступовай тратай альбо набыццём гідратнай вады, але асобнымі, значна большымі чым адна водная малекула, квантамі, пераскакваючы такім чынам ад адной устойлівай роўнавагі к другой праз некалькі водных малекул.

Для кожнай з крышталізацыйных форм мы можам устанавіць характэрную для яе ступень растварымасці. На фіг. 3 прадстаўлена дыяграма растварымасці розных форм $Na_2CO_3$.



Фіг. 3.

Пры тэмпературы—2,1° і 6,3% канцэнтрацыі п а м і ж содай і льдом утвараецца эвтэктыка. Пачынаючы з дадзенай точкі крывая растварымасці соды хутка расце, дасягаючы пры 32° да 45,6% канцэнтрацыі. У гэты час крывая растварымасці монагідрата апускаецца палога, даючы пры 50° каля 47,5%, а пры 104,75°—45,1% канцэнтрацыю. Пры 32° мы маем точку ператварэння дзесяціводнай формы ў сяміводную, пры 35,37° сяміводнай формы ў аднаводную. Паколькі абедзве сяміводныя формы мала ўстойлівы, то пры ахаладжэнні монагідрата часта назіраецца становішча перасычэння.

Падобна таму, як у цвёрдым крыштале асобныя атамы і іёны прочна ўтрымліваюцца адзін з другім у крышталічнай рашотцы, а ў расплаўленым стане гэта сувязь значна аслаблена, так і для гідратаў у водным растворы трэба лічыць сувязь вады ў гідратным комплексе менш прочнай, чым яна мае месца ў крышталічнай форме. Пагэтаму Мендэлееў характарызуе растворы як вадкія, няпрочныя, пэўныя хімічныя злучэнні ў стане дысацыяцыі.

Пры такім прадстаўленні аб прыродзе раствораў,—кажа ён,—паняцце аб іх зводзіцца к паняццю аб пэўных злучэннях, якімі пераважна займаецца хімія і на якія мы канцэнтруем нашу ўвагу.

Вядомыя прадстаўнікі хімічнай тэорыі раствораў, напрыклад Венцінг[1]) і Ганч[2]), якія прызнаюць утварэнне ў водных растворах не сталых гідратаў у пэўных часцічных адносінах, як гэта лічыць Мендэлееў, а што кожнаму разбаўленню адпавядае свой гідрат, няўстойлівага, пераменнага складу, які неперарыўна рухаецца ў той альбо іншы бок па меры змянення тэмпературы і канцэнтрацыі.

Гэтаму погляду Мендэлееў процівапастаўляе той вядомы факт[3]), што водныя растворы галоіда-вадародных кіслот HCl і HI і інш., пры спробах разгонкі ад растварыцеля—вады, пры зусім пэўных тэмпературах для HCl пры 110°, а для HI пры 127° пачынаюць пераганяцца сумесна з вадой і заўсёды ў пэўных колькасных суадносінах—для HI з $5H_2O$, а для HCl з $8H_2O$. Такім чынам тут не мае месца перамяшчэнне рухомай роўнавагі з канцэнтрацыяй раствора ў бок аддачы вады, а пэўныя прочныя кіслотныя гідраты пры пэўнай тэмпературы цалкам пераганяюцца як індывідуальныя целы. Пры нізкай тэмпературы ўдалося вылучыць гідраты названых кіслот у цвёрдым стане.[4])

У абаснаванне сваёй гідратнай тэорыі Мендэлееў указвае на той факт, што мы маем звычайную з'яву ў растворах, калі, напрыклад, тэмпература кіпення раствораў вышэй чым тэмпература кіпення кожнага кампанента. Так, напрыклад, тая-ж HCl, якая кіпіць пры мінус 85°, HI кіпіць пры мінус 35°, а ў водным растворы кожная з гэтых сістэм кіпіць вышэй 100°. Калі-б працэс растварэння заключаўся ў простым фізічным змяшэнні пары ўзятых вяшчэстваў, то кампанент з меншай упругасцю пароў іспараўся-б раней і пры больш нізкай тэмпературы чым 100°. А раз тэмпература кіпення раствора вышэй 100°, прыходзіцца прызнаць, што ў растворы ўтварыліся пэўныя хімічныя, гідратныя комплексы з малай упругасцю пароў і значыць высокай тэмпературай кіпення.

Большая колькасць солей, будучы выкрышталізаванай з водных раствораў, утрымлівае ў сваёй крышталічнай рашотцы пэўную колькасць вады. Не кажучы ўжо аб такіх салях, як квасцы, глаўберава соль, медны купарос і г. д., але нават і NaCl пры тэмпературах крышталізацыі ніжэй мінус 10° утрымліве ў цвёрдым стане на 100 вагавых частак 38 частак крышталізацыйнай вады. Трэба чакаць, што і другія солі, звычайна крышталізуючыяся пры звычай-

---

[1]) P. Wenting—Zeitschr. Phys. Chem. *68*, 513, 1909

[2]) Hantsch u. Sebald—Zeitschr. f. Phys. Chem. *31*, 258, 1889.
Hantsen u. Vagt „ „ „ *38*, 405, 1901.

[3]) Berthelot—Compt. rend. *76*, 741, 1873; *86*, 282, 1878; Ann. chim. Phys (5), *1*,369, 1878.

[4]) Roozeboom—Réc. trav. chim. *5*, 363, 1886.
Sp. U. Pickering—Berl. Ber. *26*, 277, 2307, 1893; Phil. Mag. (5) *36*, 111, 1893; Journ. Chem. Soc. 436, 1893.

ных тэмпературных умовах без вады, са зменай гэтых умоў у бок нізкіх тэмператур крышталізацыі будуць таксама ўтрымліваць гідратную ваду. Адсюль лагічна следуе, што калі соль у цвёрдым стане ўтрымлівае сабой пэўную колькасць крышталізацыйнай вады, то цяжка дапусціць, каб соль альбо іншыя злучэнні, будучы ў водным растворы яшчэ ў лепшых умовах кантакта з вадой, не ўтваралі там гідратаў пэўнага складу, хоць можа быць і не так проч-



Фіг. 4.

ных, як у цвёрдым крышталічным відзе. Такая гідратацыя ў сучасны момант з пэўнасцю даказана не толькі для нейтральных малекул, але і для асобных іёнаў. Джонсам устаноўлена пэўная сувязь паміж гідратацыяй катыёнаў і атамнымі аб'ёмамі. Вядома, што атамныя аб'ёмы знаходзяцца ў пэўнай перыядычнай залежнасці ад атамнай вагі элемента.

Пры бліжэйшым вывучэнні гідратацыі іёнаў аказалася, што элементы з максімальным атамным аб'ёмам—К, Rb, Cs, Na—найменш гідратыраваны, наадварот з мінімальным атамным аб'ёмам—Fe, Co, Ni, Al, Cr і інш. даюць найбольш складаныя гідраты. Пераважную здольнасць іёнаў к гідратацыі можна прыпісаць знаходжанню на іх электрычных зарадаў і значыць прызнаць за з'яву электрастатычнага характара; тады ступень гідратацыі будзе залежыць ад плотнасці зарада на іёнах. Так як плотнасць зарада на невяліліх па аб'ему іёнах Fe, Cr, Al і г. д. больш чым на іёнах з большым атамным аб'ёмам К, Rb, Cs, то і гідратацыя для першых больш чым для другіх. Такія даследчыкі, як Брэдзіх[1]) Уэшборн,[2]) Рызенфельд,[3]) Рэмі[4]) і інш., устанавілі, што ступень

[1]) Bredig.--Z. Ph. Ch. *13*, 191, 1894.
[2]) Washburn—Z. Ph. Ch. *66*, 549, 1909.
[3]) Riesenfeld u. Reinhold—Z. Ph. Ch. *66*, 675, 1909.
[4]) Remy—Z. Ph. Ch. *89*, 467, 1915.

гідратацыі іёнаў лёгка ўстанавіць па электраправоднасці або па рухомасці іёнаў. Атамы з вялікімі аб'ёмамі і значыць з малай гідратацыяй маюць параўнаўча малы аб'ём гідратыраваных комплексаў, і мы для іх назіраем найбольшую падвіжнасць (Na, Cl, K, Rb), наадварот атамы малых аб'ёмаў уладаюць вялікай гідратыруемасцю, значыць маюць вялікі гідратыраваны комплекс, сустракаючы пры руху вялікае супраціўленне і адсюль уладаючыя мінімальнай рухомасцю іёнаў—Al, Cr, Cd і др.

Хоць павелічэнне аб'ёма гідратыраванага іёна непасрэдна і цяжка вымерыць, затое па дадзеных рухомасці іёна, якая адваротна прапарцыянальна яго радыусу, мы, прымяняючы закон Стокса,

$$r = \sqrt{\frac{9.\eta v}{2(D-d).g}}$$

можам непасрэдна вымерыць радыус іёна і яго аб'ём. У дадзеным раўнанні:

r — радыус частачкі
$\eta$ — вязкасць асяроддзя
v — аб'ём частачкі
D — шчыльнасць рухаючагася цела
d — шчыльнасць асяроддзя.

Рэмі[4]) вылічыў такім чынам па формуле Стокса колькасць малекул вады, звязаных іёнам шчолачных металаў, (дадзеныя прыведзены ў табл. 2).

*Табліца № 2*

| Ён | Лік малекул вады, звязаных іёнам |
|---|---|
| $Li^{\cdot}$ | < 120 |
| Na. | < 60 |
| $NH_4^{\cdot}$ | 17 |
| $K^{\cdot}$ | 16 |
| $Rb^{\cdot}$ | 14 |
| $Cs^{\cdot}$ | 13 |

Лорэнц і Борн[1]) азначалі радыус „r“ рухаючыхся іёнаў, узяўшы раўнанне Стокса у форме:

$$u = \frac{K}{6\pi.r.\eta},$$

дзе K—сіла, пад уплывам якой працякае рух частачкі (іёна) у вадкасці.

[1]) Лорэнц—Zeitschr. f. Elektroch. *26*, 221, 424, 1920.
Борн—Zeitschr. f. Elektroch. *26*, 401, 1920.

Калі ізабразіць у сістэме каардынат залежнасць паміж хуткасцю руху іёна і іх атамнымі вагамі, то і тут, як устанавіў Брэдзіх, назіраецца перыядычная залежнасць (фіг. 5).




Фіг. 5.

Мы бачым, што ў максімумах на дыяграме атамных аб'ёмаў (фіг. 4) і рухомасцей іёнаў (фіг. 5) размясціліся адны і тыя-ж элементы з мінімальнай ступенню гідратацыі; у мінімумах, наадварот, стаяць элементы з мінімальнымі аб'ёмамі і максімальнай гідратыруемасцю.

Гідратацыя іёнаў у апошні час была ўстаноўлена Талмудам[1]) па эфекту дэгідратацыі імі палярных груп малекул паверхневага слоя шляхам устанаўлення залежнасці плоскага ціску плёнкі ад плошчы, займаемай адной малекулай. Катыёны і аніёны ў гэтым выпадку размяшчаюцца ў гамалагічны рад па ступені іх дэгідратыруючага дзейнічання, адпавядаючы парадку іх уласнай гідратацыі:


$Li > K > Na$;  Цытрат $> SO_4 > Cl > Br$.

Па электрадынамічнай тэорыі Лорэнца і Борна рухомасць іёнаў і выцякаючы адсюль вынік—ступень гідратацыі—павінны атрымаць карэктуру ў сэнсе наліччa не толькі механічнага супраціўлення руху гідратыраванага іёна ў электрычным полі, але і супраціўлення электрадынамічнага парадку.

Малекулы вады можна прадставіць як дзіполь, арыентаваны к іёну пэўным чынам (фіг. 6.)

Пагэтаму пры руху іёна ў працэсе электраправоднасці ўзнікае супраціўленне яго руху не толькі механічнага парадку, але дзякуючы таксама 1) негамагеннасці электрычнага поля і 2) моманту вярчэння малекул вады, паглынаючай частку энергіі руху іёнаў.

[1]) D. L. Talmud, B. A.Talmud u. S. E. Bresler.—Zeitschr. f. Phys. Chem. A. *163*, 91. 1933.

Не застанаўліваючыся падрабязна на багатай літаратуры па гідратнай тэорыі раствораў, трэба ўказаць, што аб гідратацыі або ў агульным выпадку сальватацыі малекул





$$(m+m')H_2O+\overset{+}{Na}\overset{-}{Cl} \rightleftharpoons (\overset{+}{Na}.mH_2O)+(\overset{-}{Cl}.m'H_2O)$$

Фіг. 6.

і іёнаў у растворы мы судзім па цэламу шэрагу адхіленняў ад патрабаванняў асматычнай тэорыі Вант-Гофа, па цэламу шэрагу анамалій у іх фізіка-хімічных канстантах, у асаблівасці для канцэнтраваных раствораў. Гэтыя адхіленні назіраюцца пры вымярэнні крыаскапічных і эбуліяскапічных дэпрэсій раствораў, пры вымярэнні вязкасці, электраправоднасці, паказчыкаў праламлення, цеплавога эфекта змяшэння, светапаглынання і г. д.

Асабліва наглядным прыкладам утварэння гідратаў у растворы, пацвярджаючым саму гідратную тэорыю, з'яўляецца вопыт Пікерынга [1]) над вымярэннем асматычнага ціску воднага раствора прапілавага спірта. Пагружаючы асмометр, напоўнены водным растворам прапілавага спірта адзін раз у дыстыляваную ваду, другі раз у чысты прапілавы спірт, ён у абодвух выпадках назіраў пад'ём гідрастатычнага стаўба ў трубцы асмометра. Значыць, у абодвух выпадках знешнія вадкасці—як спірт, так і вада праходзяць праз мембрану ўнутр асмометра, у той час як водны раствор прапілавага спірта не пранікае праз мембрану з асматычнага сасуда ў знешняе асяроддзе. Адзіным тлумачэннем гэтаму з'явішчу можа быць тое, што ў сумесі прапілавага спірта з вадой, знаходзячайся ў асматычным сасудзе,

[1]) S. V. Pickering—Phyl. Magaz. (5), *36*, 111, 1893.

утварыліся гідратныя комплексы, якія па свайму размеру не могуць прайсці праз поры мембраны асмометра, аднак могуць нарастаць, альбо наадварот змяншацца, засасываючы ў сувязі з гэтым праз мембрану, альбо ваду, альбо прапілавы спірт. Апошнія, кожны паасобку, свабодна фарсіруюць поры мембраны.

Мендэлееў, ставячы на першы план хімічную прыроду сувязі пры ўтварэнні гідратаў у растворы, не стараўся бліжэй высветліць механізм і прычыны такой сувязі. Ён кажа, што „прырода хімічных сіл таксама скрыта ад нас, як і прырода ўсеагульнага цягацення, але як без ведаў гэтай апошняй астранамічныя з‘явы сталі падлягаць точнаму абагульненню і падрабязнаму прадсказанню мноства частнасцей, так без ведання прыроды хімічнага радства ёсць надзея дасягнуць у вывучэнні хіміі значнага поспеху. Але дагэтуль значная частка хімічных звестак не абагулена і складае бягучую задачу навукі". Аднак, для тлумачэння хімічных з‘яў ён не прыбягае к якім-небудзь надмеханічным, надфізічным сілам, а зводзіць сутнасць хімічных працэсаў к механічным і фізічным уласцівасцям частак. Ён кажа, што існуе цесная сувязь паміж хімічнымі сіламі прыцягнення і электрычнымі, так як пры хімічных узаемадзеяннях развіваецца электрычнасць і яна ў сваю чаргу здольна рэзка ўплываць на хімічныя працэсы.

Бліжэй падыйсці к гэтым пытанням тады, магчыма, было яшчэ досыць цяжка, тым больш, што Мендэлееў яшчэ не зусім мірыўся нават з тэорыяй электралітычнай дысацыяцыі, а ключ к рашэнню такіх пытанняў, як хімічная сувязь, трэба шукаць раней за ўсё ў электрычнай прыродзе вешчаства, ці будзе гэта электрастатычная сіла прыцягнення за кошт асноўнай зараднасці, ці дадатковая электрастатычная сіла прыцягнення ў Вернераўскім сэнсе, ці дзіпольны альбо мульціпалярны характар малекул і г. д.

Не гледзячы на агромнае значэнне гідратнай тэорыі ў справе разумення прыроды раствораў, яна ўсё-ж не заняла адразу таго месца, якое павінна было-б па праву ей адведзена. Слабым месцам гідратнай тэорыі з‘яўляецца тое, што яна не ўкладваецца ў рамкі агульных законамернасцей і адсюль не паддаецца строгай матэматычнай апрацоўцы. Пагэтаму ўсе дадзеныя, указваючыя на з‘явы гідратацыі, атрымліваемыя па цэламу шэрагу фізіка-хімічных вымярэнняў, не прыводзяць к зусім яснай карціне. Гэта тлумачыцца тым, што малекулы растварыцеля, уваходзячыя ў склад сальватнага комплекса, утрымліваюцца ім з рознай сілай, пагэтаму натуральна часта адсутнічае рэзкая граніца паміж звязанымі і незвязанымі малекуламі растварыцеля. Вось чаму з паяўленнем у свет асматычнай тэорыі раствораў Вант-Гофа гідратная тэорыя засталася на некаторы час у цені.

Красата і ізяшчэства вывадаў асматычнай тэорыі раствораў, колькасная яснасць залежнасцей паміж асматычным ціскам, канцэнтрацыяй і фізічнымі ўмовамі вопыта, колькасная універсальнасць яе прымянення, паколькі велічыня асматычнага ціску залежыць толькі ад колькасці растворaных частачак вешчаства, незалежна ад іх якасці і хімічнага складу—усё гэта даволі скора схіліла даследчыкаў на бок фізіка-асматычнай тэорыі раствораў Вант-Гофа.

Аднак, дзякуючы сваёй яснасці і прастаце, асматычная тэорыя Вант-Гофа пачала безагаворачна прымяняцца к занадта шырокаму дыяпазону канцэнтрацый і ў сілу яе абмежаванай колькаснай прымянімасці, іменна к разбаўленым сістэмам; гэта прывяло к лжывым прадстаўленням адносна будовы раствораў.

Па меры накаплення даследчага матэрыяла стала відавочным, што адной асматычнай тэорыяй не ахапіць усей living рознастайнасці з'яў, працякаючых у растворах, і гідратная тэорыя Мендэлеева ўзноў пачала займаць сваё месца ў гісторыі развіцця вучэння аб растворах.

Калі вывучалі разбаўленыя растворы, факты вельмі добра спалучаліся з тэарэтычнымі расчотамі асматычнай тэорыі; па меры пераходу к канцэнтраваным растворам наглядаліся ўсё большыя і большыя адхіленні ад патрабаванняў гэтай тэорыі.

Дастаткова ўказаць на вельмі тонкія па выкананню работы Морзе [1]) па вымярэнню асматычнага ціску ў растворах цукру. Пры гэтым аказалася, што нават для 0,1 N раствораў трастніковага цукру атрымоўваюцца велічыні асматычнага ціску вышэй, чым таго патрабуе тэарэтычны разлік асматычнай тэорыі. Па меры павелічэння канцэнтрацыі, гэтыя адхіленні павялічваюцца і для высокіх канцэнтрацый, дзе, напрыклад, па тэорыі Вант-Гофа павінен атрымацца асматычны ціск у 49 атмасфер; Морзе на вопыце атрымаў ціск раствора ў 134 атмасферы. Тлумачэнне гэтага можна знайсці зноў-такі ў гідратнай тэорыі Мендэлеева.

Пры ўвядзенні вешчаства ў ваду, яно падвяргаецца гідратацыі і тым у большай ступені, чым вышэй разбаўленне альбо чым менш канцэнтрацыя. Калі раствор разбаўлен, то хоць мы і маем у гэтым выпадку максімальную гідратацыю, але адносны процант гідранта звязанай вешчаствам вады будзе ўсё-ж настолькі нязначным, што канцэнтрацыя вешчаства практычна не мяняецца, і гідратыраваныя малекулы, падпарадкуючыся агульным кінетычным законамернасцям, праяўляюць асматычны ціск, адпаведны ўзятай канцэнтрацыі.

Па меры пераходу к канцэнтраваным растворам, хоць ступень гідратацыі асобных растворaных малекул можа бу-

[1]) Морзе—Amer. Chem. J. *45*, 91, 1911; *45*, 519, 1911.

дзе і менш, але пры вялікай канцэнтрацыі ўзятага вешчаства адносная колькасць гідратна-звязанай вады ў гэтым выпадку будзе настолькі вялікай, што яна рэзка будзе ўплываць на канцэнтрацыю сістэмы ў бок яе павелічэння і мы атрымоўваем пагэтаму непамерна вялікія павелічэнні асматычнага ціску, росту крыаскапічнай і эбуліяскапічнай дэпрэсіі і г. д., атрымоўваем адхіленні далёка выходзячыя за рамкі тэарэтычных патрабаванняў асматычнай тэорыі.

Пад напорам фактычных дадзеных нават Арэніус, гэты правадыр новага фізічнага напрамку ў тэорыі раствораў, у 1904 г. павінен быў прызнаць, што гідраты існуюць як у растворы, так і ў цвёрдым стане. Пасля такога прызнання тэорыя Мендэлеева зноў вастанаўлівае сваё навуковае значэнне і ўсякая новая тэорыя, ахапляючая ўсю суму з'яў у растворы, павінна заўсёды адвесці пэўнае месца ідэі, абараняўшайся Мендэлеевым аб наліччы пэўнага хімічнага ўзаемадзеяння паміж малекуламі растварaемага цела і растварыцелем.

Гідратная тэорыя Мендэлеева ляжыць бліжэй к вобласці цвёрдых вяшчэстваў, і мы бачым аналогію ў ёй з крышталагідратамі; асматычная тэорыя Вант-Гофа ляжыць бліжэй к высока-распыленаму, разбаўленаму стану вешчаства, і мы знаходзім аналогію і нават тождзества ў тлумачэнні стану вешчаства ў разбаўленым растворы са станам разражоных газаў.

Цікава адзначыць,што работамі апошняга часу згладжваецца рэзкі пераход паміж вадкім і цвёрдым агрэгатным станам і тым самым узмацняецца палажэнне гідратнай тэорыі аб існаванні ў водных растворах гідратаў, аналагічных крышталам з пэўнай колькасцю звязанай вады.

У эксперыментальных работах Дэбая[1]), Сцюарта[2]), Майера[3]), Трылат[4]) і інш. указваецца на вераятнасць пэўнага размяшчэння малекул у вадкай фазе, утвараючых больш-менш сталыя комплексы тысяч і дзесяткаў тысяч малекул, уладаючых у гэтых комплексах правільнай крышталічнай структурай. Пры гэтым часта назіралася, што крышталічная структура гэтых комплексаў у вадкай фазе супадае з крышталічнай структурай у цвёрдай фазе. „Крышталічная", структура вадкасцей асабліва ясна павінна праяўляцца каля точкі зацвердзявання, што было з відавочнасцю даказана Ерэра[5]) па ходу дыялектрычнай сталай дыпольных вадкасцей. Размеры гэтых комплексаў Ерэра вылічыў

---

[1]) Дебай—Ergebnisse d. technischen Köutgenkunde 2, 1, 1930.
[2]) Стюарт (Stewart) і супрац. Phys. Rev. 1927—1931.
[3]) Майер—Ann. d. Physik 5, 701, 1930.
[4]) Trillat—Zeitschr. f. Physik 64, 191, 1930.
[5]) Еррера (Errera)—Trans. Faraday Soc. 24, 162, 1928.

па часу рэляксацыі дыполяў (уксуснай кіслаты) і прымае для іх велічыню парадка $10^6$ малекул і нават больш.

Асоба вялікае значэнне з'ява гідратацыі мае ў галіне калоідных сістэм, дзе, як вядома, вялікая група калоідаў ў сілу здольнасці к гідратацыі атрымала назву гідрафільных альбо ў агульным відзе ліофільных золей. Такі золь як агар-агар здолен застудняваць пры комнатнай тэмпературы, будучы ў канцэнтрацыі 0,14% воднага раствору, г. зн., што агар-агар звязвае сабой аб'ём вады ў 700 раз пераўзыходзячы яго ўласны аб'ём.

З'ява гідратацыі ў калоідных сістэмах можа быць даказана на цэлым шэрагу ўласцівасцей золей: здольнасць к набуханню, стабільнасці, вязкасці, жэлатыніравання, сінерэзісу і г. д.

Адным з асноўных адрозненняў стабільнасці гідрафільных золей ад гідрафобных з'яўляецца тое, што частачкі дысперснай фазы ў першых маюць дадатковы фактар стабільнасці— гідратную абалонку. Простым дыспергіраваннем вешчаства ў індыферэнтным яму асяроддзі цяжка атрымаць устойлівую калоідную сістэму. Усякая ўстойлівая калоідная сістэма характарызуецца не толькі размерамі частак дысперсійнай фазы, але і наліччам у іх такіх асноўных фактараў стабільнасці, як электрычны зарад і сальватная абалонка. Абодва апошнія фактары процівастаяць дзейнічанню атракцыйных сіл паміж частачкамі золя. Пазбаўляючы гідрафобны золь асноўнага фактара стабільнасці—электрычнага зарада шляхам прыбаўлення к яму электралітаў, мы прыводзім сістэму к каагуляцыі. Гідрафільны золь у гэтых умовах застаецца яшчэ ўстойлівым так як гідратная абалонка, акаймляючая частачкі дысперсійнай фазы, перашкаджае ім збліжацца на адлегласці дзеяння атракцыйных сіл ($10^{-8}$ см) і такім чынам перашкаджае каагуляцыі. Дастаткова к такой сістэме, пераведзенай ў ізаэлектрычнае становішча, прыбавіць дэгідраціруючых вяшчэстваў ($C_2H_5OH$, большая колькасць солей), як гэтыя частачкі, пазбаўляючыся гідратнай абалонкі, становяцца аналагічнымі па ўласцівасцям гідрафобным і зараз-жа каагуліруюць. Наадварот, калі мы створым умовы, прыводзячыя к новай гідратацыі каагулята, мы зноў атрымаем устойлівы золь (абрацімая каагуляцыя). Падобную абрацімасць можна наглядна бачыць на схеме Кройта [1]).

У свеце гэтых прадстаўленняў асаблівай увагі заслугоўвае з'ява высалівання гідрафільных золей. У адрозненне ад гідрафобных золей, каагуляцыя якіх можа быць выклікана мінімальнай колькасцю ўведзенага электраліта, вылічваемага ў мііэквівалентах, для каагуляцыі такой-жа колькасці гідрафільных золей патрабуецца канцэнтрацыя солей парадку нар-

[1]) Kruyt—Zeitschr. für Phys. Chem, *100*, 250, 1922.

мальнай канцэнтрацыі і нават насычаных раствораў. У той час, як каагуляцыя гідрафобных золей электралітамі звязваецца са з'явамі электрадынамічнага парадку (электранейтралізацыя), пры каагуляцыі гідрафільных золей побач са з'явамі электранейтралізацыі рашаючую ролю адыгрывае працэс дэгідратацыі дысперсійнай фазы. Калі размясціць катыёны электралітаў у гамалагічны рад, то акажацца, што ступень каагуліруючага дзейнічання катыёнаў у адносінах гідрафільных золей знаходзіцца ў прамой залежнасці ад ступені ўласнай гідратацыі іёнаў (II, фіг. 8), а апошнія знаходзяцца ў


Фіг. 7.

абратнай залежнасці ад атамных аб'ёмаў (I, фіг. 8). На схематычнай фігуры 8 у цэнтры ізабражана калоідная частачка „K", акаймленая гідратнай абалонкай (0) (заштрыхована), незаштрыхованая частка „d" прадстаўляе ступень дэгідратацыі калоіднай частачкі пры дадзеных умовах. Побач з дэгідратацыяй калоідных частачак катыёнамі мыназіраем дэгідратацыю і аніёнамі. І тут аніёны размяшчаюцца па дэгідратыруючай ліятропны рад (III, фіг. 8), дзе на першым месцы стаіць здольнасці ў



Фіг. 8.

сульфат іён, на апошнім — роданат іён. Ліятропны рад іх уласнай гідратацыі мае абратны парадак. Адсюль мы бачым несумненную сувязь паміж гідратацыяй іёнаў і дэгідратацыяй імі калоідных міцэл.

Прапанаваная Д. І. Мендэлеевым методыка вывучэння раствораў па разрывах сплошнасці саставу—уласцівасць найшла сабе далейшае развіццё ў фізіка-хімічным аналізе Н. С. Курнакова[1]. „Асобныя точкі“ Мендэлеева, адпавядаючыя ў растворы ўласцівасцям пэўных злучэнняў раствараемага цела з малекуламі растварыцеля, у фізіка-хімічным аналізе атрымалі назву „сінгулярных точак“ (points singuliers). Па гэтых сінгулярных точках на лініях уласцівасцей Курнакову і іншым удалося ўстанавіць налічча пэўных хімічных злучэнняў у аднародных сістэмах як раствораў, так і металічных сплаваў. Фізіка-хімічны аналіз аперыруе зараз бінарнымі і больш складанымі сістэмамі і выліўся ў асобную навуку фізіка-хімічнага цыклу, аказваючую грамадную дапамогу ў вывучэнні солевых сістэм металічных сплаваў і г. д.

---

[1]) Н. С. Курнакоў і С. Ф. Жэмчужны—Ж. Р. Ф. Х. О. *44*, 1964, 1912; Z. Ph. Ch. *83*, 500, 1913.
Н. С. Курнакоў—Zeitschr. f. anorg. Chem. *146*, 69, 1925 і шм. інш.

ВУЧОНЫЯ ЗАПІСКІ ХІМІЧНАГА І БІЯЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА
БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА № 28. 1936 г.

В. К. НІКІФАРАЎ

# АБ СТАТЫСТЫЧНЫМ ХАРАКТАРЫ ПЕРЫЯДЫЧНАГА ЗАКОНА

Стагоддзе са дня нараджэння вялікага рускага хіміка Д. І. Мендэлеева, якое споўніцца ў лютым г. г., абавязвае нас яшчэ раз углубіцца ў працы майстра-мастака хімічнай навукі. Разглядаючы духоўную спадчыну, якую пакінуў Мендэлееў, трэба ацаніць яе і патрапіць выявіць бакі, здольныя да далейшага развіцця, а побач з гэтым вызначыць, якімі шляхамі можна ажыццявіць гэта развіццё. Дзейнасць Д. І. Мендэлеева была надзвычай рознабаковая і плодная, таму няма як у кароткай прамове ахарактарызаваць яе дастаткова поўна. Мне хочацца разглядзець адну асаблівасць перыядычнага закона, вельмі цікавую і ў наш час, а іменна, да якіх законаў статыстычных ці дынамічных трэба яго аднесці. На гэты бок перыядычнага закона амаль зусім не звярталі ўвагі да гэтага часу. У гэтым кірунку вядома адна работа H. H. Stephenson'а, у якой аўтар прабуе даць новую форму табліцы Мендэлеева, прычым паказвае рад лікавых адносін паміж сярэдне-арыфметычнымі значэннямі атамных вагаў элементаў яго табліцы [1]).

Пытанне аб статыстычным характары перыядычнага закона набывае вялікую вагу, калі мы пераходзім ад сістэмы хімічных элементаў да пабудовы сістэмы малекул, бо лік малекул, вядомых хімікам, перавышае 3 мільёны, у той час як хімічных элементаў налічваецца 92.

Ідэі Мендэлеева не адзін раз прабавалі развіваць прыстасоўна да хімічных злучэнняў, імкнучыся даць перыядычную сістэму малекул аналагічна пабудаванай ім для хімічных элементаў. Так яшчэ ў 1883 годзе Пелопідас [2]) паказаў на перыядычнасць змены ўласцівасцей некаторых арганічных злучэнняў. У гэтым кірунку працаваў Н. Н. Марозаў, Ален, Міро, Петрэнка - Крытчэнка, Грым, Шэмякін [3]) і інш. Некаторыя з іх да апошняга часу працуюць

над сістэмай малекул, і ўсё-ж нельга сказаць, каб прапанаваныя імі сістэматыкі ахаплялі хімічныя злучэнні хоць-бы ў агульных рысах. Гэта толькі першыя першапачатковыя спробы, якія не маюць агульнага значэння.

Галоўны недахоп іх работы ў тым, што яны механічна пераносяць уяўленні і паняцці, выпрацаваныя для хімічных элементаў, на іх злучэнні, не бачачы паміж аднымі і другімі вялікай розніцы.

Натуральная сістэма элементаў была пабудавана Мендэлеевым пры ўмове, што пры ўсіх ператварэннях (вешчаства) элементы застаюцца нязменнымі. Гэта дапушчэнне мае падставу: сапраўды, вельмі нязначна хімічная энергія ў параўнанні з цеплынёй ператварэння элементаў адзін у аднаго[1]). Таму ўласцівасці хімічных элементаў мала мяняюцца пры значных зменах знадворных умоў, тэмпературы, ціску і г. д. у той час, як устойлівасць малекул, асабліва складаных, моцна залежыць ад нязначных змен тых-жа самых зменных. Такім чынам, нельга вывучаць хімічных злучэнняў, не ўлічваючы знадворных умоў, у якіх яны існуюць. Значыць, прыходзім да вываду аб неабходнасці разглядзець сістэму малекул не так, як нешта застыўшае і нязменнае, незалежнае ад умоў (тэрмадынамічныя ўмовы р, Т... часу і прасторы), а ў руху і ў развіцці.

На падставе гэтага задамо сабе пытанне: што выйдзе з перыядычнай табліцы, калі, кажучы абразцова, „нагрэць яе".

Для адказу на гэта пытанне разгледзім фактычны матэрыял аб уласцівасцях малекул пры розных тэмпературах у супастаўленні з законам перыядычнасці элементаў. Асноўнай хімічнай характарыстыкай перыядычнага закона з'яўляюцца галоўным чынам солеўтвараючыя вокіслы і гідраты: $R$, $R_2O$, $R_2O_2$, $R_2O_3$ і $R_2O_4$; $R_5O_2$ $R_2O_6$,; $R_2O_7$; $R_2O_8$ і $RH_4$; $RH_3$; $RH_2$; $RH$.

Назавем гэта размеркаванне нармальным і азначым для кароткасці праз $N_r$. Зафіксуем гэта размеркаванне некаторымі значэннямі тэрмадынамічных параметраў р, Т.

Пытанне—ці будзе захоўвацца перыядычнасць *хімічных* уласцівасцей элементаў, калі мяняць хоць-бы адзін з параметраў—ну хоць тэмпературу. На падставе залежнасці хімічных уласцівасцей вешчаства ад тэмпературы мы павінны атрымаць змену самога размеркавання хімічных элементаў па табліцы. Калі рабіць павелічэнне тэмпературы, напрыклад, ад нармальнай уверх, дык спачатку будуць знікаць бялковыя целы, вугляводы, частка тлушчаў, пасля гідраты, аміякаты, комплексныя злучэнні, знікне большасць так званых арганічных злучэнняў, рад перакісаў.

Разам з ростам тэмпературы будзе змяншацца валентнасць злучэнняў, знікнуць вышэйшыя вокіслы восьмай

групы $OsO_4$: $RhO_4$ знікнуць чатырохвалентныя злучэнні свінца, волава, пяцівалентны азот, кіслародныя злучэнні галоідаў, з другога боку з'явяцца новыя тыпы злучэнняў, напрыклад, $OH^5$), $CH^6$), і г. д. і т. п. Як відаць, тады патрабавацца будзе менш, чым 9 груп для размяшчэння хімічных элементаў і „перыядычнасць“ хімічных уласцівасцей будзе менш яскрава выражана.

З другога боку, усе комплексныя злучэнні[7]), арганічныя злучэнні, крэмневадароды, перакісы становяць сабой такія формы хімічных злучэнняў, якія з'яўляюцца адступленнем ад закона перыядычнасці хімічных уласцівасцей. Гэтыя злучэнні тым больш устойлівы, чым менш тэмпература; таму пры нізкіх тэмпературах колькасць такіх злучэнняў расце.

Побач з гэтым павялічваецца цяжкасць укладання іх у рамкі закона Мендэлеева.

Далейшае разгляданне ўтварэння і ўстойлівасці хімічных злучэнняў у залежнасці ад ціску, структурных фактараў, бясспрэчна, выявіць шмат такога, што выходзіць за межы перыядычнага закона. Не вызначаючы формы залежнасці перыядычнасці хімічных уласцівасцей ад тэмпературы ціску і іншых фактараў, запішам яе ў выглядзе функцыі $Nr = f (T, p...)$.

Такім чынам мы прыходзім да вываду, што ўсякая сістэматыка малекул, якая ігнаруе знадворныя ўмовы ўстойлівасці малекул, будзе не сапраўдная, бо тэрмадынамічныя фактары надзвычай моцна дзейнічаюць на ўстойлівасць малекул.

Але сістэматызаваць тую масу хімічных злучэнняў, якая да сучаснага моманту, вядома, цяжка хоць-бы з-за таго, што ніхто не ў стане ахапіць розумам рознастайнасць уласцівасцей такой агромністай сукупнасці малекул, якая да таго знаходзіцца ў залежнасці ад раду энергетычных параметраў. Значыць, трэба стварыць метад, які памог-бы справіцца з паказанай вышэй задачай і які-б быў блізкі перыядычнаму закону Мендэлеева.

Найбольш магутным метадам, які дазваляе вывучаць шмат якія сукупнасці індывідуумаў і іх ператварэнні, будзе метад тэорыі праўдападобнасцей і аснованай на ёй матэматычнай статыстыкі. Але трэба паказаць, што гэты метад не чужы зместу матэрыяла, які вывучаецца і можа адэкватна адлюстроўваць вывучаныя з'явы.

Статыстычны метад у зародкавай форме стасуецца ўжо ў першых работах аб перыядычным законе, бо яшчэ Даберэйнер[9]) паказваў, што атамная вага сярэдняга элемента перыяда з'яўляецца сярэднім арыфметычным атамных вагаў суседніх. Развіваючы гэту заканамернасць, Мендэлееў знайшоў, што большасць уласцівасцей хімічных элементаў

палоскі ў каўдальным кірунку мезенхіма, якая яе складае, робіцца паступова ўсё менш шчыльнай і без мяжы пераходзіць у мезенхіматозныя канцы грудных рэбраў. Episternal'ны апарат (5) заложан паміж канцамі ключыц у выглядзе менш шчыльнага згушчэння мезенхімы, чым медыяльныя канцы ключыц.

## ЗАРОДКІ ЧАЛАВЕКА

*Стадыя № 1.* Сагітальная серыя. Даўжыня зародка на шкле—8 мм.

На мал. 3 паданы фотаздымак, які паказвае пластычную рэканструкцыю левай паловы груднай клеткі разам з плечавым поясам. Целы хрыбетнікаў—прахандральныя. Рэбры складаюцца з шчыльнай мезенхімы і толькі ў хрыбетных іх частках знаходзіцца ранні прахондрый. Лапатачная пласцінка (6) і каракоід складаюцца з шчыльнай мезенхімы. У знадворным выглядзе каракоіда ўжо праяўляюцца асаблівасці, якія вядуць да ўтварэння яго дэфінітыўнай формы. Над асновай каракоіда ёсць менш шчыльнае мезенхіматознае згушчэнне (7), якое сваім верхнім краем прылягае да закладкі медыяльнага канца ключыцы (4).

На наступных, трохі пазнейшых стадыях, няцяжка заўважыць, што разам з ростам мезенхіматознага медыяльнага канца ключыцы распасціраецца пад ёй на некаторыя адлегласці і гэтае мезенхіматознае згушчэнне, якое амаль зусім зліваецца з ключыцай і якое я (1931) апісаў як „каўдальны зачатак" ключыцы. Я схіляюся да таго, каб гэты эмбрыянальны „каўдальны зачатак" лічыць за рэкапітуляцыю procoracoid'а, бо палажэнне гэтага каўдальнага зачатка вельмі падобна да палажэння procoracoid'а ў Anura і магчыма, што гэты „каўдальны зачатак" ключыцы і дае пачатак таму храстку, які часова сустракаецца ў больш позняй эмбрыянальнай ключыцы вышэйшых Mammalia, і які некаторымі даследчыкамі (Gegenbaur, Hoffmann, Fuchs) прымаецца за гамолаг procoracoid'а Nomammalia.

Медыяльны канец ключыцы вентральна непасрэдна пераходзіць у некалькі падоўжанае другое мезенхіматознае згушчэнне (5), якое распасціраецца ў сценцы цела пад сэрцам і лічыцца некаторымі аўтарамі за закладку prosternum, альбо „episternum". Гэтая закладка prosternum на ранніх стадыях бывае парнай, але пры развіцці зародка парныя часткі зыходзяцца і асімілююцца з manubrium sterni. Ніякіх паказанняў на закладку грудзінных палосак на гэтай стадыі яшчэ няма. Некаторае згушчэнне мезенхімы, якое знаходзіцца над канцом першага груднога рабра ў бок распалажэння закладак каракоідных элементаў, мае яшчэ да таго невыразны характар, што аб значэнні яго яшчэ гаварыць не прыходзіцца.

*Стадыя № 2.* Даўжыня зародка на шкле—9 мм. Гэтая стадыя трохі старэйшая за папярэднюю. Целы хрыбетнікаў і хрыбетнікавыя часткі грудных рэбраў маюць ясна выяўлены прахандральны характар. Тканкі рэбраў у вентральным кірунку паступова пераходзяць у ранні прахондры і, нарэшце, у шчыльную мезенхіму.

На мал. 4 паказана пластычная рэканструкцыя ўжо ўзнікшай мезенхіматознай закладкі правай грудзіннай палоскі разам з вентральнымі канцамі першых 5-ці грудных рэбраў. Мадэль знята з медыяльнага боку.




Мал. 5. Зародак чалавека. Стадыя № 3. Сагітальны зрэз. Поўсхематычна. Адзнакі папярэднія.

Як відаць на мадэлі, над канцом першага груднога рабра ёсць мезенхіматознае згушчэнне (2), якое шчыльна прылягае да яго і да грудзіннай палоскі і якое, паводле свайго палажэння, зусім адпавядае аддзяліўшайся вентральнай частцы каракоіда ў Didelphys (мал. 1). Краніяльны выступ (9) гэтай мезенхіматознай закладкі вентральнай часткі каракоіда з'яўляецца пачаткам таго мезенхіматознага цяжа, які апісаны ніжэй у больш позняй стадыі № 3 (мал. 5).

Калі прыняць пад увагу, што блізкія адносіны каракоіднага аддзела плечавога пояса да пярэдняга аддзела грудзіны захоўваюцца не толькі ў зародкаў Marsupialia, але таксама

і ў некаторых Placentalia (Insectivora, Chiroptera, Rodentia), у якіх ужо апісваліся рудыменты ўнутранага каракоіда, то паказанае вышэй мезенхіматознае згушчэнне ў зародка чалавека якраз можна прыняць за рэкапітуляцыю вентральнай часткі каракоіда, тым больш, што на наступных двух стадыях мною ўстаноўлена эмбрыянальная сувязь гэтага мезенхіматознага згушчэння з закладкай т. зв. processus coracoideus. Дзеля гэтага я ў далейшым буду называць гэта мезенхіматознае згушчэнне закладкай вентральнай часткі каракоіда.

Ад канца першага груднога рабра і прылягаючай да яго закладкі вентральнай часткі каракоіда, мезенхіматозная грудзінная палоска нязначна распасціраецца ў медыяльна-краніяльным кірунку, але галоўнае развіццё грудзіннай палоскі адбываецца ў каўдальным кірунку і на данай стадыі яна ўжо амаль даходзіць да чацвёртага рабра.

Найбольш шчыльная мезенхіма ў закладцы вентральнай часткі каракоіда і краніяльнай часткі грудзіннай палоскі, якія зліваюцца з канцом першага рабра, але ў меру распасцірання грудзіннай палоскі ў каўдальным кірунку, мезенхіма грудзіннай палоскі становіцца паступова менш шчыльнай і, нарэшце, каля канцоў чацвёртага і пятага рэбраў расплываецца. Трэба таксама адзначыць, што канцы другога і трэцяга рэбраў не датыкаюцца да грудзіннай палоскі, але канец другога рабра знаходзіцца бліжэй да грудзіннай палоскі, чым канец трэцяга рабра.

*Стадыя № 3.* Сагітальная серыя. Даўжыня зародка—10 мм; паводле Normentafeln Keibel'а зародак адпавядае №№ 55—57. На рыс. 5 поўсхематычна паказаны сагітальны зрэз, на якім вельмі добра відны мезенхіматозны цяж, які звязвае больш шчыльную мезенхіматозную закладку вентральнай часткі каракоіда з яшчэ больш шчыльным мезенхіматозным каракоідам, які прылягае да лапаткі. У данай серыі разрэзы прайшлі так удала, што гэты мезенхіматозны цяж поўнасцю і добра выражан на працягу трох зрэзаў. Характар мезенхімы гэтага цяжа, а таксама і яго палажэнне, паказвае на тое, што гэты цяж не з'яўляецца закладкай цяглічнага ўтварэння, дзеля таго, што гэты мезенхіматозны цяж на больш позніх эмбрыянальных стадыях зусім знікае, то, значыцца, ён павінен прадстаўляць сабою згодна класіфікацыі рэкапітуляцый Лебёдкіна (1934, p. IX), рудымент-рэкапітуляцыю часткі каракоіда. Гэта рудымент-рэкапітуляцыя павінна сведчыць аб тым, што ў продкаў вышэйшых Mammalia, як і ў продкаў Marsupialia, каракоід даходзіў да грудзіны і што пры далейшай іх эвалюцыі адбыліся ў іх каракоідным аддзеле прынцыпова падобныя працэсы рэдукцыі.

Відавочна, працэсы рэдукцыі каракоіднага аддзела плечавога пояса ў вышэйшых Mammalia зайшлі значна далей,




Рыс. 4 Зародак чалавека. Стадыя № 2. Мадэль правай грудзіннай палоскі з вентральнымі канцамі першых пяці грудных рэбраў. 8 — краніяльная частка грудзін. палоскі; 9 — мезенхіматозны цяж (частковa), які злучае вентральную частку каракоіда з так зв. proces. coracoidens. Астатнія адзнакі папярэднія.




Рыс. 6. Зародак чалавека. Стадыя № 3. Мадэль правай мезенхіматознай грудзіннай палоскі з вентральнымі канцамі першых 6 рэбраў. Адзнакі папярэднія.




Рыс. 7. Зародак чалавека. Стадыя № 4. Мадэль правай мезенхіматознай грудзіннай палоскі з вентральнымі канцамі першых 8-мі грудных рэбраў і правай паловай плечавога пояса. 10 — закладка непарнага prosternum. Астатнія адзнакі папярэднія.

чым у Marsupialia, а таму ў антагенетычным развіцці вышэйшых Mammalia знайсці рэкапітуляцыю больш старажытных адзнак каракоіднага аддзела альбо немагчыма, альбо значна цяжэй, чым у зародкаў Marsupialia.

На мал. 6 прадстаўлена невялікая мадэль, якая паказвае правую мезенхіматозную грудзінную палоску з медыяльнага боку з вентральнымі канцамі першых шасці грудных рэбраў. Мезенхіматозная грудзінная палоска ўжо амаль даходзіць да канца шостага груднога рабра, але з ім яшчэ не сутыкаецца. Мезенхіма грудзінных палосак зліваецца з мезенхіматознымі канцамі першых пяці рэбраў, пры гэтым грудзінная палоска прылягае да рэбраў з латэральнага іх боку ў выглядзе адносна даволі тоўстага пластка мезенхімы. У меру росту грудзіннай палоскі ў каўдальным кірунку, яе мезенхіма паступова становіцца менш шчыльнай, але затое каўдальны канец грудзіннай палоскі робіцца больш шырокім, расплыўчатым.




Мал. 8. Схема распаўсюджвання мезенхімы грудзіннай палоскі ў зародкаў чалавека з латэральнага боку вентральных канцоў рэбраў (A), уперад (B) і на іх медыяльны бок (C). R—рабро; l—латэральны бок; m—медыяльны бок; st—грудзінная палоска.

*Стадыя № 4.* Хоць гэта стадыя па даўжыні зародка на шкле адпавядае папярэдняй, але паводле свайго развіцця яна з'яўляецца больш позняй.

На мал. 7 прадстаўлена мадэль, на якой паказана правая мезенхіматозная грудзінная палоска з вентральнымі канцамі 8-мі грудных рэбраў і з правай паловай плечавога пояса (лапатачная пласцінка рэканструявана не ўся).

Грудзінная палоска спускаецца некалькі ніжэй сёмага рабра, але да восьмага рабра не даходзіць.

Мезенхіма грудзіннай палоскі з'яўляецца больш шчыльнай, чым на папярэдняй стадыі, але ў каўдальным кірунку

шчыльнасць мезенхімы паступова змяншаецца. Мезенхіматозныя канцы рэбраў злучаюцца з мезенхімай грудзіннай палоскі (1), але пры гэтым канец шостага рабра чуць даходзіць да грудзіннай палоскі, а канец сёмага рабра зусім яшчэ аддзелены ад яе. Грудзінная палоска прылягае к канцам рэбраў ужо не толькі з латэральнага іх боку, але, некалькі загінаючыся ў вентральным кірунку, распалагаецца і спераду канцоў рэбраў.

На яшчэ больш позняй стадыі мезенхіма грудзіннай палоскі пашыраецца і на медыяльны бок канцоў грудных рэбраў, утвараючы, такім чынам, нешта ў выглядзе жолаба, у якім змяшчаюцца вентральныя канцы рэбраў. Гэтыя адносіны прадстаўлены схемай (мал. 8).

Зусім таксама, як і на папярэдніх двух стадыях, ёсць мезенхіматозная закладка вентральнай часткі каракоіда (2), якая шчыльна прылягае зверху к канцу першага груднога рабра (1). У выніку таго, што на гэтай стадыі сэрца ўжо трохі апусцілася ў грудную поласць, у сувязі з чым адбылося і змяшчэнне ў каўдальным кірунку плечавога пояса, мы наглядаем з медыяльнага боку злучэнне краніяльнай часткі грудзіннай палоскі (8) з зачаткам prosternum (5), які прылягае да ключыцы, а з латэральнага боку— злучэнне гэтай-жа часткі грудзіннай палоскі (8) з „каўдальным зачаткам" ключыцы (7), які мы прыймаем за рудымент-рэкапітуляцыю procoracoid'а.

Асаблівай увагі заслугоўвае ў эмбрыёна данай стадыі вентральная частка плечавога пояса, а іменна прахандральны каракоід (3), форма і палажэнне якога яўна паказвае на адхіленне ад нармальнага працэсу эмбрыянальнага развіцця. Я ўжо ўпамінаў вышэй, што нават на такой ранняй стадыі, як стадыя № 1, у знадворным выглядзе каракоіда ўжо праяўляюцца асаблівасці, якія вядуць да ўтварэння дэфінітыўнай формы так званага processus coracoideus, а тым больш гэтыя асаблівасці праяўляюцца на старэйшых стадыях, як я ўжо адзначыў гэта (1931) для чалавека і лятучай мышы. Што-ж датычыцца да стадыі № 4, то тут мы сустракаем каракоід, які зусім не напамінае як па сваім кірунку, так і па форме, дэфінітыўны processus coracoideus чалавека.

Карціна, якая прадстаўлена на мал. 7, вельмі сходна ў адносінах каракоіднага аддзела з тым, што мы маем у зародка Didelphys (рыс. 1). Паміж канцом прахандральнага каракоіда і мезенхіматознай закладкай вентральнай часткі каракоіда захоўваецца яшчэ апісаны вышэй мезенхіматозны цяж, але толькі на данай стадыі гэты цяж з'яўляецца больш кароткім, чым на папярэдняй, бо частка яго заменьваецца канцом прахандральнага каракоіда, накіраванага ў бок грудзіннай палоскі.

Падобнага ненармальнага развіцця каракоіда я нікол раней не наглядаў у зародкаў вышэйшых Mammalia, а таксама не даводзілася мне сустракаць паказанняў на падобныя з'явы і ў літаратуры. Дзеля таго, што гэта ненармальнае развіццё каракоіда ў зародка чалавека зусім супадае з нармальным працэсам развіцця каракоіда ў зародкаў Marsupialia, то данае адхіленне ад нормы, безумоўна, сведчыць аб праяўленні ў працэсе эмбрыянальнага развіцця атавістычных адзнак, а таму гэты выпадак павінен сцвярджаць выказаную вышэй думку пра тое, што мезенхіматозны цяж і больш шчыльнае мезенхіматознае згушчэнне, якое прылягае краніяльна да канца першага груднога рабра і называецца мною закладкай вентральнай часткі каракоіда, з'яўляецца рудымент-рэкапітуляцыяй той часткі каракоіда, якая згублена ў працэсе эвалюцыі ўсімі Mammalia, выключаючы Monotremata.

Апрача таго, на мадэлі паказана няпарнае сярэдзіннае мезенхіматознае ўтварэнне—prosternum, якое ўзнікае пазней за парныя ўтварэнні prosternum, якія непасрэдна прылягаюць да медыяльных канцоў ключыц. Гэта няпарнае prosternum пры зліцці грудзінных палосак асімілюецца з manubrium sterni (Whitehead and Waddel, 1911), ва ўтварэнні якога прыймаюць удзел таксама і закладка парных prosternum і краніяльныя ўчасткі грудзінных палосак.

Паданае вышэй апісанне стадый дае магчымасць зрабіць наступныя вывады адносна паходжання грудзіны ў Mammalia, у прыватнасці ў чалавека.

1. Закладка парных мезенхіматозных грудзінных палосак адбываецца незалежна ад вентральных канцоў грудных рэбраў. На гэта паказвае тая акалічнасць, што на ранніх стадыях развіцця грудзіны, канцы грудных рэбраў зусім не датыкаюцца да закладкі грудзінных палосак, за выключэннем першай пары рэбраў, да якіх прылягае закладка вентральнай часткі каракоіда.

Толькі ў меру росту рэбраў, мезенхіматозныя грудзінныя палоскі сутыкаюцца з мезенхіматознымі канцамі рэбраў, паслядоўна зліваючыся з імі, пачынаючы з другой пары рэбраў. Нават і пасля зліцця канцы рэбраў яшчэ даволі доўга ясна адгранічваюцца ад менш шчыльнай мезенхіматознай грудзіннай палоскі.

Падобны працэс паслядоўнага зліцця канцоў грудных рэбраў з заложанымі ўжо мезенхіматознымі грудзіннымі пласцінкамі наглядаўся і ў Reptilia (Bogoljubski, Goette, van Geldern, Mary Juhn).

Паступовае пашырэнне мезенхімы грудзіннай палоскі з латэральнага на медыяльны бок канцоў грудных рэб-

раў (мал. 8) сведчыць аб пэўным уплыве канцоў рэбраў на фармаванне грудзіны, але паказанняў на адчляненне мезенхімы канцоў рэбраў для ўтварэння грудзіны выявіць не ўдаецца.

2. Мезенхіматозныя згушчэнні, якія прылягаюць з краніяльнага боку к канцам першай пары грудных рэбраў і непасрэдна прадоўжваюцца ў грудзінныя палоскі, з'яўляюцца рудымент-рэкапітуляцыяй вентральнай часткі каракоідаў.

3. Месцам, адкуль пачынаюць развівацца парныя грудзінныя палоскі, з'яўляецца паказаная вышэй мезенхіматозная закладка вентральнай часткі каракоідаў. На магчымасць развіцця грудзінных палосак ад каракоідных элементаў паказвае апісаны вышэй непасрэдны пераход закладкі вентральнай часткі каракоіда ў грудзінную палоску ў зародка Didelphys, а таксама апісанае Kalin'ам (1929) развіццё грудзіны ў зародка Alligator mississipiensis, мезенхіматозныя грудзінныя палоскі якога распасціраліся ад мезенхіматознага каракоіда без ніякага перарыву; толькі з ператварэннем мезенхімы гэтых утварэнняў у прахондрый, адбываецца адчляненне грудзінных палосак ад каракоідаў.

Такім чынам я лічу, што свой пачатак грудзіна атрымала не ад рэбраў, а ад каракоідаў, якія знаходзяцца ў блізкіх адносінах з грудзінай у дарослых Anamnia і Amniota да Monotremata ўключна.

---

## ЛІТАРАТУРА

Bogoljubski, S. Brustbein — und Schultergürtelentwicklung bei einigen Lacertilien. Zeitschr. f. wiss Zool.. Bd. 110. 1914.

Broom, R. On the Existence of a sterno coracoidal articulation in a Foetal Marsupial. Journ, of Anat. and Physiol. Vol. 31. 1897. On the Development and Morphology of the Marsupial shoulder-girdle Trans. Roy. Soc. Edinb. Vol. 39. 1899.

Bruch, C. Beiträge zur Entwicklungsgeschichte des Knochensystems. Neue Denkschriften der allgemeinen Schweizer. Gesellschaft für die gesammten Naturwissenschaften. 1852.

Fuchs, H. Über die Entwicklung der Clavicula bei Talpa europaea und Erinaceus europaeus. Zeitschr. für Morphol. und Anthropol., Sonderheft 2. 1912.

Gegenbaur, C. Vergleichende Anatomie der Wirbeltiere. Bd. 1. Leipzig. 1898.

van Geldern, C. Over de eerste ontwikkeling van het borstbeen bij zoogdieren. Nederl. Tijdschr. Geneesk., 66, H. 2, № 20. 1922. Over de ontwikkeling van het Sternum bij reptilien. Versl. Ak. Wetensch. Amsterdam, 30. 1922.

Gladstone and Wakeley. The Sternum and its Relation to the Ribs. Journ. of Anatomy. Vol. LXVI. 1932.

Goette. Beiträge zur vergleichende Morphologie der Skeletsystem der Wirbeltiere. Arch. f. microskop. Anat. Bd. XIV. 1877.

Goodrich. Studies on the structure and development of vertebrates. Macmillan and Co. London. 1930.
Hanson. Ontogeny and Phylogeny of the sternum. Am. journ. Anat. v. 26. 1919.
Hoffmann. Zur Morphologie des Schultergürtels und des Brustbeines. Niederländ Archiv f. Zoologie. Vol. V. 1879.
Hommes On the development of the Clavicula and the Sternum in Birds and Mammals. Tijdschr. d. Nederl. Dierk. Vereem., 2 de Ser., Deel XIX. 1924.
Juhn, Mary. Die Entwicklüng des Sternums bei Lacerta. Acta Zool., v. 4. 1923.
Kalin, I. Über den Brustschulter-Apparat der Krokodile. Inaug.—Dissert. Zurich. 1929.
Кравец, Л. История развития грудины и episternal'ного аппарата млекопитающих. Труды Сравн.-анат. инст. Москов. унив. 1905.
Лебёдкин, С., Биогенетический закон и теория рекапитуляций. БелАН. 1936.
Müller, Charlotte. Morpholog. Jahrb. Bd. XXXV. 1906. Zur Entwicklung des menschlichen Brustkorbes.
Parker, W. A monograph on the structure and development of the Shouldergirdle and sternum in the Vertebrata. Roy. Society London. 1868.
Paterson A. The sternum; its early development and ossification in Man and Mammals, journ. Anat. Phys. vol. XXXV. 1900.
Rathke, H. Entwicklung des Sternums bei Vögeln und Säugetieren. Müller's Archiv. 1838. Über den Bau und Entwicklung des Brustbeins der Saurier. Königsberg. 1853.
Ruge G. Untersuchungen über Entwicklungsvorgänge am Brustbein Morphol. Jahrb. Bd. VI. 1880.
Stöckli A. Beobachtungen über die Entwicklungsvorgänge am Rumpfskelett des Schweines—Med. vet Diss. Zurich. 1922.
Subkowitsch, E. Zur Frage der Morphologie des Schultergürtels. Morphol. Jahr. Bd. 65. 1931.
Watson D. The evolution of the Tetrapod shouldergirdle and forelimb. Journ. of Anatomy. Vol. 52. 1918.
Whitehead and Waddel. The early development of the mammalian sternum. Amer. journ. of Anatomy. Vol. 12. 1911.

E. M. SUBKOWITSCH

# Lur Frage der Entwicklung und Morphologie des Sternum bei Mensch

## Zusammenfassung

Die allgemein übliche Anschauung Rathkes, der Ursprung des Sternum der Amniota sei an den Rippen zu suchen, ruft, da einige spätere Forscher gegen diese Auffassung entschieden Einwand erheben, gegenwärtig grosse Zweifel hervor. Demungeachtet herrscht die Anschauung Rathkes bisher noch vor, sodass die Frage über den Ursprung des Sternum der Amniota unentschieden bleibt.

Da einige Autoren die Entstehung des Sternun der Amniota an den Rippen in Abrede stellen, ihm vielmehr coracoiden Ursprung zuschreiben, muss die Frage der Entstehung des Sternum der Mammalia nicht nur im Zusammenhang mit der Rippenentwicklung, sondern auch im Zusammenhang mit der Entwicklung des Schultergürtels betrachtet werden. Am geeignetsten dazu wäre das Studium der Embryonen solcher Mammalia, deren ventraler Schultergürtelteil stärker entwickelt ist, z. B. der Marsupialia, des Menschen, der Fledermaus u. a.

Meine Beobachtungen früher Entwicklungsstadien des Sternum bei Didelphys und Mensch veranlassen mich, den wenigen Forschern recht zu geben, die nicht nur einen von den Rippen unabhängigen Ursprung des Sternum voraussetzen, sondern letzteren coracoide Entstehung zuschreiben (Hanson).

Broom u. a. weisen in ihren Arbeiten darauf hin, dass sich das Embryonalcoracoid bei einigen Marsupialia zuerst von der Scapula zum Sternum erstreckt, später aber, infolge von Reduktion des Coracoids in dessen Mittelteil, seinen Zusammenhang mit der Sternalleiste einbüsst. Abb. 1 stellt das Modell der linken Hälfte einer Brustzelle mit Schultergürtel eines Didelphys sp.—Embryos dar. Diese Abbildung zeigt uns, dass sich das Coracoid, dank der Reduktion seines Mittelteils, bereits in zwei Teile gegliedert hat: a) den prochondralen, scapulären, die Bildung des Processus coracoideus bedingenden Teil des Coracoids (3) und b) den aus dichtem Mesenchym bestehenden, fast an das Ende der 1. Rippe anliegenden und direkt in die Sternalleiste verlaufenden (s. Abb. 2) ventralen Teil des Coracoids (2). Die nahe Beziehung des coracoiden Schultergürtelgebiets zum vorderen Teil des Sternum wird auch

bei einigen Placentalia (Insectivora, Chiroptera, Rodentia), deren innere Coracoidrudimente beschrieben worden sind, beobachtet.

Abb. 5 stellt den sagittalen Schnitt einer den Nummern 55—57 der Keibelschen Normentafeln entsprechenden Anlage des menschlichen Embryos halbschematisch dar An die Anlage des ventralen Endes der I. Rippe grenzt eine dem abgeschiedenen ventralen Teil des Coracoids des Didelphys—Embryos zweifellos homologe mesenchymatöse Bildung (2) fest an (Abb. 2). Diese mesenchymatöse Anlage des ventralen Teils des Coracoids (2) des menshlichen Embryos ist mit dem mesenchymatösen Ende des an die Scapula anliegenden Teils des Coracoids (3) durch einen weniger dichten mesenchymatösen Strang verbunden (9). Die Schnitte der gegebenen Serie waren so gelungen, dass der erwähnte mesenchymatöse Strang an drei Schnitten voll und gut zum Ausdruck kam. In späteren Stadien verschwindet der mesenchymatöse Strang, an den Reduktionsprozess des Coracoidmittelteils bei Didelphys erinnernd, ganz.

Besondere Aufmerksamkeit verdient das etwas spätere, in Abb. 7 wiedergegebene fötale Entwicklungsstadium des Menschen, wo deutliche Abweichung von der normalen Entwicklung des Coracoids ausgeprägt ist. In diesem Stadium erinnert das embryonale, zur Sternalleiste gerichtete Coracoid weder seiner Richtung noch Form nach an den definitiven Processus coracoideus des Menschen, während die zur Bildung der definitiven Form des Proc. corac. führenden Eigentümlichkeiten im Äussern des Coracoids bei normalem Entwicklungsgang sogar an viel früheren Stadien (Abb. 3) auftreten. An Präparaten des in Abb. 7 wiedergegebenen Stadiums kann man sich davon überzeugen, dass sich der oben beschriebene mesenchymatöse, in Abb. 7 fehlende Strang zwischen dem Ende des prochondralen Coracoids (3) und der mesenchymatösen Anlage des ventralen Coracoidteils (2) noch erhalten hat; er ist, da ein Teil von ihm durch das Ende des prochondralen, zur Sternalleiste gerichteten Coracoids (3) ersetzt wird, in diesem Stadium nur kürzer als im vorhergehenden. Da die zu beschreibende unnormale Entwicklung des Coracoids des menschlichen Embryos (Abb. 7) mit dem normalen Entwicklungsprozess des Coracoids der Embryos der Marsupialia vollkommen übereinstimmt, so legt die Abweichung von der Norm zweifellos davon Zeugnis ab, dass im Prozess der embryonalen Entwicklung atavistische Merkmale zum Ausdruck kommen, weshalb dieser Fall mit Recht darauf hinweisen kann, dass der mesenchymatöse Strang und die dichtere, aus Ende der 1. Rippe kranial anliegende, von mir als Anlage des ventralen Teils des Coracoids bezeichnete mesenchymatöse Anhäufung in der Tat als Rudiment-Rekapitulation des von allen Mammalia, mit Ausnahme der Monotremata, im Evolutionsprozess eingebüssten Coracoidteils erscheinen.

Von diesen embryonalen mesenchymatösen Anlagen des ventralen Teils der Coracoide beginnt hauptsächlich in kaudaler, schwächer in kranialer Richtung, die Entwicklung paarer, in frühen Entwicklungsstadien mit den ventralen Enden der anderen Rippen in garkeine Berührung tretender mesenchymatöser Sternalleisten (Abb. 4). Nur mit dem zunehmenden Wuchs der Rippen kommen die mesenchymatösen Sternalleisten mit den mesenchymatösen Rippenenden in Berührung, indem sie vom 2. Rippenpaar an folgerichtig mit ihnen verschmelzen (Abb. 4, 6, 7). Das Mesenchym der Sternalleisten konzentriert sich zuerst auf der lateralen Seite der ventralen Rippenenden (Abb. 6), dehnt sich aber, die Enden der Rippen erfassend, bei weiterer Entwicklung allmählich auch auf ihre mediale Seite aus, was das Schema veranschaulicht (Abb. 8). Diese Konzentration des Sternalleistenmesenchyms an den Rippenenden spricht zweifellos für einengewissen Einfluss der Rippen auf die Formierung des Sternum, doch ist es mir nicht gulungen, eine Abgliederung von Mesenchym, das an der Sternalleistenbildung teilnehmen könnte, von den Rippenenden zu konstatieren.

Somit wird die Ansicht, dass das Sternum seinen Ursprung nicht den Rippen, sondern den Coracoiden zu verdanken hat, von mir geteilt. Letztere unterhalten bei den ausgewachsenen Anamnia und Amniota, inklusive Monotremata, nahe Beziehungen zum Sternum.

ВУЧОНЫЯ ЗАПІСКІ ХІМІЧНАГА І БІЯЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА
БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА № 28. 1936 г.

О. Д. АКІМАВА і С. А. ГУСЕВА

# ДА ГІСТОРЫІ ДОСЛЕДАЎ АЗЁР БССР

Гідрабіялагічных доследаў азёр Беларусі да гэтага часу было зроблена вельмі мала. Тыя нешматлікія доследы, якія ёсць у друку, ставілі сваёй мэтай ці ўпарадкаванне рыбалоўства і развіццё рыбаводства, як работа Марозава (1913 г.), ці вывучэнне геамарфалогіі азёр, як работа т. Заржэцкага (1903 г.).

Пачатак усебаковых доследаў Беларусі быў зроблен азёрнай экспедыцыяй 1914-1916 гг. пад кіраўніцтвам П. Ф. Дамрачова ў раёне б. Віцебскай губ., але вынікі работы гэтай экспедыцыі ў друку не з'явіліся, а ёсць толькі папярэднія адчоты І. Арнольда (1914 і 1917 гг.) і П. Дамрачова (1917 г.), і на падставе экспедыцыйных доследаў азёр П. Дамрачова ў 1922 г. была зроблена класіфікацыя азёр паўночна-заходняй краіны. У 1926 г. Г. Верашчагін і К. Гільзэн даследвалі 19 вадаёмаў б. Віцебскай губ. У выніку экспедыцыйнай работы з'явіўся артыкул, прысвечаны гідралогіі і аналізу грунтоў гэтых азёр.

У 1924 г. Беларуская рыбная станцыя арганізавала экспедыцыйнае даследванне азёр Лукомль, Чарэя і Асвея пад кіраўніцтвам Елеонскага і Чэрфаса, і ў 1928 г. Чэрфас і Грудніца даследвалі азёры Лосвіда, Сялява і Ратцы, у 1930 г. доследы праводзіліся на азёрах: Князь, Белае, Лосвіда, Вымна і Заранова. Вынікі гэтых экспедыцыйных работ не надрукаваны і засталіся толькі ў рукапісах.

У сувязі з рыбагаспадарчымі задачамі, пастаўленымі экспедыцыяй, найбольшая ўвага звярталася на зоапланктон, бентас і іхтыяфаўну, а склад расліннасці азёр, размеркаванне яе даецца толькі ў сувязі з фізічнымі ўмовамі вадаёма, з мікрафітаў паданы толькі кіруючыя формы і формы, якія выклікаюць цвіценне вадаёмаў. Толькі адна работа Н. Старк (1927 г.) аб Крукінскім возеры Смаленскай губ. дае падрабязныя весткі аб макра- і мікрафлоры гэтага возера.

Калі зусім няма работ аб флоры вадаёмаў Беларусі, то з работ, прысвечаных вывучэнню фаўны яе вадаёмаў, маем: 1) Работу А. Новікава (1907 г.), у якой ён дае спіс Cladocera возера Князь б. Менскай губ.; 2) Работу Н. Варанкова (1909 г.) аб калаўратках б. Менскай губ.; 3) Работу А. Новікава (1910 г.) аб фаўне ракападобных зарастаючых азёр; 4) Работу В. Рылова (1905 г.), прысвечаную ракападобным азёр Невельскага павета б. Віцебскай губ.; 5) Работу М. Эмільяновіча (1927 г.) аб калаўратках дробных вадаёмаў ваколіц г. Смаленска.

Улетку 1932 г. Беларускім аддзелам Маскоўскага рыбнага інстытута па заданню гідраметэаралагічнага інстытута была арганізавана экспедыцыя па абследванню сямі азёр Беларусі № 1, 2, 3, 4, 5, 6 і 7.

Сабраны экспедыцыяй даволі вялікі матэрыял дае магчымасць вызначыць як асноўныя рысы фізіка-хімічнага рэжыма азёр, так і сістэматычны і экалагічны склад насяляючых іх арганізмаў і часткова сезонныя змены. Вывучаліся таксама вытокі і вусці рэк і іх біяцэноз.

Матэрыялы па макра- і мікрафлоры даных азёр былі апрацаваны О. Д. Акімавай і вынікам гэтай апрацоўкі з'яўляецца нарыс „Да флоры азёр Беларусі".

Матэрыялы па зоапланктону і бентасу былі апрацаваны С. А. Гусевай і вынікам з'яўляецца нарыс „Да пазнання зоапланктона і зоабентаса азёр Беларусі".

---

ВУЧОНЫЯ ЗАПІСКІ ХІМІЧНАГА І БІЯЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА
БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА № 28. 1936 г.

О. АКІМАВА

# ДА ФЛОРЫ АЗЁР БЕЛАРУСІ

*(Лабараторыя Кафедры батанікі БДУ)*

Даная работа з'яўляецца вынікам апрацоўкі матэрыяла, сабранага ў часе экспедыцыі Беларускім аддзелам інстытута воднай гаспадаркі па праграме воднага кадастра ўлетку 1932 г. Абследвана сем азёр. Экспедыцыя мела комплексны характар і складалася з гідрабіёлагаў, хімікаў і рыбаводаў. Матэрыялы апрацоўваліся ў лабараторыях Беларускага універсітэта і аддзелах Рыбнага інстытута.

Не гледзячы на вялікую колькасць азёр і рэк на Беларусі, вывучэнне іх знаходзіцца яшчэ ў пачатковым стане. Работы па азёрах дарэвалюцыйнага перыяду закранаюць толькі морфаметрычныя і фізічныя ўмовы жыцця азёр. Даследванне 1914-1917 гг. галоўнай мэтай ставіць рыбагаспадарчыя задачы, але дагэтуль гідрабіялагічнага разгляду гэтых доследаў у друку няма. Не надрукаваны таксама работы экспедыцыі 1928 г. Елеонскага, Чэфроса і інш., рукапіс якіх ёсць у Беларускім аддзеле воднай гаспадаркі. У данай рабоце падрабязна распрацавана пытанне зоапланктона, бентаса і іхтыяфаўны, а што датычыцца флоры, то ў той час, калі мікрафіты апісаны з боку іх складу і размеркавання (дан спіс 35 відаў), мікрафлора дана вельмі скупа; дана толькі 17 форм, а галоўная ўвага звернута на рыбагаспадарчы бок даследвання, што непасрэдна выплывала з заданняў экспедыцыі. З прычыны адсутнасці работ па флоры азёр Беларусі, асабліва альгалогіі, лічу даную работу своечасовай, як матэрыял для вывучэння той вялікай колькасці вадаёмаў, якія ёсць на Беларусі.

## МЕТОДЫКА ДАСЛЕДВАННЯ

Абследванне азёр адбывалася ў два тэрміны: у перыяд з 10/VI па 20/VII, з інтэрвалам каля месяца паміж паездкамі. Мікрафлора вывучалася шляхам аб'езду на лодцы ў берагавой зоне, дзе папутна браліся пробы планктона і абра-

стання. Пробы планктона пелагіялі браліся разам з хімічнымі пробамі і бентасам. Збіранне планктоннага матэрыяла літаралі рабілася гарызантальным ловам сеццю Арштэйна. У пелагіялі браліся вертыкальныя пробы сеццю Цэпеліна з газа № 25. Сабраны матэрыял фіксаваўся чатырохпрацэнтным фармалінам. Усяго ўзята проб па планктону і абрастанню:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| З | возера | Першага | планктона | 44 | абрастання | 20 |
| „ | „ | Другога | „ | 39 | „ | 20 |
| „ | „ | Трэцяга | „ | 8 | „ | 3 |
| „ | „ | Чацвертага | „ | 5 | „ | 2 |
| „ | „ | Пятага | „ | 30 | „ | 10 |
| „ | „ | Шостага | „ | 50 | „ | 22 |
| „ | „ | Сёмага | „ | 10 | „ | 2 |

Апрацоўка матэрыяла фітапланктона рабілася ў лабараторыі кафедры батанікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Колькасны ўлік рабіўся метадам Віслаўха С., толькі колькасць водарасляў у прэпараце мела наступнае азначэнне:

| | | |
|---|---|---|
| ад 1—2 экземпляраў у прэпараце адзначалася | | 1 |
| „ 2—4 „ | „ | 2 |
| „ 4—10 „ | „ | 3 |
| „ 10 і больш | „ | 4 |
| 20 экземпляраў | „ | 5 |
| Цвіценне адзначалася | „ | ∞ |

З кожнай банкі рабілася не менш трох прэпаратаў. Вызначэнне рабілася па Dr. A. Pascher. „Die Süsswasserflora Mitteleuropas“. Heft 4—Volvocales, Heft 5, 6, 7—Chlorophyceae, Heft 9—Zygnemales, Heft 10—Bacillariophyta, Heft 12—Cyanophyceae. Flagellatae і Dinoflagellatae по Lindau—Die Algen. Desmidiaceae по W. West „Britisch Desmidiaceae“.

У гэтай рабоце даецца характарыстыка макра-і мікрафлоры азёр на падставе матэрыялаў, сабраных у пелагіялі і літаралі возера, а таксама параўнальны агляд усіх азёр. Сабраныя пробы з усіх станцый даследваны, але ў склад тэкста табліц уведзены станцыі найбольш характэрныя для данай вобласці возера. Дэтальнай апрацоўкі Bacillariales не зроблена, адзначаны толькі найбольш буйныя формы і формы маючыя значэнне ў абрастанні мікрафітаў. У сістэматычным спісе вадаёмаў сабраны ўвесь апрацаваны матэрыял па даследваных азёрах.

### Возера Першае

Возера Першае дзякуючы свайму шырокаму плёсу і малой зрэзанасці берагоў адкрыта для вольнага дзейнічання пануючых паўночна-заходніх і паўночна-ўсходніх вятроў,

Гэта асаблівасць пабудовы возера адбілася на існуючай флоры, стварыўшы розныя біяцэнозы заходняга падветранага берага і ўсходняга прыбойнага.

Заходні бераг у сваіх спакойных водах мае суцэльнае акаймленне з Scirpus lacustris з невялікай дамешкай Phragmites communis, Glyceria aquatica, Acorus Calamus, Potamogeton natans, Polygonum amphibium, Nymphaea alba і Nuphar luteum.

У найбольш забалочаных участках развіваецца Equisetum limosum, Hydrocharis Morsus ranae, Butomus umbellatus Polygonum amphibium.

Бераг мае зараслі асакі па берагах сфагнавага балота. Пад прыкрыццём надводнай расліннасці развіваюцца рдэсты з пераважнай большасцю Potamogeton lucens, Potamogeton perfoliatus, а забалочаныя месцы пакрыты Myriophullum spicatum.

Усходні прыбойны бераг мае шырокую паласу бар'ерных зарасляў Phragmites communis, якая пачынаецца ў паўночнай частцы возера і цягнецца каля ўсходняга берага. Сярод нягустых зарасткаў Phragmites communis развіваюцца рдэсты, якія акаймляюць зараслі з двух бакоў, дасягаючы глыбіні 4 метраў. Сярод іх развіваецца Chara fragilis, якая ў пераважнай большасці знаходзіцца каля паўднёва-ўсходняга берага, дзе прыбой пакідае на беразе каменні, гальку ды буйна-зярністы пясок. Такі грунт перашкаджае развіццю падводнай флоры і яе замяняюць пучкі Char'ы сярод больш буйнага галечніка ля берага, якія паступова пераходзяць у суцэльныя зараслі на вялікай глыбіні.

Паўднёвая частка возера з'яўляецца нібы пераходам ад усходняга прыбойнага берага да заходняга забалочанага. Тут на адлегласці 5—20 метраў ад берага ідуць бар'ерныя зараслі Phragmites communis, шырынёй 10—30 метраў, сярод якіх развіваюцца ў вялікай колькасці Potamogeton natans, Nymphaea alba, Nuphar luteut, Polygonum amphibium, якія ў глыбіні вадаёма змяняюцца асацыяцыяй Potomogeton. Паўночная і паўднёва-заходняя часткі возера Першага размешчаны асярод высокіх берагоў, якія захоўваюць іх ад вятроў. Берагі іх акаймлены асацыяцыяй Phragmites communis, Scirpus lacustris з прымессю Glyceria aquatica, мясцамі Acorus calamus, Sagittaria sagittifolia, Nymphaea alba і Nuphar luteum, а на дне пышна развіваецца Stratiotes aloides.

Уся гэта расліннасць стварае ўмовы моцнага забалачвання, якое асабліва моцна выяўлена ў вусці рэчак. Асацыяцыя Phragmites амаль ва ўсім возеры змяняецца ў глыб вадаёма асацыяцыяй Potamogeton. У забалочаных і глiністых мясцах моцна развіты Myriophyllum spicatum і Ranunculus circinnatus альбо Ceratophyllum demersum.

## МІКРАФЛОРА

У перыяд абследвання першага возера 11-18/VI і 14-15/VII было знойдзена 116 водарасляў, з іх:

Cyanophyceae 14
Flagellatae 3
Dinoflagellatae 2
Bacillariophyta 57
Zygnemales 2
Desmidiales 8
Volvocales 2
Protococcales 20
Oedogoniales 1
Ulotrichales 4
Siphonales 1
Siphonocladiales 1
Characeae 1

Размеркаванне водарасляў у вадаёме паказана на табл. 1, 2 і 3. Разглядаючы іх, можна назіраць з'яву цвіцення возера, якая выклікалася масавым развіццём Gloeotrichia echinulata. У ліпені далучылася моцнае развіццё Ceratium hirundinella, пры гэтым у паўночным канцы возера (ст. 4, 8) ступень развіцця цвіцення была менш, чым у паўднёвай (ст. 12 і 17), а ў паўночнай і паўднёва-заходняй частцы возера зусім не назіралася, мабыць, познячыся ў развіцці. Ва ўсім возеры ў вялікай колькасці ёсць Cyanophyceae і Bacillariaceae. Desmidiaceae і Protoccocales развіты даволі роўнамерна, але знаходзіліся заўсёды ў невялікай колькасці. Значна менш сустракаецца Flagellatae і Desmidiaceae.

У пелагіялі возера знойдзена 35 форм, з іх:

Cyanophyceae 7
Flagellatae 2
Bacillariaceae 10
Desmidiaceae 5
Volvocaceae 1
Profococcaceae 12

З табліцы 1 фітапланктона пелагічнай вобласці відаць, што дамінуючымі формамі з'яўляюцца Melosira granulata, Asterionella gracillima, Tabellaria fenestrata, Microcystis aeruginosa. Крыху менш выяўлены Dinobruon sertullaria, Staurastrum gracile Microcystis flos aquae, Coelosphaerium dubium, Fragilaria crotonensis; рэдка сустракаліся Anabaena flos aquae, Gyrosigma attenuatum, Cymatopleura eliptica, Surirella.

Некаторыя віды Staurastrum і Pediastrum, Ankistrodesmus falcatus, Kirbchneriella lunaris, Tetraedron gracile і Coelastrum protoscideum сустракаліся толькі адзінкава.

У літаралі возера Першага знойдзена 41 форма

Cyanophyceal 5
Flagellatae 2
Bacillariaceal 7
Зялёных ніткатак 4
Desmidiaceae 7
Volvocales 1
Protococcales 15

Апроч масавага развіцця форм, даючых цвіценне ў літаральнай зоне (гл. табл. 2), ёсць у вялікай колькасці Dinobryon sertu-

llaria, Melosira granulata, Tabellaria fenestrata, Fragilaria crotonensis, Asterionella gracilima. Прадстаўнікі сям'і Chroococraceal сустракаліся таксама ўсюды. З Protococcales вялікай рознастайнасцю форм вызначаюцца Pediastrum'ы, але найбольш часта сустракаюцца Dictyosphaerium pulchellum. Staurastrum gracile ў невялікай колькасці распаўсюджаны амаль ва ўсім возеры. Зялёныя нітчаткі, у склад якіх уваходзяць

*Табліца № 1*

**Фітапланктон пелагіялі воз. Першага**

| Дата | 11 VI | 12 VI | 13 VI | 13 VI | 13 VI | 14 VI | 14 VII | 15 VI | 14 VII | 16 VI | 17 VI | 14 VII | 17 VI |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Месца збору (станцыя) | 4 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | | 17 | | 18 | 19 | | 20 |
| Глыбіня ст. (met.) | 6,3 | 8,0 | 9,05 | 10.0 | 9,5 | 2,0 | | 5,5 | | 58 | 10 | | 10 |
| Тэмпер. вады на павер. | 18,3 | 17,0 | 16,8 | 17,0 | 17,4 | 17 | | 19,5 | | 19,6 | 18,1 | | 18,0 |
| Празрыстасць | 2,4 | 2,4 | 3,25 | 3,0 | 2,6 | — | | 2,25 | | 2,6 | 2,5 | | 2,2 |
| 1. Microcystis aeruginosa | 2 | 2 | — | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 | — | 3 | 3 | 2 | 3 |
| 2. M. flos-aquae . . . | 1 | 1 | — | 1 | 1 | 1 | — | 3 | — | 3 | 1 | 1 | — |
| 3. Chroococus limneticus | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | — | — | 3 | — | 3 | 1 | 1 | 1 |
| 4. Coelosphaerium dubium . . . . . | 2 | — | 2 | 2 | — | 2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | — |
| 5. Gleotrichia echinulata | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | ∞ | ∞ | ∞ | 1 | ∞ | 1 |
| 6. Anabaena flos aquae . | - | 1 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | 2 |
| 7. Cyanodictyon reticulata . . . . . . | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8. Dinobryon sertullaria . | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | — | 3 | 1 | 2 | — | 1 | 2 | — |
| 9. Ceratium hirundinella | 5 | 2 | 2 | 1 | 1 | ∞ | ∞ | 4 | 5 | 4 | 2 | ∞ | 2 |
| 10. Melosira varians . . | — | — | 1 | 1 | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | — |
| 11. M. granulata . . . | 1 | — | 1 | 2 | 2 | 1 | 1 | 5 | 3 | 5 | 5 | 3 | 1 |
| 12. Cyclotella sp. . . . | 1 | — | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | — | 1 | — | 2 |
| 13. Asterionella gracillima | 3 | 1 | 2 | 2 | 1 | — | 1 | — | 2 | 2 | 5 | — | 1 |
| 14. Attheya Zachariasi . | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15. Tabellaria fenestrata . | 2 | 1 | 2 | 1 | 1 | 2 | 2 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 |
| 16. Fragilaria crotonensis. | 1 | — | — | — | 1 | — | 2 | 5 | 3 | 5 | 4 | 2 | — |
| 17. Gyrosigma attenuatum . . . . . . | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 18. Cymatopleura eliptica | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | 1 | 2 | — | — |
| 19. Surirella sp. . . . | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | 1 | 2 | — | — |
| 20. Staurastrum gracile . | 1 | 1 | 1 | 1 | — | — | 1 | 3 | — | 1 | 2 | 1 | 2 |
| 21. S. anatinum . . . | — | — | 1 | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | 1 |
| 22. S. arachne . . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | 1 | — |

| Дата | 11 VI | 12 VI | 13 VI | 13 VI | 13 VI | 14 VI | 14 VII | 15 VI | 14 VII | 15 VI | 17 VI | 14 VII | 17 VI |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Месца збору (станцыя) | 4 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | | 17 | | 18 | 19 | | 20 |
| Глыбіня ст. (met.) | 6,5 | 8,0 | 9,05 | 10,0 | 9,5 | 2,0 | | 5,5 | | 58 | 10 | | 10 |
| Тэмпер. вады на павер. | 18,3 | 17,0 | 16,8 | 17,0 | 17,4 | 17,8 | | 19,5 | | 19,6 | 18,1 | | 18,0 |
| Празрыстасць | 2,4 | 2,4 | 3,25 | 3,0 | 2.6 | — | | 2,25 | | 2,6 | 2,5 | | 2,2 |
| 23. S. paradoxum . . . | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 24. Cosmarium sp. . . | 1 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 25. Eudorina elegans . . | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 26. Pediastrum simplex . | 1 | — | — | — | — | 2 | 1 | 2 | — | 1 | — | — | — |
| 27. P. Kawraiskyi . . | — | 1 | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 |
| 28. P. duplex v. clatratum . . . . . . | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 | 1 | 2 |
| 29. P. Boryanum v. longicorne . . . . . | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | 1 | — | — |
| 30. P. bidentulum . . . | — | — | — | — | 1 | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — |
| 31. Scenedesmus quadricauda . . . . . | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | 1 | — |
| 32. Dictyosphaerium pulchellum . . . . | — | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 33. Ankistrodesmus falcatus . . . . . . | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 34. Kirchneriella lunuris . | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 35. Tetraedron gracile . | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 36. Selenastrum gracile . | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 37. Coelastrum proboscideum . . . . . | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

*Табліца № 2*

**Фітпланктон літаралі воз. Першага**

| Дата | 16 VI | 15 VI | 14 VII | 14 VII | 14 VI | 14 VII | 14 VII | 14 VI | 15 VII | 12 VI | 12 VI | 15 VII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Месца збору: Бераг | Заходні | | | | Паўдн. | | Усходні | | | | Паўн. | |
| Месца збору: Станцыя | 24 | 16 | | 30 | 14 | | 13 | 22 | | 21 | 7 | |
| Глыбіня (met.) | 1,5 | 2,5 | | 1,5 | 1,5 | | 2 | 1 | | 1 | 0,75 | |
| Тэмп. вады на павер. | 17,6 | 20,4 | | — | 21,6 | | 20 | 17,6 | | 17 | 16,4 | |
| Празрыстасць | — | — | | — | — | | – | — | | — | — | |
| 1. Microcystis aeruginosa . | 3 | 2 | 1 | 2 | 3 | 2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 3 | 3 |
| 2. M. flos—aqua . . . . | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 3. Chroococcus limneticus . | 1 | 1 | — | 1 | 2 | 1 | 1 | — | — | 1 | 2 | 1 |

| Дата | 16 VI | 15 VI | 14 VII | 14 VII | 14 VI | 14 VII | 14 VII | 14 VI | 15 VII | 12 VI | 12 VI | 15 VII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Месца збору: Берраг | Заходні | | | | Паўдн. | | Усходні | | | | Паўн. | |
| Месца збору: Станцыя | 24 | 16 | | 30 | 14 | | 13 | 22 | | 21 | 7 | |
| Глыбіня (met.) | 1,5 | 2,5 | | 1,5 | 1,5 | | 2 | 1 | | 1 | 0,75 | |
| Тэмп. вады на павер. | 17,6 | 20,4 | | — | 21,6 | | 2 | 17,6 | | 17 | 16,4 | |
| Празрыстасць | — | — | | — | — | | — | — | | — | — | |
| 4. Coelosphaerium dubium | 3 | 2 | 2 | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 |
| 5. Gleotrichia echinulata | 1 | ∞ | ∞ | ∞ | ∞ | 4 | ∞ | 5 | ∞ | 5 | ∞ | 3 |
| 6. Dinobryon sertullaria | 3 | 3 | 2 | 2 | 1 | 2 | 1 | — | 2 | — | 1 | 2 |
| 7. Ceratium hirundinella | 2 | 2 | 5 | ∞ | 5 | ∞ | 1 | 2 | ∞ | 2 | — | 2 |
| 8. Melosira granulata | 5 | 3 | 3 | 2 | 3 | 2 | 1 | 4 | 3 | 4 | 1 | 5 |
| 9. Cyclotella sp. | 1 | 1 | 1 | — | 1 | — | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| 10. Tabellaria fenestrata | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | — | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | 2 |
| 11. Fragilaria crotonensis | 2 | 2 | 2 | 1 | — | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | 2 |
| 12. Asterionella gracillima | 3 | 2 | 1 | 2 | 3 | 2 | 1 | — | 1 | 1 | — | 3 |
| 13. Surirella sp. | — | — | 1 | — | 1 | — | — | 1 | — | 2 | — | 1 |
| 14. Cymatopleura eliptica | 1 | 1 | — | — | 1 | — | — | — | — | 1 | — | 1 |
| 15. Spirogyra sp. | 2 | 1 | 2 | 1 | 1 | 2 | 1 | — | — | 1 | 1 | — |
| 16. Maugeotia sp. | — | 1 | 2 | — | 1 | 2 | — | — | — | 1 | — | — |
| 17. Cosmarium sp. | — | — | 1 | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — |
| 18. Closterium moniliferum | — | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | — |
| 19. Closterium parvulum | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 20. Staurastrum gracile | 1 | 1 | 1 | — | 3 | 1 | 1 | — | 1 | — | 1 | 2 |
| 21. St. arachne | — | 1 | — | 2 | — | — | 1 | — | — | — | — | 1 |
| 22. St. paradoxum | — | 1 | — | — | 2 | — | — | — | — | — | 1 | — |
| 23. St. anatinum | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — |
| 24. Pandorina morum | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | 1 | — |
| 25. Pediastrum clatratum | 1 | 1 | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | 1 | 1 |
| 26. P. duplex v. clatratum | 1 | 2 | — | 1 | — | — | — | 1 | 1 | — | — | 1 |
| 27. P. „ v. reticulatum | — | 1 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 28. P. „ v. coronatum | — | — | — | — | — | — | | — | 2 | — | — | — |
| 29. P. „ v. candicans | 1 | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 30. P. muticum | 1 | 2 | 1 | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 | — |
| 31. P. Boryanum | 1 | 2 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | 1 | — |
| 32. P. „ v. longicorne | — | — | — | — | — | 1 | — | — | 1 | — | — | — |
| 33. P. biradiatum | 1 | 2 | 1 | 1 | — | — | — | — | 1 | — | — | — |
| 34. Kirchneriella lunuris | 1 | 1 | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — |
| 35. Dictyosphaerium pulchellum | 1 | 3 | — | 1 | — | — | 1 | 1 | 1 | — | 1 | 1 |

| Дата | 16 VI | 15 VI | 14 VII | 14 VII | 14 VI | 14 VII | 14 VII | 14 VI | 15 VII | 12 VI | 12 VI | 15 VII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Месца збору: Бераг | Заходні | | | | Паўдн. | | Усходні | | | | Паўн. | |
| Месца збору: Станцыя | 24 | 16 | | 30 | 14 | | 13 | 22 | | 21 | 7 | |
| Глыбіня (met.) | 1.5 | 2,5 | | 1,5 | 1,5 | | 2 | 1 | | 1 | 0,75 | |
| Тэмп. вады на павер. | 17,1 | 20,4 | | — | 21,6 | | 20 | 17,6 | | 17 | 16,4 | |
| Празрыстасць | — | — | | — | — | | — | — | | — | — | |
| 36. Scenedesmus quadricauda | — | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — |
| 37. Coelastrum proboscideum | 1 | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — |
| 38. Tetraedron gracile . . | 1 | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 39. Hydrodictyon reticulatum | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — |
| 40. Ulotrix sp. . . . . | 1 | 2 | 2 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 41. Oedogonium sp. . . . . | 1 | 2 | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

Spirogyra sp., Ulotrix sp., Oedogonium sp. найбольш развіты ў затоках заходняга берага, чым ва ўсходняй частцы, дзе сустракаюцца адзінкава.

Мікрафлора паўночнай і паўночна-заходняй часткі возера адрозніваецца ад галоўнага плёса, набліжаючыся сваім складам да планктона літаралі (гл. табл. 3). Dinobryon sertullaria і Ceratium hirundinella давалі найбольшае колькаснае развіццё. Да вельмі распаўсюджаных форм належаць Microcystis flus aquae, Tabellaria fenestrata і Asterionella gracile.

У параўнанні з галоўным плёсам у гэтых частках павялічваецца колькасць Cyanophyceae і Bacillariaceae.

Параўнаўшы паўночную і паўночна-заходнюю часткі паміж сабой, можна адзначыць большае багацце форм у паўночнай частцы (42), чым у паўночна-заходняй ( 3). Гэта можна вытлумачыць аднастайнымі ўмовамі забалачвання паўночна-заходняй часткі і стварэннем іншых больш differently разнастайных умоў існавання ў паўночнай частцы.

Паміж двума зборамі матэрыяла прайшоў месяц. Але з прычыны халоднай вясны 1930 г. якаснай змены ў складзе мікрафлоры не назіралася, апрача адзначанага павелічэння Dinobryon sertullaria і Ceratium hirundinella, прычым колькасць апошніх набліжалася да стадыі цвіцення. У іншых групах змены ішлі ў бок павелічэння колькасці форм.

Абрастанне мікрафлоры ідзе галоўным чынам за лік Bacillariaceae, з якіх часцей сустракаюцца Cocconeis placentula, Cymbella sp., Gomphonema subclavatum, Bhoicosphenia curvata.

Апрача гэтага шмат нітчатак, як Oedogonium sp., Coleochaeta scutufa і C. soluta, вельмі распаўсюджаных у абрастаннях разнастайных прадстаўнікоў мікрафлоры.

*Табліца № 3*

**Фітапланктон паўночнай і паўночна-заходняй часткі возера Першага**

| Месца збору | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дата | 18 VI | 11 VI | 15 VII | 16 VI | 11 VI | 11 VI | 15 VII | 11 VI | 15 VII | 16 VI | 16 VI | 11 VI | 15 VII |
| Бераг | Паўночная | | | | | | | Паўночна-заходняя | | | | | |
| | Літараль | | | | | Пелаг. | | Пелаг. | | Літараль | | | |
| Станцыя | 26 | 1 | | 27 | 3 | 2 | | 6 | | 28 | 29 | 5 | |
| 1. Microcystis aeruginosa . . . . . . | 3 | 1 | 2 | 1 | 3 | 3 | 2 | 2 | 1 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| 2. M. flos-aquae . . . | 3 | — | 2 | 3 | 3 | 2 | 2 | 3 | 2 | 3 | 3 | 4 | 2 |
| 3. Chroococmus licneticus . . . . . . | 1 | 1 | — | 1 | 2 | 2 | — | — | 1 | 1 | — | 1 | — |
| 4. Coelosphaerium dubium . . . . . | 1 | 1 | 2 | 1 | — | 1 | — | 2 | 2 | 2 | 2 | — | — |
| 5. Gleocapsa sanguinea. | — | 1 | — | — | — | 1 | 1 | 1 | — | — | — | 1 | — |
| 6. Cyanodictyon reticulata . . . . . . | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 7. Melosira punctata. . | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 8. Gloeotrichia echinulata . . . . . . | — | — | — | — | 1 | — | — | 2 | — | — | — | 1 | — |
| 9. Anabaena flos-aquae . | — | — | — | — | — | — | — | 2 | — | 1 | 1 | — | 1 |
| 10. Oscillatoria limosa . | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | 2 | — |
| 11. O. tenuis . . . . | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12. O. sancta . . . . | — | 1 | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 13. O. simplicissima . . | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 14. Dinobryon sertullaria. | — | 1 | 5 | — | 3 | 3 | 5 | 2 | 5 | 4 | 2 | 3 | 5 |
| 15. Peridinium sp. . . | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 16. Ceratium hirundinella. | — | — | 5 | — | — | — | 5 | 5 | 5 | 3 | 2 | 2 | 4 |
| 17. Euglena viridis . . | — | 1 | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | 2 | — |
| 18. Melosira varians . . . | — | 1 | 1 | — | 1 | — | — | 2 | 1 | — | — | — | 2 |
| 19. M. granulata . . . | — | 3 | 2 | — | — | 5 | 2 | 5 | 3 | — | — | — | 2 |
| 20. Cyclotella sp. . . . | — | 3 | — | — | 1 | 2 | — | 1 | — | — | — | — | — |
| 21. Attheya Zachariasi . | — | — | 1 | — | — | — | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — |
| 22 Tabellaria fenestrata . | 2 | 2 | — | 2 | 2 | 3 | — | 2 | — | — | — | 3 | 2 |
| 23. Fragilaria crotonensis. | 2 | — | — | 2 | 1 | 1 | — | 1 | — | — | — | 3 | — |
| 24. Asterionella gracillima. | 3 | 2 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 3 | 2 |
| 25. Gyrosigma attenuatum . . . . . . . | 1 | 2 | — | 1 | 1 | — | — | 1 | — | 2 | — | — | — |
| 26. Navicula sp. . . . | — | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | 2 | 1 | — | — |
| 27. Nitzschia recta . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — |
| 28. Surirella sp. . . . . | — | — | 1 | — | 1 | — | — | 1 | — | 2 | 1 | — | — |

наўплісы і Cyclops leuckarti; у групе Ratatoria з'явіліся новыя формы, якія сустракаліся скрозь, Anurea aculeata і Asplanchna priodonta.

З паміж планктэраў, характэрных для біяцэноза зараснікаў, можна адзначыць: Polyphemus pediculus, Percantha truncata, Pleuroxus striatus, Acroperus harpae і Ceriodaphnia megops, але побач з імі ёсць і тыповыя пелагічныя формы, напр.: Leptodora Kindtii, Diaptomus graciloides, Cyclops leuckarti і Anurea aculeata.

2. Пелагічная зона, у сувязі з тым, што воз. Пятае выцягнута і мае развітую берагавую лінію, мае толькі ў паўднёвай частцы шырокі і адкрыты плёс (у раёне 20 і 21 станцый). Асноўныя рысы зоапланктона збіранняў ад 1/VII—2/VII і 20/VII-1932 г. адбіты ў табл. 35.

Матэрыялам паслужылі 12 проб з 8 станцый (№№ станцый: 13, 15, 16, 17, 18, 19, 20, 21).

Біяцэноз пелагіялі першага збірання характарызуецца блізка роўным развіццём Cladocera—8 ф., Copepoda—6 ф. і Ratatoria—8 ф. З паміж Cladocera—Daphne longispina прадстаўлена трыма варыятэтамі, Chydorus sphaericus, Diaphanosona brachyurum характарызуюцца таксама як і варыятэты Daphne longispina тым, што сустракаюцца скрозь. З паміж Copepoda рачок Diaptomus graciloides у зоапланктоне мае вялікае значэнне, ён прэвалюе над усімі іншымі формамі, а на 13, 16 і 21 станцыях становіцца дамінантнай формай. З паміж Rotatoria толькі Anurea cochlearis і Polyarthra platyptera характэрны тым, што сустракаюцца скрозь, астатнія віды сустракаюцца рэдка і ў невялікіх колькасцях.

Зоапланктон другога збірання ад 20/VII-1932 г. характарызуецца ў групе Cladocera павелічэннем колькасці Chydorus sphaericus на ўсіх станцыях і знікненнем рачкоў Chydorus piger і Bosmina longirostris typica, у групе Copepoda знікненнем Cyclops phaleratus, C. fimbratus і C. oithonoides. Рачок Diaptomus graciloides з дамінантнай ці блізкай да яе формы прадстаўлены цяпер у планктоне ўсіх проб у сярэдняй колькасці. У групе Rotatoria зніклі Triathra terminalis, Conochilus unicornis і Mytilina mucronata, а з'явілася Asplanchna priodonta. Калі параўнаць зоапланктон літаралі з зоапланктонам пелагіялі першых збіранняў, то істотная розніца будзе толькі ў групе Cladocera, у літаралі гэта група прадстаўлена цэлым радам форм, характэрных для зараснікаў жорсткай расліннасці.

У зоапланктоне другіх збіранняў ад 20/VII-1932 г. зніклі ў літаралі Polyphemus pediculus, Sida crystallina, Percantha truncata, Pleuroxus striatus, Scapholeberis mucronata і Acroperus harpae, а ў сувязі з гэтым зоапланктон літаралі стаў падобны да зоапланктона пелагіялі. Зоапланктон літаралі

і пелагіялі па featuring рознастайнай і высокай колькасці рачкоў з групы Cladocera і Copepoda можна лічыць у рыбнай гаспадарцы вельмі прадукцыйным.

### Кароткая тыпалагічная характарыстыка зоапланктона

Воз. Пятае неглыбокі вадаём; у яго ўпадае некалькі канаў, якія прыносяць ваду з балот, што прылягаюць да возера (канава на поўдні возера ў раёне 6 станцыі і ў раёне 10 станцыі на ўсходнім беразе) і забяспечваюць паступленне алахтоннага матэрыяла ў значнай колькасці. Працэсы зарастання і забалочвання выражаны ясна ў паўднёвай частцы возера і ў раёне 2 і 3 станцый уздоўж паўднёвага і паўночнага берага поўвострава. Шчолачная рэакцыя асяроддзя (pH—8,4), высокае ўтрыманне солей кальцыя дае магчымасць аднесці воз. Пятае да еўтрофнага тыпу вадаёмаў, прычым вялікія зараснікі макрафітаў у літаральнай зоне дапамагаюць далейшай еўтрафіі вадаёма. Зоапланктон якасна і колькасна развіты даволі багата (усяго канстатавана 37 форм), у асноўным мае тыповы азёрны характар і рысы падабенства пелагіялі з літараллю. У зоапланктоне віднае месца побач з Cladocera займаюць Rotatoria, якія прадстаўлены 10 відамі; з паміж рачкоў, што сустракаюцца скрозь як у літаралі, так і ў пелагіялі, знойдзены: Diaphanosoma brachyurum, Bosmina coregoni gibbera, Daphne longispina f. incerta, Chydorus sphaericus і Diaptomus graciloides. Астатні рачок у пелагіялі быў дамінуючай формай над усімі іншымі планктанерамі.

### Грунт возера Пятага

Літараль воз. Пятага, глыбінёй ад 0—4 м, у асноўнай масе складаецца з пясчаных грунтоў з дамешкай гліны і раслінных рэштак. Паўночная частка возера характарызуецца заглеенымі глініста-пясчанымі адкладамі, дзе месцамі выходзіць на паверхню чыстая гліна, напр. у раёне 10 і 4 станцый.

Цэнтральную частку возера—прафундаль ад 4 — 14 м пакрывае глініста-глеісты грунт цёмна-шэрага колера. Паўднёвая частка возера мае рысы забалочвання. Канава, што тут уваходзіць, прыносіць з прылеглых да возера балот вялікую колькасць алахтоннага матэрыяла балотнага паходжання. Мікраскапічны аналіз паказвае, што галоўная маса грунту складаецца са светла-жоўтых капрагенных элементаў, фітапланктона, які спрасоўваўся і сярод якога даволі часта пападаюць шкілеты Pediastrum і пылок сасны, ракавіны Difflugia urceolata і D. pyriformis, створкі панцыраў Chydorus sphaericus. Да гэтых кампанентаў у раёне 21 станцыі дабаўляецца даволі вялікая колькасць раслінных рэштак

алахтоннага паходжання, напр. лісце моху, спарангіі папараці. Наогул глiністыя адклады цэнтральнай часткі возера Пятага могуць быць залічаны да тыпу аўтахтоннай гітыі. Да алахтонных сустаўных частак глею прафундалі можна залічыць: 1) раслінныя рэшткі балотнага паходжання, што прыносяцца канавай, напр. лісце моху і спарангіі папараці і 2) пылок сасны і насенне раслін. Алахтонныя адклады лакалізуюцца ў вусцях уваходу канаў і займаюць нязначную плошчу.

**Кампаненты доннай фауны воз. Пятага**

У літаралі воз. Пятага, якая пакрыта пясчана-глiністымі адкладамі з дамешкай раслінных рэштак, фауна канцэнтруецца ў раёнах зараснікаў чарота і трысця. Матэрыял па біяцэнозу літаралі прадстаўлен на табл. 36, дзе дан аналіз скрабковых проб (№№ станцый: 1, 2, 4, 9, 6 і 12).

*Табліца № 36*

**Воз. Пятае. Літараль ад 0—4 м**

| №№ па парарку | №№ станцыі | I | II | IV | IX | VI | XII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | №№ пробы | 402 | 404 | 408 | 418 | 474 | 423 |
| 1 | Gammarus pulex | + | + | + | — | — | — |
| 2 | Asellus aquaticus | + | — | — | — | — | — |
| 3 | Stylaria lacustris | + | — | — | — | — | — |
| 4 | Herpobdella octoculata | + | — | — | — | + | — |
| 5 | Piscicola geometra | — | — | + | — | — | — |
| 6 | Limnaea auricularia | — | — | — | + | — | — |
| 7 | Limnaea stagnalis | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Lithohlyphus naticoides | + | — | — | — | — | — |
| 9 | Vivipara duboisiana | — | + | + | — | + | — |
| 10 | Bithynia tentaculata | — | + | — | + | — | — |
| 11 | Sphaerium sp. | — | — | — | — | + | — |
| 12 | Polypedilum | — | + | — | — | + | — |
| 13 | Trichotantypus sagittalis | + | — | + | — | + | + |
| 14 | Protenthes kraatzi | + | — | — | + | — | — |
| 15 | Microtendipes | + | — | — | — | — | — |
| 16 | Лічынка Caenis | + | — | + | + | + | + |
| 17 | Leptocerus sp. | + | — | — | + | + | + |
| 18 | Phryganea sp. | — | + | — | + | — | — |
| 19 | Anabolia sp. | — | — | — | — | + | — |
| | | 10 | 5 | 5 | 6 | 8 | 3 |

Наяўнасць Gammarus pulex сведчыць аб добрым кіслародным рэжыме літаральнай зоны. Фауна, як відаць з табл. 36, даволі багата на прадстаўнікоў Mollusca, Chironomidae і Trichoptera. Вобласць прафундалі, пакрытая цёмна-шэрым глеем тыпу гітыя, дае з плошчы ў 0,1 кв. м да 104 арганізмаў (гл. табл. 37). Было ўзята 11 проб дночар-

*Табліца № 37*

**Воз. Пятае. Прафундаль ад 4—14 м**

| №№ станц. і проб | Глыбіня ў м | Грунт | Назва арганізмаў | Колькасць арганізмаў на 0,1 км | Сярэдняя вага ў мгр | Агульная колькасць арганізмаў | Агульная вага ў мгр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| XIV | 8.0 | Глей з невялікай дамешкай галькі | Chironomus plumosus . | 13 | 57.0 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis . | 7 | 4.0 | | |
| | | | Ceratopogon . . . . | 6 | 7.0 | | |
| | | | Tubifex sp.. . . . . | 6 | 4.0 | | |
| 434 | | | Bithynia tentaculata . . | 3 | 92.0 | 35 | 1111.0 |
| XV | 10.0 | Глей з дамешкай гліны | Chironomus plumosus . | 46 | 58.0 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis . | 2 | 5.0 | | |
| | | | Chironominae воз. Кругдага. . . . . . | 2 | 5.0 | | |
| | | | Corethra . . . . . | 10 | 6.0 | | |
| | | | Tubifex sp. . . . . | 11 | 4.0 | | |
| 436 | | | Sphaerium corneum . . | 2 | 20.0 | 73 | 2832.0 |
| XX | 9.75 | Глей цёмна-шэрага колера | Chironomus plumosus . | 51 | 52.2 | | |
| | | | Corethra . . . . . | 12 | 6.0 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis . | 2 | 5.0 | | |
| | | | Bithynia tentaculata . . | 2 | 70.0 | | |
| | | | Sphaerium corneum . . | 3 | 25.0 | | |
| 451 | | | Tubifex sp. . . . . | 25 | 4.0 | 95 | 3059.0 |
| XXI | 4.80 | Глей шэра-зялёнага колера | Chironomus plumosus . | 24 | 44.5 | | |
| | | | Chironominae воз. Кругдага. . . . . . | 1 | 5.0 | | |
| 456 | | | Bithynia tentaculata . . | 1 | 58.0 | 26 | 1131.0 |
| XIII | 6.5 | Глей з дамешкай гліны | Chironomus plumosus . | 6 | 52.0 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis . | 4 | 5.0 | | |
| | | | Ceratopogon . . . . | 4 | 8.0 | | |
| 458 | | | Bithynia tentaculata . . | 7 | 65.0 | 21 | 819.0 |

| №№ станц. і проб | Глыбіня ў м | Грунт | Назва арганізмаў | Колькасць арганізмаў па 0,1 км | Сярэдняя вага ў мгр | Агульная колькасць арганізмаў | Агульная вага ў мгр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| XV | 10.0 | Глей з дамешкай гліны | Chironomus plumosus . | 32 | 72.6 | | |
| | | | Ceratopogon . . . . | 2 | 8.0 | | |
| 460 | | | Tubifex sp. .. . . . . | 6 | 4.0 | 40 | 2363.2 |
| XX | 9.75 | Глей цёмна-шэрага колера | Chironomus plumosus . | 14 | 62.6 | | |
| | | | Chironominae в. Круглага. | 3 | 5.0 | | |
| | | | Ceratopogon . . . . | 2 | 6.0 | | |
| | | | Bithynia tentaculata . . | 2 | 79.0 | | |
| 464 | | | Tubifex sp. . . . . | 3 | 4.0 | 24 | 1073.4 |
| XIII | 8.0 | Глей з дамешкай гліны | Chironomus plumosus . | 13 | 58.0 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis . | 16 | 5.0 | | |
| | | | Ceratopogon . . . . | 11 | 7.0 | | |
| | | | Tubifex sp. . . . . | 62 | 4.0 | | |
| 432 | | | Bithynia tentaculata . . | 2 | 83.0 | 104 | 1325.0 |
| XVI | 6.0 | Глей з дамешкай гліны | Chironomus plumosus . | 7 | 59.0 | | |
| | | | Chironominae в. Круглага. | 1 | 5.0 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis . | 4 | 5.0 | | |
| | | | Polypedilum . . . . | 3 | 5.0 | | |
| | | | Ceratopogon . . . . | 1 | 7.0 | | |
| | | | Tubifex sp. .. . . . | 10 | 4.0 | | |
| | | | Bithynia tentaculata. . | 7 | 82.0 | | |
| 441 | | | Sphaerium sp.. . . . | 2 | 52.0 | 44 | 1214.0 |
| XVII | 4.75 | Глей з дамешкай гліны і бітай ракушкі | Chironomus plumosus . | 1 | 58.5 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis . | 20 | 5.0 | | |
| | | | Protenthes kraatzi . . | 7 | 5.0 | | |
| | | | Polypedilum . . . . | 39 | 5.0 | | |
| | | | Sphaerium sp.. . . . | 4 | 62.0 | | |
| 444 | | | Bithynia tentaculata . . | 9 | 81.0 | 80 | 1365.5 |
| XVIII | 6.0 | Глей з дамешкай бітай ракушкі | Chironomus plumosus . | 1 | 59.0 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis . | 8 | 5 0 | | |
| | | | Chironominae в. Круглага. | 6 | 5 0 | | |
| | | | Ceratopogon . . . . | 1 | 6.0 | | |
| | | | Tubifex sp.. . . . . | 3 | 4.0 | | |
| 446 | | | Bithynia tentaculata . . | 2 | 0.0 | 21 | 307.0 |

пальнікам з 8 станцый (№№ станцый: 13, 16, 17, 18, 14, 15, 20 і 21). Біяцэноз цёмна-шэрага глею складаецца з наступных арганізмаў: Tubifex sp., Sphaerium, Bithynia tentaculata, з паміж хіранамід Chironomus plumosus, Trichotanypus sagittalis, Chironominae воз. Круглага, Polypedilum, Ceratopogon і нарэшце лічынка Corethra. На табл. 38 паказана роля хіранамід, тубіфіцыд і малюскаў у бентасе прафундалі.

*Табліца № 38*

**Колькасць хіранамід, тубіфіцыд і малюскаў на 1 кв. м прафундалі**

| | Chironomus plumosus | Trichotanypus sagittalis | Chironominae воз. Круглага | Polypedilum | Protenthes kraatzi | Ceratopogon | Усяго хіранамід | Corethra | Tubificidae | Bithynia tentaculata | Sphaerium |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Воз. Пятае . . | 189 | 57 | 12 | 38 | 6 | 24 | 326 | 20 | 122 | 32 | 10 |

Corethra ў воз. Пятым прадстаўлена ў нязначнай колькасці—20 экз. з 1 кв. м, таму карэтравым яго назваць не можна; хіранаміды ў бентасе прадстаўлены добра, па колькасці займаюць першае месца—326 экз. з аднаго кв. м; тубіфіцыды пры іх сярэдняй вазе (4 мгр) вядома ўступаюць па колькасці хіранамідам; адсюль воз. Пятае можна ахарактарызаваць, паводле пануючай у ім групы арганізмаў, як хіранаміднае возера.

### Колькасныя даныя па доннай фауне

У воз. Пятым у зоне літаралі былі ўзяты толькі скрабковыя пробы, таму прадукцыйнасць дна літаралі вылічана быць не можа.

Прафундаль, пакрытая цёмна-шэрым глеем, дае да 51 экз. Chironomus plumosus (20 станцыя-гл. табл. 37), прычым сярэдняя вага лічынак бывае ад 45,5 да 72,6 мгр. Тут прастой залежнасці паміж біятопамі і адкормленасцю лічынак не выяўлена, бо грунт—глей з дамешкай гліны дае Chironomus plumosus, з сярэдняй вагой—72,6 мгр, а глей шэразялёнага колера—тыповая гітыя дае Chironomus plumosus, з сярэдняй вагой 44,5 мгр. Тут трэба дапусціць розныя генерацыі Chironomus plumosus, альбо розныя віды яго.

У табл. 39 даецца пералічэнне станцый з паказаннем ліку жывёл, знойдзеных на кожнай станцыі, і іх сярэдняя вага ў мгр, адкуль па падставе разліку можна атрымаць сярэдні лік арганізмаў для 11 станцыі, роўны 51,18, з сярэдняй вагой 1509 мгр.

*Табліца № 39*

**Колькасць арганізмаў на (0,1 кв. м) шэра-зялёным глеі прафундалі**

| №№ станцый | Глыбіня ў метрах | Колькасць арганізмаў | Сярэдн. вага ў мгр | Сярэдняя колькасць арганізмаў і сярэдняя вага ў мгр |
|---|---|---|---|---|
| 13 | 8.0 | 104 | 1325,0 | Сярэдняя колькасць арганізмаў для 11 станцый=51.18<br>Сярэдняя вага ў мгр=1509.1 |
| 14 | 8.0 | 35 | 1111,0 | |
| 16 | 6.0 | 44 | 1214,0 | |
| 17 | 4.75 | 80 | 1365,5 | |
| 18 | 6.0 | 21 | 307,0 | |
| 15 | 10.0 | 73 | 2832,0 | |
| 20 | 9.75 | 95 | 3059,0 | |
| 21 | 4.80 | 26 | 1131,0 | |
| 13 | 6.5 | 21 | 819,0 | |
| 15 | 10.0 | 40 | 2363,2 | |
| 20 | 9.75 | 24 | 1073,4 | |

Разлік прадукцыйнасці прафундалі воз. Пятага можна прадставіць на табл. 40, дзе паказана сярэдняя колькасць арганізмаў і сярэдняя вага ў кг з плошчы 1 га.

*Табліца № 40*

| Назва грунту | Сярэдні лік арганізмаў на 1 га | Сярэдняя вага ў кг/га |
|---|---|---|
| Цёмна-шэры глей тыпу гітыя. . | 5.118.000 | 151.0 |

Сярэдні лік арганізмаў і іх біямаса для воз. Пятага вельмі вялікія; усе арганізмы, што ўваходзяць у склад бентаса, могуць быць да рэшты скарыстаны рыбай як харч, адсюль бентас воз. Пятага можна лічыць высокакормным і высокапрадукцыйным.

**Возера Шостае**

Возера Шостае паводле свайго нарысу вельмі падобна да воз. Пятага.

Воз. Шостае мае глыбіню да 20,0 м, празрыстасць 2.05 і паступовае паданне тэмпературы вады (ля паверхні $t^0$ вады $23,4^0$, на глыбіні $15,5—12,4^0$ C), тэмпературнага скачка няма; pH—8,3, на глыбіні—7,4; бікарбанатнай $CO_2$ — 97,6 мгр $^0/_{00}$; свабоднай $CO_2$—8,8 мгр $^0/_{00}$; $SiO_2$—5,0мгр‰; $O_2$—11,10 мгр‰.

Усяго па воз. Шостаму было ўзята 22 пробы планктона з 8/VII—11/VII і з 27/VIII—28/VIII-1932 г.

У зоапланктоне можна ўстанавіць 3 біяцэнозы: 1) біяцэноз літаралі, 2) біяцэноз вусця рэчак і 3) біяцэноз пелагіялі.

1. Літаральная зона з найбольшай глыбінёй да 4 м у воз. Шостым добра прадстаўлена дзякуючы вялікай колькасці затокаў і поўвостраваў, якія глыбока заходзяць у возера. У гэтай зоне Potamogeton, Scirpus і Gliceria складаюць добра развітыя зараснікі надводнай раслліннасці. Асноўным грунтам з'яўляюцца тут заглееныя пясчаныя адклады з нязначнай дамешкай гліны і раслінных рэштак. Зоапланктон апісваецца на падставе 6 проб з 6 станцый (гл. табл. 41, №№ станцый: 1, 2, 12, 10, 7 і 5). Як відаць з табл. 41, зоапланктон літаралі вельмі бедны на формы, усяго знойдзена 17 форм. З паміж іх на долю Cladocera прыходзіцца—9, Copepoda—1, Rotatoria—5. Самы багаты зоапланктон знойдзены на 2 станцыі, тут Cladocera прадстаўлены ў максімальнай колькасці—6 форм, Rotatoria—4 формамі. У зоне літаралі планктон мае характэрных для зараснікаў планктэраў з групы Cladocera, напр., Acroperus harpae, Scapholeberis mucronata, Ceriodaphnia megops, Percantha truncata і Sida crystalina.

Трэба адзначыць адсутнасць прадстаўнікоў Copepoda. З Rotatoria ў гэтай зоне скрозь сустракаюцца калаўраткі: Anurea cochlearis і Polyarthra platyptera.

2. Вусці рэчак, што цякуць у воз. Шостае, характарызуюцца пясчаным грунтам, а зараснікі гэтых рэчак складаюцца з Potamogeton, Phragmites, Ceratophylum.

У гэтых зарасніках было ўзята 6 проб з 4 станцый. Гэты біяцэноз паказаны на табл. 41 (№№ станцый: 19, 6, 23, 9) і характарызуецца беднасцю форм і тым, што яны рэдка сустракаюцца. З 5 відаў Cladocera сустракаецца скрозь у нязначнай колькасці рачок Bosmina longirostris typica.

Усе рачкі з Copepoda сустракаюцца адзінкамі; Anurea cochlearis і Polyathra platyptera з паміж Rotatoria сустракаюцца ў нязначнай колькасці і па ўсіх станцыях. З Cladocera няма зусім тыповых для зараснікаў форм. Планктон літаралі слаба развіты і, маючы ў сабе малую колькасць харчовых для рыбы планктэраў з паміж Cladocera і Copepoda, можа лічыцца ў рыбнай гаспадарцы малакормным.

3. У пелагічнай зоне добра выяўлены плёс ёсць толькі ў паўднёвай частцы возера. Біяцэноз адкрытай вады вывучаўся на 10 пробах з 7 станцый збіранняў з 8/VII—10/VII і 27/VIII-1932 г. і паказан на табл. 42 (№№ станцый: 25, 26, 27, 22, 21, 16, 18). Зоапланктон ліпнёвых збіранняў

*Табліца № 41*

**Воз. Шостае. Літараль**

| №№ па пар | №№ па пар. | | літараль | | | | | | зараснікі рэчак | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дата | 8 VII | 8 VII | 10 VII | 9 VII | 9 VII | 9 VII | 8 VII | 8 VII | 8 VII | 10 VII | 10 VII | 9 VII |
| | | № станцыі | 1 | 2 | 12 | 10 | 7 | 5 | 19 | 6 | 6 | 23 | 9 | 9 |
| | | № проб | 601 | 603 | 625 | 621 | 613 | 609 | 637 | 633 | 611 | 649 | 651 | 617 |
| | | Глыбіня ў м | 0,5 | 0,75 | 1,0 | 1,5 | 0,5 | 0,75 | 1,10 | 2,0 | 2,0 | 0,75 | 2,40 | 2,40 |
| | | **Protozoa** | | | | | | | | | | | | |
| 1 | 1 | Difflugia urceolata | — | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | 1 |
| 2 | 2 | Arcella mitrata | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | **Cladocera** | | | | | | | | | | | | |
| 3 | 1 | Acroperus harpae | — | 3 | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 4 | 2 | Scapholeberis mucronata | — | 1 | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | 3 | Percantha truncata | — | 3 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | 4 | Chydorus piger | — | 2 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 7 | 5 | Chydorus sphaericus | — | 2 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 8 | 6 | Sida crystallina | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 9 | 7 | Ceriodaphnia megops | — | — | — | — | 1 | — | — | 1 | — | — | 1 | — |
| 10 | 8 | Diaphanosoma brachyurum | — | — | — | — | 1 | — | — | 1 | — | — | 1 | — |
| 11 | 9 | Bosmina longirostris curvirostris | — | — | — | — | — | — | — | 2 | — | — | — | — |
| 12 | 10 | Bosmina longirostris typica | — | 1 | — | — | — | — | — | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 |
| 13 | 11 | Daphne longispina var. cucullata forme incerta | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — |
| | | **Copepoda** | | | | | | | | | | | | |
| 14 | 1 | Diaptomus grociloides | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 15 | 2 | Cyclops fimbratus | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — |
| 16 | 3 | Cyclops serrulatus | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — |
| 17 | 4 | Cyclops phaleratus | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — |
| 18 | 5 | Cyclops albidus | — | — | — | — | — | | — | — | — | — | — | 2 |
| | | **Rotatoria** | | | | | | | | | | | | |
| 19 | 1 | Anurea cochlearis | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | — | — | — | 1 | 2 |
| 20 | 2 | Polyarthra platyptera | 2 | 2 | 3 | 2 | 2 | 2 | — | 2 | 2 | — | — | 2 |
| 21 | 3 | Conochilus unicornis | — | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 22 | 4 | Mytilina sp. | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 23 | 5 | Notholca longispina | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 24 | 6 | Triathra terminalis | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — | — | 1 |
| | | | 2 | 12 | 4 | 4 | 6 | 6 | 3 | 6 | 4 | 1 | 4 | 6 |

*Табліца № 42*

**Воз. Шостае**

| №№ па парадку | №№ па парадку | Дата | 10 VII | 10 VII | 10 VII | 9 VII | 9 VII | 8 VII | 8 VII | 27 VIII | 27 V II | 27 VIII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | I збіранне | | | | | | | II збіранне | | |
| | | № станцыі | 25 | 26 | 27 | 22 | 21 | 16 | 18 | 25 | 22 | 18 |
| | | № пробы | 653 | 659 | 661 | 646 | 644 | 631 | 635 | 672 | 676 | 678 |
| | | Глыбіня ў метрах | 10.0 | 7.0 | 8.0 | 10.0 | 16.0 | 6.5 | 6.5 | 9.0 | 10.0 | 6.5 |
| | | $t^0$ вады | 23.4 | 24.4 | 25.0 | 26.4 | 26.2 | 25.2 | 26.4 | — | — | — |
| | | Празрыстасць | 2.15 | 2.05 | 2.30 | 2.05 | 2.20 | 17 | 1.75 | — | — | — |
| | | I. Cladocera | | | | | | | | | | |
| 1 | 1 | Bosmina longirostris typica . . | — | — | — | — | — | — | 2 | — | — | — |
| 2 | 2 | Bosmina coregoni gibbera . . | — | — | — | — | — | — | 1 | 1 | 1 | — |
| 3 | 3 | Bosmina longirostris curvirostris. | 1 | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 4 | 4 | Sida crystallina . . . . . | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | 5 | Diaphanosoma brachyurum . . | — | 2 | 3 | — | — | 2 | — | 3 | — | 2 |
| 6 | 6 | Daphne longispina v. cucullata f. incerta . . . . . . | 3 | 3 | 3 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | — |
| 7 | 7 | Daphne longispina v. cucullata f. galeata . . . . . . | 2 | 2 | 2 | 3 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | — |
| 8 | 8 | Leptodora kindtii. . . . . | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | — |
| 9 | 9 | Bythotrephes longimanus . . | — | — | — | — | -- | — | 1 | — | — | — |
| | | II. Copepoda | | | | | | | | | | |
| 10 | 1 | Cyclops leuckarti . . . . | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| 11 | 2 | Cyclops oithonoides . . . . | — | — | 1 | — | — | — | — | 2 | — | — |
| 12 | 3 | Cyclops fimbratus . . . . | — | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — |
| 13 | 4 | Cyclops albidus . . . . . | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — |
| 14 | 5 | Diaptomus graciloides . . . | 3 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 3 |
| | | III. Rotatoria | | | | | | | | | | |
| 15 | 1 | Anurea cochlearis. . . . . | — | — | — | — | — | 2 | 1 | — | — | — |
| 16 | 2 | Polyarthra platyptera. . . . | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | — | — | — |
| 17 | 3 | Conochilus unicornis . . . . | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 18 | 4 | Notholca longispina . . . . | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — |
| 19 | 5 | Monostyla bulla . . . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 |
| | | Колькасць форм . . | 5 | 6 | 9 | 6 | 7 | 8 | 10 | 6 | 4 | 3 |

налічвае ўсяго 18 форм; на долю Cladocera прыходзіцца 6 форм, з паміж іх рачок Daphne longispina v. cucullata i Daphne longispina v. hyalina характэрны тым, што скрозь сустракаюцца. Copepoda прадстаўлены 6 формамі, з якіх

Diaptomus graciloides сустракаецца скрозь. З 4 відаў Rotatoria толькі Polyarthra platyptera знойдзена скрозь у невялікай колькасці.

Трэба адзначыць характэрных для пелагіялі рачкоў, напр. Leptodora kindtii, Bithotrephes longimanus, Diaptomus graciloides, Cyclops leuckarti і C. oithonoides.

У зоапланктоне 2-га збірання ад 27/VIII адбыліся істотныя змены ў бок змяншэння агульнай колькасці форм, іх асталося з 18 усяго--7. Гэта рэзкая змена датычыцца галоўным чынам групы Copepoda—асталося ўсяго 2 віды і Rotatoria, дзе ўсе ліпнёвыя формы зніклі, а з'явіліся адзінкамі колаўраткі—Monostyla bulla.

Гэтую беднасць зоапланктона пелагіялі і літаралі можна вытлумачыць толькі вельмі моцным цвіценнем возера сіне-зялёнымі водараслямі ў перыяд ліпеня і жніўня м-ца 1932 г., у выніку якога фітапланктон дае ў другой палове лета вялікую прадукцыю, а зоапланктон адзначаецца нязначным развіццём ракападобных як у якасных, так і ў колькасных адносінах.

### Возера Сёмае

Максімальная глыбіня 22,0 м, празрыстасць 7,20; паступовае паданне тэмпературы вады (тэмпература вады ля паверхні 24,2°, на глыбіні 15 м—6,0С); тэмпературнага скачка няма; pH—8,3, на глыбіні 15 м — 7,3; бікарбанатнай $CO_2$ — 119,6 мгр°/₀₀; свабоднай $CO_2$ — 4,4 мгр°/₀₀ $SiO_2$ — 3,1 мгр °/₀₀; $O_2$—8,34 мгр %₀; малая колькасць кальцыя.

Зоапланктон воз. Сёмага вывучаецца ў раёне літаралі на 3 пробах з 3 станцый (№№ станцый: 13 14 і 31) і ў пелагіялі на 3 пробах з 2 станцый (№№ станцый 28, 29) і паказан на зводнай табл. 43.

Не гледзячы на добра развітую літаральную зону ў воз. Сёмым, пакрытую мясцамі зараснікамі Scirpus'а і Phragmites, планктон у гэтым раёне зусім слаба выяўлен, няма прадстаўнікоў Cladocera і Copepoda; Rotatoria лепш за ўсё прадстаўлены ў раёне 13 станцыі. Планктон пелагіялі таксама вельмі слаба развіты (гл. табл. 43). З паміж рачкоў, якія сустракаюцца скрозь, можна адзначыць Diaphanosoma brachyurum і Diaptomus graciloides, з колаўратак Polyarthra platyptera. Пробы планктона ад 28/VIII ніякіх істотных змен у планктоне не даюць, а таму можна лічыць планктон літаралі і пелагіялі слаба развітым і малакормным для рыбы.

### Кароткая тыпалагічная характарыстыка зоапланктона

Воз. Шостае—неглыбокі вадаём з добра выяўленай літаральнай зонай. Па вялікай колькасці солей кальцыя, шчолачнай рэакцыі асяроддзя (pH—8,3), па цвіценню сіне-

*Табліца № 43*

**Воз. Сёмае. Планктон**

| № № па парадку | №№ па парадку | | Літараль | | | Пелагіяль | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дата | 10/III | 10/VII | 8/VII | 11/VII | 11/VII | 27/VIII |
| | | № станцыі | 13 | 14 | 3 | 28 | 29 | 28 |
| | | №№ проб | 627 | 630 | 605 | 664 | 670 | 682 |
| | | Глыбіня | 1,5 | 1,25 | 1,0 | 15,5 | 15,0 | 15,5 |
| | | t⁰ вады | — | — | — | 24,2 | 24,5 | — |
| | | Празрыстаць | — | — | — | 7,20 | 7,0 | — |
| | | I. Protozoa | | | | | | |
| 1 | 1 | Difflugia urceolata . . | 2 | 1 | 1 | — | — | — |
| | | II. Cladocera | | | | | | |
| 2 | 1 | Diaphanosoma brachyurum . . . . . | — | — | 1 | 3 | 3 | 2 |
| 3 | 2 | Daphne longispina var. cucullata f. cucullata . | — | — | — | 1 | 2 | — |
| 4 | 3 | Daphne longispina var. cucullata f. incerta . | — | — | — | 1 | 2 | — |
| 5 | 4 | Daphne longispina var. cucullata f. galeata . . | — | — | — | 2 | — | 2 |
| 6 | 5 | Bosmina coregoni globosa | — | — | — | 1 | — | 1 |
| | | III. Copepoda | | | | | | |
| 7 | 1 | Diaptomus graciolides . | — | 1 | — | 3 | 3 | 2 |
| 8 | 2 | Cyclops leuckarti . . | — | — | — | — | 1 | — |
| 9 | 3 | Cyclops oithonoides . . | — | — | — | — | 2 | 1 |
| 10 | 4 | Cyclops albidus . . . | — | — | — | — | 1 | — |
| 11 | 5 | Cyclops vicinus . . . | — | — | — | — | 1 | 1 |
| | | IV. Rotatoria | | | | | | |
| 12 | 1 | Anurea cochlearis . . | 2 | — | 1 | — | 2 | 1 |
| 13 | 2 | Polyarthra platyptera . | 3 | — | 1 | 1 | 2 | 1 |
| 14 | 3 | Cathypna luna . . . | 1 | — | — | — | — | — |
| 15 | 4 | Notholca longispina . . | 1 | 1 | — | — | — | — |
| | | Колькасць форм . | 5 | 3 | 4 | 7 | 10 | 8 |

зялёнымі водарaслямі, паводле класіфікацыі Тінемана-Наўмана, можа быць залічана да тыпу еўтрофных азёр. У зоапланктоне канстатавана 32 формы, але па колькасці ён развіт слаба, у ім няма дамінантных форм. У пелагіялі кіруючымі формамі будуць рачкі: Daphne longispina v. cu-

cullata, D. longispina v. hyalina i Diaptomus graciloides, з колаўратак—Polyarthra platyptera.

Цвіценне возера сіне-зялёнымі ў ліпені і ў жніўні моцна адбілася на прадукцыі зоапланктона, выклікаўшы змяншэнне агульнага ліку відаў планктэраў і змяншэнне ступені, у якой яны сустракаліся не толькі ў пелагіялі, але і ў літаралі.

Воз. Сёмае па свайму фізіка-хімічнаму рэжыму, маломy ўтрыманню солей кальцыя, па вялікай празрыстасці вады (7,20), па адсутнасці цвіцення сіне-зялёнымі можа быць аднесена к тыпу пераходных азёр аліга-еўтрофных. Макрафлора затокаў дапамагае далейшай еўтрофіі вадаёма. Зоапланктон літаралі зусім слаба развіты, а ў зоапланктоне пелагіялі кіруючымі формамі будуць рачкі: Diaphanasoma brachyurum i Diaptomus graciloides, іншыя віды прадстаўлены ў нязначнай колькасці і сустракаюцца рэдка.

### Грунт воз. Шостага і воз. Сёмага

Літараль воз. Шостага ад 0—4 м складзена ўся з пяскоў з дамешкай гліны і раслінных рэштак, а ў раёне 4—19 станцый да грунту дамешваецца вялікая колькасць рэштак драўніны, галоўным чынам кары дрэў. Гэтыя рэшткі памнажаюцца на дне ад лесасплаву. Вусці рэчак, што цякуць у возера, таксама маюць пясчаны грунт.

Прафундаль ад 4—20 м пакрыта глеем цёмна-шэрага колера, пародай, што падсцілае амаль скрозь, будзе гліна Мікраскапічны аналіз паказаў, што асноўная маса глею. складаецца з светла-жоўтых капрагенных элементаў, з фітапланктона, які спрасаваўся і сярод якога параскіданы ракавіны Difflugia, Arcella, створкі панцыраў Bosmina, Chydorus, Cypris і абломкі ракавін малюскаў. У раёне 18 станцыі знойдзена, апроч асноўнага глеістага грунту, значная дамешка раслінных рэштак алахтоннага паходжання (уплыў лесаплаваў). Гэты грунт становіць сабой тыповую аўтахтонную планктагенную гітыю і пакрывае ў воз. Шостым усю прафундаль.

У воз. Сёмым літараль ад 0—4 м у асноўным складзена з дробна-зерневага пяску з дамешкай раслінных рэштак, і толькі ў раёне 14-15 станцый знойдзен глеісты грунт, багаты на раслінныя гніючыя рэшткі з пахам $H_2S$. Прафундаль воз. Сёмага ад 4—22 м пакрыта глеем цёмна-шэрага колера, паводле мікраскапічнага аналізу вельмі падобным на глей воз. Шостага. Гэты грунт можа быць ахарактарызаваны як аўтахтонная гітыя.

### Кампаненты доннай фауны

Літараль воз. Шостага, пакрытая пясчанымі адкладамі, з дамешкай гліны і раслінных рэштак, мае добра развітыя

*Табліца № 44*

**Воз. Шостае і Сёмае. Падліковая табліца фауны літаралі**

| №№ п/п | Назва арганізмаў | Літараль воз. Шостага | Зараснікі рэчак воз. Шостага | Літараль воз Сёмага |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Stilaria lacustris | + | — | — |
| 2 | Tubifex sp. | + | + | — |
| 3 | Lumbriculus sp. | — | + | — |
| 4 | Herpobdella octoculata | + | + | + |
| 5 | Piscicola geometra | + | — | + |
| 6 | Glossosiphonia complanata | + | + | + |
| 7 | Asellus aquaticus | + | + | — |
| 8 | Bithynia tentaculata | + | + | + |
| 9 | Amphipeplia glutinosa | + | — | — |
| 10 | Limnaea auricularia | + | + | — |
| 11 | Limnaea stagnalis | — | + | + |
| 12 | Physa fontinalis | + | + | — |
| 13 | Valvata piscinalis | + | — | — |
| 14 | Sphaerium sp. | + | + | + |
| 15 | Lithoglyphus naticoides | + | — | + |
| 16 | Dreissena polymorpha | + | + | + |
| 17 | Limnesia maculata | — | + | + |
| 18 | Chironomus plumosus | — | + | — |
| 19 | Endochironomus | + | + | — |
| 20 | Chironominae воз. Круглага | + | + | — |
| 21 | Cryptochironomus | + | — | — |
| 22 | Trichotanypus sagittalis | + | + | — |
| 23 | Stictochironomus | + | + | + |
| 24 | Corixa | + | — | + |
| 25 | Leptocerus sp. | + | + | — |
| 26 | Molanna sp. | + | — | + |
| 27 | Anabolia sp. | — | + | + |
| 28 | Nepa sp. | — | + | — |
| 29 | Notonecta glaucopis | — | + | — |
| | Колькасць форм | 20 | 21 | 11 |

зараснікі рдэстаў, чаротаў, трысця—таму яе біяцэноз вельмі багата прадстаўлены. Для вывучэння мікрафауны літаралі былі ўзяты выключна скрабковыя пробы (на 1, 2, 7, 8, 10, 11 і 12 і 17 станцыях) і ў зарасніках вусцяў рэчак (на 4, 6, 9, 19, 23 і 24 станцыях), зводны матэрыял па скрабковых пробах падаецца на табл. 44. Як відаць з табліцы, фауна літаралі ў асноўным складаецца з Hirudinea, Mollusca, Chironomidae і Trichoptera, прычым малюскі бяруць верх над іншымі групамі.

Літараль воз. Сёмага па свайму пясчанаму грунту, развіццю макрафітаў, вельмі падобна да літаралі воз. Шостага, таму яе біяцэноз складаецца з тых самых форм (гл. табл. 44, даследваны пробы з 3, 13, 14 і 15 станцый). Наяўнасць пясчаных грунтаў у літаралі стварае спрыяючыя ўмовы для жыцця ручайнікаў віду Molanna і Leptocerus і хіранамід і віду Stictochironomus і Cryptochironomus.

Вобласць прафундалі воз. Шостага, пакрытая цёмна-шэрым глеем тыпу гітыі, дае з плошчы ў 0,1 кв. м да 48 арганізмаў (гл. табл. 45), дзе паказаны біятопы па асобных станцыях, назва арганізмаў, іх колькасць і вага ў мгр з плошчы 0,1 кв. м. Было ўзята 12 проб з 8 станцый, (№№ станцый: 20, 21, 25, 16, 18, 22, 27 і 23). Біяцэноз цёмна-шэрага глею складаецца з наступных арганізмаў: Tubifex sp., Lumbriculus sp., малюскаў—Bithynia tentaculata, Sphaerium, Lithoglyphus naticoides, Dreissena polymorpha і хіранамід —Chironomus plumosus, Trichotanypus sagittalis, Cryptochironomus і Polypedilum. Сустракаецца даволі часта ў невялікай колькасці Corethra. На табл. 47 паказана роля хіранамід, тубіфіцыд і малюскаў у бентасе прафундалі воз. Шостага.

Бентас па колькасці форм, якія ў яго ўваходзяць, вельмі бедны, але адзначаецца характэрнай асаблівасцю—наяў-

*Табліца № 45*

**Воз. Шостае. Прафундаль ад 4—20 м**

| Дата | №№ проб і станц. | Глыбіня | Грунт | Назва арганізмаў | Колькасць арганізмаў на 0,1 м² | Сярэдняя вага ў мгр. | Агульная колькасць арганізмаў | Агульная вага ў мгр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | XVI | 6,5 | Глей цёмна-шэрага колера | Chironomus plumosus . . . . . | 1 | 35.5 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata (пустая) . . . | (12) | — | | |
| | | | | Dreissena polymorpha . . . | 44 | 601,0 | | |
| | | | | Dreissena polymorpha (пустая) . . | (212) | — | | 107,5 |
| | 632 | | | Lumbriculus sp.. . | 3 | 24.0 | 4/48 | 26551.5 |

| Дата | №№ проб і станц. | Глыбіня | Грунт | Назва арганізмаў | Колькасць арганізмаў на 0,1 $м^2$ | Сярэдняя вага ў мгр | Агульная колькасць арганізмаў | Агульная вага ў мгр |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | XVIII | 6.5 | Глей цёмна-шэрага колера з дамешк. рэштак драўніны | Chironomus plumos. | 5 | 35.0 | | |
| | | | | Trichotanypus sagittalis . . . . | 1 | 5.0 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata (пустая) . . . | (5) | — | | |
| | | | | Limnaea peregra . | 1 | 80.0 | | |
| | 636 | | | Lumbriculus sp. . | 7 | 24.0 | 14 | 328,0 |
| | XXII | 10.0 | Глей цёмна-шэрага колера з дамешкай пяску | Chironomus plumos. | 5 | 36.0 | | |
| | | | | Trichotanypus sagittalis . . . . | 4.0 | 5.0 | | |
| | | | | Cryptochironomus . | 2 | 9.0 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata (пустая) . . . | 1 | — | | |
| | 647 | | | Sphaerium sp. . . | 1 | 13.0 | 12 | 231,0 |
| | XXV | 10.0 | Глей цёмна-шэрага колера | Chironomus plumos. | 6 | 40.2 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata. | 1 | 60.0 | | |
| | | | | Sphaerium sp. . . | 2 | 14.0 | | |
| | 654 | | | Tubifex sp. . . . | 4 | 6.0 | 13 | 353,2 |
| | XXVII | 7.0 | Глей шэрага колера з пяску | Cryptochironomus . | 4 | 8.0 | | |
| | | | | Polypedilum . . | 3 | 6.0 | | |
| | | | | Trichotanypus sagittalis . . . . | 7 | 3.0 | | |
| | | | | Lithoglyphus naticoides . . . . | 11 | 46.0 | | |
| | | | | Dreissena polymorpha. . . . . | 4/(65) | 602.0 | | 579 |
| | 660 | | | Tubifex sp. . . . | 2 | 6.0 | 27/31 | 2997 |
| | XXVII | 8.0 | Глей шэрага колера | Cryptochironomus . | 3 | 8.0 | | |
| | | | | Trichotanypus sagittalis . . . . | 2 | 3.0 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata (пустая) . . . | (27) | — | | |
| | | | | Lithoglyphus naticoides . . . . | 9 | 42.0 | | |
| | | | | Limnaea auricularia | 1 | 50.0 | | |
| | | | | Dreissena polymorpha . . . . | 2(376) | 309.0 | | 466 |
| | 662 | | | Tubifex sp. . . . | 2 | 4.0 | 17/19 | 1084 |

| Дата | №№ проб і станц. | Глыбіня | Грунт | Назва арганізмаў | Колькасць арганізмаў на 0,1 $м^2$ | Сярэдняя вага ў мгр. | Агульная колькасць арганізмаў | Агульная вага ў мгр |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | XXII | 9.0 | Глей шэрага колера з дамешкай гліны | Chironomus plumosus . . . . . | 4 | 34.0 | | |
| | | | | Corethra . . . . | 1 | 6.0 | | |
| | | | | Limnaea auricularia. | 2 | 48.0 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata. | 3 | 61.0 | | |
| | | | | Lithoglyphus naticoides . . . . | 1 | 46.0 | | |
| | | | | Tubifex sp. . . . | 1 | 4.0 | 12 | 471 |
| | XXIII | 6.5 | Глей цёмна-шэрага колера з дамешкай драўніны | Chironomus plumos. | 4 | 32.5 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata (пустая) . . . | (7) | — | | |
| | | | | Dreissena polymorpha . . . . | 1 | 303.0 | | |
| | 679 | | . | Tubifex sp. . . . | 4 | 4.0 | 8/9 | 146,5 / 449,5 |
| 10/VII | XX | 11.0 | Глей цёмна-шэрага колера | Trichotanypus sagittalis . . . . | 1 | 5.0 | | |
| | | | | Tubifex sp. . . . | 2 | 4.0 | | |
| | | | | Sphaerium sp. . . | 2 | 13.0 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata (пустая) . . . | (7) | — | | |
| | 640 | | | Dreissena (пустая). | (56) | — | 5 | 39,0 |
| 10/VII | XXI | 16.0 | „ | Chironomus plumosus . . . . . | 1 | 35.5 | | |
| | | | | Trichotanypus sagittalis . . . . | 7 | 5.0 | | |
| | | | | Corethra . . . | 13 | 6.0 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata. | 2 | 62.0 | | |
| | | | | Sphaerium sp. . . | 7 | 15.0 | | |
| | 645 | | | Sphaerium (пустая). | маса | — | 30 | 377 |
| 10/VII | XXV | 10.0 | „ | Dreissena polymorpha . . . . . | 2/(24) | 580.0 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata (пустая) . . . | (11) | — | | |
| | 673 | | | Tubifex sp. . . . | 3 | 4.0 | 3/5 | 12,0 / 1172,0 |
| 27/VII | XX | — | „ | Corethra . . . . | 2 | 6.0 | | |
| | | | | Tubifex sp. . . . | 2 | 4.0 | | |
| | | | | Bithynia tentaculata. | 7 | 58.0 | 11 | 426,0 |

насцю Dreissena polymorpha, якая не была знойдзена ні ў адным з даследваных азёр. Dreissena polymorpha з'яўляецца масавай формай паўночна-германскіх азёр, куды зайшла параўнаўча нядаўна. Гэта форма набліжае воз. Шостае паводле складу бентаса да азёр паўночнай Германіі. Трэба адзначыць, што дночарпальнік апрача жывой даставаў пустыя ракавіны Dreissena palymorpha да 376 экз., прычым яна сустракаецца ў прафундалі на глыбіні ад 6, 5—11 м. Corethra ў воз. Шостым сустракаецца ў нязначнай колькасці—13 экз. з аднаго кв. м, таму карэтравым назваць яго не можна. Хіранаміды таксама прадстаўлены слаба—50 экз. з 1 кв. м. Кіруючую ролю ў бентасе прафундалі адыгрываюць малюскі—85 экз. з 1 кв. м, а ў адносінах вагі яны ў 24,5 разоў перавышаюць колькасць вагі хіранамід (гл. табл. 46).

*Табліца № 46*

**Колькасць хіранамід, тубіфіцыд і малюскаў, якая прыходзіцца па 1 кв. м прафундалі**

| | Chironomus plumosus | Trichotanypus sagittalis | Cryptochironomus | Palypedilum | Усяго хіранамід | Corethra | Tubifex sp. | Sphaerium | Bithynia tentaculata | Lithoglyphus naticoides | Dreissena polymorpha | Усяго малюскаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Кольк. арган. | 22 | 18 | 7 | 3 | 50 | 13 | 16 | 10 | 10 | 17 | 44 | 85 |
| Вага ў мгр . | 770 | 90 | 56 | 18 | 924 | 78 | 64 | 130 | 600 | 799 | 21076 | 22659 |

Прафундаль воз. Сёмага пакрыта глеем цёмна-шэрага колера. Гэты тып грунту дае 51 экз. з плошчы ў 0,1 кв. м. Біяцэноз яго вельмі аднастайны і складаецца з: Tubifex sp. Sphaerium, Chironomus plumosus, Pentapedilum, Trichotanypus sagittalis і Sergentia, Corethra не знойдзена зусім гл. табл. 47).

Lenz лічыць лічынку Sergentia характэрнай для азёр, якія займаюць прамежнае палажэнне паміж алігатрофнымі і еўтрофнымі. Яна з'яўляецца кіруючай формай некаторых нарвежскіх высокагорных азёр, вельмі чулая да наяўнасці гумусу.

У табл. 48 паказана роля хіранамід, тубіфіцыд і малюскаў у прафундалі воз. Сёмага (на 1 кв. м).

Corethra ў воз. Сёмым не знойдзена зусім. Хіранаміды прадстаўлены ў колькасці 86 экз. з 1 кв. м. Тубіфіцыды ў 2 разы перавышаюць колькасць хіранамід—186 з 1 кв. м, але ўступаюць ім у адносінах вагі. Каб адзначыць у бентасе ролю хіранамід і тубіфіцыд, воз. Сёмае можна характарызаваць як хіранаміднa-тубіфіцыднае возера.

*Табліца № 47*

**Воз. Сёмае. Прафундаль ад 4–22,5 м**

| №№ проб і станц. | Глыбіня ў м | Грунт | Назва арганізмаў | Кольк. арган. на 0,1 мг | Сярэдняя вага ў мгр | Агульная кольк. арганізмаў | Агульная вага ў мгр |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| XXVIII | 15.5 | Глей цёмна-шэрага колера | Chironomus plumosus . | 2 | 16.5 | | |
| | | | Pentapedilum . . . | 3 | 2.0 | | |
| | | | Sergentia . . . . . | 3 | 6.0 | | |
| 665 | | | Tubifex sp. . . . . | 14 | 6.0 | 22 | 141. |
| XXIX | 15.0 | Глей шэрага колера | Chironomus plumosus . | 4 | 20.0 | | |
| | | | Sergentia . . . . . | 1 | 6.0 | | |
| | | | Sphaerium . . . . | 3 | 17.0 | | |
| 671 | | | Tabifex sp. . . . . | 7 | 6.0 | 15 | 179.0 |
| XXVIII | 15.0 | Глей цёмна-шэрага колера | Chironomus plumosus . | 13 | 18.0 | | |
| | | | Trichotanypus sagittalis | 1 | 5.0 | | |
| | | | Bithynia tentaculata (пустая) . . . . . | (2) | — | | |
| | | | Sphaerium . . . . | 3 | 16.0 | | |
| 683 | | | Tubifex sp. . . . . | 34 | 6.0 | 51 | 491 |

*Табліца № 48*

| Воз. Сёмае | Chironomus plumosus | Trichotanypus sagittalis | Pentapedilum | Sergentia | Усяго хіранамід | Tubificidae | Sphaerium |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Грунт цёмна-шэры глей (прафундаль) . . . | 63 | 3 | 10 | 10 | 86 | 186 | 20 |

**Колькасныя даныя па доннай фауне**

У воз. Шостым і ў воз. Сёмым у зоне літаралі былі ўзяты толькі скрабковыя пробы, таму прадукцыйнасць дна літаралі дзеля недастачы проб дночарпальнікам вылічана быць не можа. Прафундаль воз. Шостага, пакрытая цёмна-шэрым глеем, дае максімальна да 6 экз. Chironomus plumosus з сярэдняй вагой ад 32,5—40 мгр (гл. табл. 45). Пробы бентаса, браныя 27/VIII—1932 г., ніякай істотнай змены ў колькасці і ў вазе Chironomus plumosus не далі. Апроч хірана-

мід у бентасе віднае месца займае з паміж малюскаў Dreissena polymorpha, якая па колькасці даходзіць да 44 экз. з 0,1 кв. м. (16 станцыя).

У літаратуры на Dressena polimorpha часта паказваюць як на харч для сігаў. У табл. 49 паданы даныя аб колькасці арганізмаў, іх сярэдняй вазе ў мгр з 12 станцыі прафундалі.

*Табліца № 49*

**Колькасць арганізмаў на (0,1 кв. м) цёмна-шэрым глеі прафундалі**

| №№ станцый | Глыбіня ў метрах | Колькасць арганізмаў | Сярэдняя вага ў мгр | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| 20 | 11,0 | 5 | 39,0 | У дужках паказана колькасць арганізмаў і іх вага без Dreissena polymorpha |
| 21 | 16,0 | 30 | 377,0 | |
| 25 | 10,0 | 5(3) | 1172(12) | |
| 20 | 11,0 | (1) | 426,0 | |
| 16 | 6,5 | 48,(4) | 26551,5(107,5) | |
| 18 | 6,5 | 14 | 328,0 | |
| 22 | 10,0 | 12 | 231,0 | |
| 25 | 10,0 | 13 | 353,2 | |
| 27 | 7,0 | 31(27) | 2997(579) | |
| 27 | 8,0 | 19,(17) | 1084(466) | |
| 22 | 9,0 | 12 | 471 | |
| 23 | 6,5 | 9(8) | 449,5(146,5) | |

Сярэдняя колькасць арганізмаў для 12 станцый=17,4(13).
Сярэдняя вага—2873,25(294,65) мгр.

Калі ўлічваць Dreissena polymorpha, то сярэдняя колькасць арганізмаў для 12 станцый будзе 17,4 пры сярэдняй вазе 2873 мгр, без Dreissena polymorpha, сярэдняя колькасць арганізмаў будзе роўная 13 пры сярэдняй вазе—294,6 мгр.

Прафундаль воз. Сёмага таксама пакрыта глеем шэрага колера тыпу гітыя.

Гэты грунт дае максімальна да 13 экз. Chironomus plumosus (гл. табл. 47), прычым з вельмі малой сярэдняй вагой—ад 16,5—20 мгр (такая малая вага Chironomus plumosus не была знойдзена ні ў адным з даследваных азёр). У 3-х пробах, узятых на возеры Сёмым, колькасць арганізмаў і іх вага ў мгр на 0,1 кв. м размяркоўваецца наступным чынам:

28 станцыя глыбіня 15,5 — 22 экз. — вага 141 мгр
29 " " 15,0 — 14 " — " 179 "
28 " " 15,0 — 15 " — " 491 "

Сярэдняя колькасць арганізмаў для 3 станцыі—29 экз. пры сярэдняй вазе ў 268 мгр.

Разлік прадукцыйнасці прафундалі воз. Шостага і воз. Сёмага паказан на табл. 50, дзе падана сярэдняя колькасць арганізмаў і сярэдняя вага з плошчы 1 га ў кг.

Прафундаль воз. Шостага з пункту гледжання яе рыбагаспадарчай вартасці можа быць ацэнена як вобласць высокапрадукцыйная (287,3 кг/га) пры ўмове, што кампаненты доннай фауны будуць з'яўляцца харчовымі рэсурсамі для рыбы. Калі-ж улічыць, што Dreissena polymorpha з сваей тоўста-сценнай ракавінай і даволі буйным фарматам не ідзе на харч і калі адсюль яе не прыймаць пад увагу пры вылічэнні прадукцыйнасці біямасы дна—дык атрымаецца іншы малюнак. Прафундаль воз. Шостага становіцца мала-прадукцыйнай (без Dreissena polymorpha), яна дае 29,3 кг/га. Таксама мала-прадукцыйнай будзе і прафундаль воз. Сёмага: яна дае 26,8 кг/га.

*Табліца № 50*

| Назва азёр | Сярэдняя колькасць арганізмаў на 2 га | Сярэдняя вага ў кг/га | Заўвагі |
|---|---|---|---|
| Прафундаль воз. Шостага—цёмна-шэры глей тыпа гітыя | 1.741.600<br>1.300.000 | 287,3<br><br>29,4 | Разлік з Dreissena polymorpha.<br>Без Dreissena polymorpha |
| Прафундаль воз. Сёмага—цёмна-шэры глей тыпу гітыя | 2.900.000 | 26,8 | |

* * *

Уся мясцовасць даследванага раёна становіць сабой раўніну з выразнымі пагоркамі і носіць адбітак калісці перажытага ёю ледавіковага перыяду. Усе азёры гэтага раёна ледавіковага паходжання, аб чым сведчаць такія адзнакі іх, як глыбіня, форма, пабудова азёрнага ложа і арыентаванне галоўнай восі азёр прыблізна ў адным і тым самым кірунку—з поўначы на поўдзень.

Паводле Тінемана-Наўмана, кожнае возера ў сваей гісторыі развіцця абавязкова праходзіць шлях ад алігатрофнага тыпу праз еўтрофны да дыстрофнага, прычым такі генезіс з'яўляецца характэрным для сучасных умоў сярэдняй часткі Еўропы і Паўночнай Амерыкі. Але апроч такога шляху развіцця можна наглядаць і пераход ад алігатрофных умоў адразу да дыстрофіі, што адзначаецца ў літаратуры для азёр Скандынаўскіх і для некаторых азёр Мешчэрскай нізіны Разанскай губ. (Н. Дэксбах, 1928).

Сярод групы даследваных азёр алігатрофны тып не знойдзен зусім. Да возера пераходнага тыпу, алігаеўтрофных, можна залічыць воз. Сёмае, у якім ёсць наступныя, уласцівыя гэтаму тыпу азёр, рысы: вялікая празрыстасць вады, малая колькасць солей кальцыя, адсутнасць цвіцення сіне-зялёнымі водараслямі, слабае развіццё макрафітаў у літаральнай зоне, беднасць доннай фауны, прысутнасць лічынак Sergentia (стэнаоксібіёнт).

Астатнія вадаёмы (Першае, Другое, Трэцяе, Чацвертае, Пятае і Шостае) характарызуюцца наступнымі адзнакамі:

1) глыбіня азёр сярэдняя (ад 5 да 20 м),
2) слабая празрыстасць вады,
3) багацце вады на солі кальцыя,
4) рэакцыя асяроддзя pH>7(pH ад 7—8,4),
5) наяўнасць грунту тыпу аўтахтоннай гітыі,
6) добра развітая берагавая расліннасць,
7) добра развіты планктон у летнія месяцы. Ва ўсіх азёрах у зоапланктоне галоўнае месца займаюць Cladocera і Copepoda; Rotatoria скрозь адыгрываюць падпарадкаваную ролю, і толькі ў воз. Пятым, побач з Cladocera, добра прадстаўлены Rotatoria,
8) інтэнсіўнае цвіценне сіне-зялёнымі водараслямі,
9) беднасць відамі доннай фауны,
10) наяўнасць у бентасе еўрыоксібіёнтнай Chironomus—фауны, галоўную ролю ў бентасе адыгрывае Chironomus plumosus, і толькі ў воз. Першым побач з Ch. plumosus ёсць Tanytarsus і Stictochironomus (еўтрофны мезаоксібіёнт),
11) наяўнасць лічынкі Corethra ў некаторых азёрах (Другое, Пятае, Шостае),
12) Донная фауна колькасна даволі багатая: максімум жывёл ад 1230 да 1620 на кв. м, сярэдняя колькасць арганізмаў ад 130—628 экз., з сярэд. ваг. ад 637 да 2871 м на 1 кв. м.

Такім чынам, паводле класіфікацыі Тінемана-Наўмана, усе гэтыя азёры павінны быць залічаны да тыпу еўтрофных вадаёмаў з нязначнай дыстрофіяй у тых участках, дзе ідзе або засплавіневанне, або прыбыванне алахтонных частак, якія прыносяцца рэчкамі, ці канавамі з прылеглых да азёр балот (паўночна-заходні выступ воз. Першага, паўночны канец воз. Чацвертага).

Колькаснае вывучэнне бентаса ў даследваных азёрах дае магчымасць ведаць, на колькі адзін вадаём багацейшы кормам за другі, што мае важнае значэнне ў галіне рыбалоўства і рыбаводства.

Калі параўноўваць атрыманыя даныя па біямасе даследваных азёр з данымі, атрыманымі іншымі аўтарамі, для СССР і іншых краін (гл. табл. 51), то выходзіць, што толькі воз. Сёмае, якое дае 26,8 кг/га, падобнае да Карэльскага Габ-возера—29,8 кг/га і Другое—58,9 кг/га, падобнае

*Табліца № 51*

**Параўнаўчая табліца сярэдняй доннай прадукцыі біёмасы некаторых азёр БССР і іншых краін (у кг/га)**

| №№ п/п | Вадаёмы і вобласці | Хто апрацоўвае | Плошча возера ў км. | Максімальн. глыб. у мт | Сярэдн. прадук. ў кг га | Усе азёры ці асобн. зоны | Час работ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I. БССР | | | | | | |
| 1 | Воз. Першае | Гусева | — | 10,0 | 180,6 | Усе азёры | лета 1932 г. |
| 2 | „ Другое | | — | 19,0 | 58,9 | „ | „ |
| 3 | „ Чацвертае | | — | 5,0 | 226,2 | Прафунд. | „ |
| 4 | „ Трэцяе | | — | 7,0 | 158,7 | „ | „ |
| 5 | „ Пятае | | — | 14,0 | 151,0 | „ | „ |
| 6 | „ Шостае | | — | 20,0 | 287,3 альбо 29,4[1]) | „ | „ |
| 7 | „ Сёмае | | — | 22,0 | 26,8 | „ | „ |
| | II. СССР | | | | | | |
| 8 | Воз. Пераслаўскае | Дэксбах | 49,38 | 24,25 | 164,8 | Усе азёры | лета 1929 г. |
| 9 | „ Чорнае | „ | 0,026 | 4,4 | 10,2 | „ | „ |
| 10 | „ Бісерава | Ліпіна | 1,035 | 4,0 | 180 | „ | „ |
| 11 | „ Сенежскае | Елеонскі | 7,0 | 6,0 | 194,3 | „ | жнівень верасень 1927 г. |
| 12 | „ Окскай поймы | Жадзін | — | — | 259,1 | „ | „ |
| 13 | „ Чаны Заход. Сібіры | Беразоўскі | 3619,0 | 9,0 | 94,1 | „ | весна, лета, восень |
| 14 | „ Сартлан Зах. Сібіры | Пірожнікаў | 268,84 | 5,9 | 75,62 | „ | лета 1927 г. |
| 15 | „ Харошае | Зверава | 21,4 | 5,0 | 208,0 | „ | лета 1928 г. |
| 16 | „ Крывое | „ | 35,7 | 2,0 | 30,0 | „ | „ |
| 17 | „ Ільмень | Домрачэў | 1124,3 | 4,0 | 477,9 | „ | канец лета 1927 г. |
| 18 | „ Севан | Арнольд | 1413,0 | 90 | 17,7 | „ | „ |
| 19 | Габ—возера - Карэлія | Чэрноўскі | 3,5 | 18,0 | 29,08 | „ | „ |
| 20 | Перт—возера | „ | „ | 20 | 60,48 | „ | „ |
| | III. Азёры іншых краін | | | | | | |
| 21 | 16 фінскіх азёр | Valle | — | — | 9,24 | „ | 1927 г. |
| 22 | 10 нарвежскіх азёр | Olstad | — | — | 59,2 | „ | 1925 г. |
| 23 | 19 шведскіх азёр | Alm | — | — | 34,7 | „ | — |
| 24 | Lake Simcol Канада | Rawson | 960,37 | 44 | 12,38 | „ | — |

[1]) Разлік зроблен без Dreissena polymorpha.

